# pARTisan

## Альманах сучаснае беларускае культуры

Заснаваны ў 2002 годзе



Менск «Галіяфы» 2015

# pARTisan

**Заснавальнік Артур Клінаў**

**Рэдакцыйная рада:** Валянцін Акудовіч, Алесь Анціпенка, Ігар Бабкоў, Лявон Вольскі, Сяргей Дубавец, Валянціна Кісялёва, Сяргей Харэўскі, Вольга Шпарага

**Галоўны рэдактар:** Артур Клінаў
**Адказны рэдактар:** Лія Кісялёва
**Рэдактары нумару:** Таня Арцімовіч
**Карэктура:** Ліда Наліўка
**Пераклад на ангельскую мову:** Сьвятлана Соўсь, Вольга Бубіч

**Дызайн і вёрстка:**
Мак Разанаў @ Маск & Feddenka Ryazanov's Fake Vintage Studio
**Фатаграфіі** © Аліна і Джэф Блюміс, Руслан Вашкевіч, Сяргей Кірушчанка, Артур Клінаў, Уладзімер Лапо, Мак Разанаў, Яўген Шадко. А таксама архівы НММУ і ЦСМ у Тбілісі.

**Адрас:**
вул. Чарвякова 18-63
220068 Мінск, Беларусь
**e-mail:** arturklinau@gmail.com

**На вокладцы:** Руслан Вашкевіч. Ня гледзячы ні на што. 2013.
Палатно, алей. 200 х 300

**The Founder and Editor-in-Chief:** Artur Klinau
**The Editor:** Lija Kisialova
**The editor of the issue:** Tania Arcimovič
**The Belarusian editors:** Lija Kisialova, Lida Naliuka
**The Translator:** Sviatłana Sous, Volha Bubič
**Design:** Маск & Feddenka Ryazanov's Fake Vintage Studio

**Cover:** Ruslan Vaškievič (Ruslan Vashkevich). Not looking at anything. 2013.
Canvas, oil. 200 x 300



**Выданьне зьдзейсненае ў супрацоўніцтве з Інстытутам імя Гётэ ў Менску**
**The Eurozine network's member (since 2014)**

eurozine








**Руслан Вашкевіч.** Ня гледзячы ні на што.  2013. Палатно, алей. 200 x 300

**Ruslan Vaškievič (Ruslan Vashkevich).** Not looking at anything. 2013. Canvas, oil. 200 x 300

# ШТЭФАН ВАКВІЦ:

# МУЗЭЙ ЯК АЎТАПАРТРЭТ ГРАМАДЗТВА

*Штэфан Ваквіц з 1986 году працуе ў Гётэ-Інстытуце (Нью-Дэлі, Кракаў, Брацiслава, Нью-Ёрк). На дадзены момант узначальвае Інстытут імя Гётэ ў Грузіі. Атрымаў ступень па спэцыяльнасьці германістыкі, гісторыі й філязофіі. Пісьменьнік. Ініцыятар праекту* ***«Машына часу. Музэі ў XXI стагодзьдзі»****, двухгадовай рэгіянальнай праграмы Гётэ-Інстытутаў былых савецкіх рэспублікаў, прысьвечанай тэме постсавецкага музэю (2013–14 гг.), у якой узялі ўдзел музэйныя работнікі й актывісты з Азэрбайджану, Армэніі, Беларусі, Грузіі, Казахстану, Кыргыстану, Расеі, Таджыкістану, Узбэкістану й Украіны. Праграма была накіраваная на мадэрнізацыю музэяў у краінах Усходняй Эўропы й Цэнтральнай Азіі й на толькі ўлучала ў сябе практычныя сэмінары, для правядзеньня якіх запрашаліся спэцыялісты з Заходняй Эўропы, але й дала магчымасьць удзельнікам рэалізаваць самастойныя праекты (выставы, сэмінары) у сваёй краіне.*

Па працы кожныя чатыры ці пяць гадоў мне даводзіцца знаёміцца з новымі краінамі й гарадамі, чужымі тыпамі калектыўнага мысьленьня й культурнай атмасфэрай. Выходзячы з майго багатага досьведу, я пачынаю зь візыту ў самы важны музэй гэтага месца. Магчыма, гэта гучыць даволі банальна, і часам агульная карціна «расказанай» у музэі культуры далёка не адпавядае праўдзе, але гэта ўсё адно цікава. Манера таго, у якім ракурсе хочуць паказаць вам эліту краіны, ейных жыхароў, грамадзтва, тыя ці іншыя аб'екты, сьведчыць пра многае.

**Праз музэі мы можам разумець краіну, грамадзтва й нават самых сябе. Бо тое, што зьбіраецца й выстаўляецца ў музэі, паказвае каштоўнасьці гэтага грамадзтва. Музэй, на маю думку, — гэта своеасаблівы аўтапартрэт грамадзтва.** І праз яго можна ўбачыць ня толькі тое, як на афіцыйным узроўні прэзэнтуе сябе грамадзтва, як яно сябе бачыць ці якім хацела б паказаць сябе іншым. Аўтапартрэт у тым ліку можа выявіць шмат рысаў, якія, магчыма, партрэтаваны й не хацеў бы паказваць. Гэта такія субвэрсіўныя або самасубвэрсіўныя практыкі.

Я памятаю сваё наведваньне Нацыянальнага музэю імпэратарскага палацу ў Тайбэі ў 1991 годзе. Амаль у кожным пакоі галоўным аб'ектам было ня пышнае багацьце традыцыйнага кітайскага мастацтва — сапраўдны гонар гэтай захапляльнай калекцыі, — а падобны да абраза партрэт або манумэнтальная статуя Чана Кайшы, зьмешчаныя пасярэдзіне кожнай залі на самым бачным месцы. Ці, напрыклад, Мэтраполітэн-музэй у Нью-Ёрку: велізарная заля пры ўваходзе сканструяваная накшталт лазьняў Каракалы ў Рыме. Манумэнтальныя італьянскія руіны нібыта містычным чынам аднавіліся на ўзьбярэжжы Гудзону, цэнтар антычнай Рымскай імпэрыі мэтафарычна «паўстаў» на Верхнім Усходнім Манхэтане. Гэтая ідэя была ажыцьцёўленая напрыканцы XIX стагодзьдзя групай фантастычна багатых і амбітных у сфэры культуры капіталістаў: Мэлані, Вандэрбільта, Ракфэлера й Уітні. Унутры будынку вы трапляеце ў «энцыклапэдычны» музэй — тып інстытуцыі, якая зьбірае мастацтва розных культураў з усяго сьвету, што яшчэ раз паказвае ўнівэрсальнае (імпэрыялістычнае) уяўленьне, якое створана ў капіталістычнай арыстакратыі аб самой сабе ў часы нью-ёрскага «пазалочанага стагодзьдзя». То бок музэі ёсьць храмамі сьвецкіх таварыстваў.

Кожны музэй, я мяркую, так ці інакш спрабуе паказаць тое, якімі мы ёсьць, з аднаго боку. А з другога — мы можам разумець тое, як грамадзтва бачыць само сябе.

Былыя рэспублікі Савецкага Саюзу знаходзяцца зараз у працэсе рэвалюцыяў: палітычных, эканамічных, сацыяльных і мэнтальных. Але для гэтых краінаў, на мой погляд, самая важная рэвалюцыя палягае ў тым, як яны бачаць або хочуць бачыць самых сябе. Напрыклад, вельмі цікава паглядзець на тыя ці іншыя статуі, якія замянілі помнікі Леніна, што калісьці сустракаліся паўсюль на былых цэнтральных плошчах гарадоў. У Ташкенце замест Леніна ўсталявалі статую Тамэрляна, у Тбілісі — Сьвятога Георгія, які забівае дракона, а ў Эрэване п'едэстал пакуль пустуе. Тое ж самае можна сказаць і пра вялікія музэі постсавецкіх гарадоў, якія пасьля 1990 году зноўку «выдумалі» сябе. Некаторыя зь іх захавалі свой ранейшы выгляд, ад некаторых засталіся толькі руіны былых савецкіх прадстаўнічых храмаў сацыялістычнай радзімы. Астатнія, накшталт Нацыянальнага музэю Грузіі, зноў знайшлі сябе, стаўшы сучаснымі гульцамі міжнароднай музэйнай індустрыі ў прасторы паміж Парыжам і Дубаі, Більбао, Пітсбургам і Бэрлінам.

**І праз такія зьмены — хуткія або вельмі павольныя — можна бачыць, як у люстэрку, рух, трансфармацыю самога грамадзтва ў гэтых краінах.**

Гэта тычыцца ня толькі краінаў постсавецкага блёку. Музэі заходніх дзяржаваў таксама распавядаюць пра тое, што адбываецца ў іх і зь іхнымі грамадзтвамі. Там, напрыклад, музэі ўсё больш становяцца машынай забавы: наведнік павінен прайсьці праз вялікую колькасьць крамаў, перш чым патрапіць у музэй. Актуальная праблема камэрцыялізацыі, калі паказьнікам таго, добры музэй ці не, служыць колькасьць наведвальнікаў у год ці прададзеных у музэйнай краме кніг. І гэта таксама ёсьць пэўным аўтапартрэтам заходняга грамадзтва. Таму, калі разважаць пра выніковы праекту «Машына часу. Музэі ў XXI стагодзьдзі», які афіцыйна завершыўся напрыканцы 2014 году, прадуктыўным мне здаецца ня толькі досьвед, што атрымалі ўдзельнікі праграмы. Магу сказаць, што й мой погляд на гэтую тэму й праблему зьмяніўся. Як арганізатары, мы ня можам казаць пра вынікі, але толькі пра тое, што б мы хацелі бачыць. Але тое, што мы, магчыма, атрымалі ці атрымаем, не супадзе з нашымі чаканьнямі, і, напэўна, гэта лепш, таму што больш рэалістычна.

*Тэкст падрыхтаваны на падставе адмысловага інтэрвію «pARTisan» са Штэфанам Ваквіцам у Тбілісі, а таксама фрагмэнтаў артыкулу Штэфана «Вяртаньне да храмаў сэкулярызму. Уводзіны да праекту «Музэй — Машына часу» (Re: Museum. Тбілісі, 2014).*

**Артур Клінаў.** Востраў. 2006

**Artur Klinaŭ.** Island. 2006



**Інсталяцыя мастачкі Вольгі Міленцій** на фасадзе музэю ў межах праекту «Міт. Украінскае барока» (2012), куратары Аксана Баршынава (НММУ), Галіна Склярэнка (незалежная куратарка). Фотаздымак з архіву НММУ

**Instalation by Olga Milentiy.** Myth Ukrainian Baroque art project. 2012. Curators: Oksana Barshynova (NAMU), Galyna Skliarenko (freelance curator). From NAMU archive

# STEPHAN WACKWITZ:

# A MUSEUM AS A SELF-PORTRAIT OF SOCIETY

*Since 1986 Stephan Wackwitz has been working at the Goethe-Institute (New Delhi, Krakow, Prague, New York). At the moment, he heads the Goethe Institute in Georgia. Received a degree in Germanic studies, history, and philosophy. A writer. An initiator of the two-year regional project **«The Time Machine. Museums in the XXI Century»** (2013/14). The participants of the project were museum professionals and activists from Armenia, Azerbaijan, Belarus, Georgia, Kazakhstan, Kyrgyzstan, Russia, Tajikistan, Uzbekistan and Ukraine. The program was aimed at the modernization of museums in Eastern Europe and Central Asia. In addition to workshops with the participation of specialists from Western Europe it gave participants an opportunity to implement independent projects (exhibitions, seminars) in their own countries.*

Due to my profession, every four or five years I have to meet new countries and cities, foreign types of collective thinking and cultural atmosphere. Thanks to my rich experience I start with a visit to the most important museum of the place. This may sound pretty corny, and sometimes the overall picture «told» in the museum culture is far from the truth, but it's still interesting. The way from which angle they want to portray the elite of the country and its citizens, members of society, these or other objects really says a lot. Through the museum we can understand the country, society, and even ourselves, because museum exhibits reflect the values of the given society.

**The museum is, in my opinion, a kind of self-portrait of society through which one can see not just how the society officially presents itself, sees itself, or would like to be seen by the others.**

A self-portrait can reveal many features that the portrayed wouldn't possibly like to show. This is subversive or self-subversive practice.

I remember my visit to the National Palace Museum in Taipei in 1991. The main exhibit almost in every room was not a great abundance of traditional Chinese art — the true pride of this breathtaking collection, but an icon-like portrait or a monumental statue of Chiang Kai-shek placed in the middle of each room in the most prominent place. Or, for example, let's take the Metropolitan Museum in New York: the huge hall at the entrance is designed similarly to the baths of Caracalla in Rome. Italian monumental ruins were as if mysteriously recreated on the coast of the Hudson River, the center of the ancient Roman Empire metaphorically «re-emerged» on the Upper East Manhattan. This idea was implemented in the late 19th century by a group of extremely rich and ambitious capitalists in the field of culture, namely, the Melonis, the Vanderbilts, the Rockefellers and the Whitneys. Inside the building you find yourself in an «encyclopedic» museum — the type of institution that collects art of various cultures from all over the world, which once again shows the universal (imperialist) image that the capitalist aristocracy created of themselves in the time of New York Gilded Age. That is, museums are temples of secular societies. I think that on the one hand, each museum tries to somehow show what we are. On the other hand, we can see how the society views itself.

The former Soviet Union states are now in the process of revolution: political, economic, social and mental. Though, the most important revolution for these countries is in my opinion how they see or want to see themselves. For example, it is very interesting to look at one or another statue which replaced the statue of Lenin once found on every former central city squares. In Tashkent, the statue of Lenin was replaced by that of Tamerlane, in Tbilisi — by the statue of St. George slaying the dragon, while in Yerevan the pedestal is yet vacant. The same can be said about the great museums of the post-Soviet cities that «invented» themselves a new after 1990. Some of them have retained their original form, while the others have become just ruins of the former Soviet representative temples of socialist homeland. The rest of them, like the National Museum of Georgia, appeared in a new fashion and have become modern players of international museum industry within the territory stretching from Paris to Dubai, Bilbao, Berlin and Pittsburgh.

**And through such a change, either a fast or very slow one, it can be seen as if in a mirror, how the society develops and transforms in these countries.**

This is true not only for the post-Soviet countries. Museums in Western countries also tell about what is going on in and with their societies. There, for example, museums are becoming an entertainment tool: before getting into the museum, a visitor has to go through a big number of shops. The issue of commercialization remains actual. That is, the indicator of whether the museum is a good or not is a number of visitors per year or a member of books sold at the museum's store. This to some extent is a self-portrait of the Western society. Therefore, if to discuss the outcomes of the project «The Time Machine. Museums in the XXI Century», which officially ended in the end of 2014, it is not only the productive experience that the project participants had gained. In addition, I can say that my own attitude to this theme and problem has changed. As organisers we cannot speak about results; we can only say what we would had wanted to see. But the situation when what we get or will get is not in line with our expectations is, possibly, better because it is more realistic.

*The text is based on a special pARTisan's interview with Stephan Wackwitz in Tbilisi, as well as fragments of Stephan Wackwitz's article «Return to the Temples of Secularism. Introduction to the Project «Museum. The Time Machine» (Re: Museum. Tbilisi 2014)*

# Артур Клінаў:

# Шпацыр па ўяўным музэйным дысНэйлэндзе

Артур Клінаў & Мак Разанаў. Родны Кут – Горад Сонца. 2015. Падробка жывапісу
Artur Klinau & Mack Ryazanov. Home Town – A Sun City of Dream. 2015. FakePainting.



## (Утапічны праект перафарматаваньня менскіх музэяў)

Ці ёсьць сёньня ў Менску музэй, здольны канкураваць унікальнасьцю сваёй экспазыцыі з калекцыямі знакамітых ува ўсім сьвеце музэяў? Наўрад ці трэба чакаць на пазытыўны адказ. Беларусь — адна з самых пацярпелых ад войнаў і рабаваньняў краінаў у Эўропе, таму ў нас крытычна мала ня толькі твораў сусьветна вядомых мастакоў, але і нават простага антыкварыяту. Ці магчымае ў Беларусі зьяўленьне ўнікальных канкурэнтаздольных калекцыяў? Магчымае. Але ня праз спробу стварыць другі Люўр. Колькі б грошай і намаганьняў мы ні ўклалі, гэта будзе ня Люўр і не Эрмітаж, а ў лепшым выпадку — кепская правінцыйная копія вялікага імпэрскага музэю. Другі шлях — пошук новых, унікальных музэйных канцэпцый, якія мелі б унівэрсальны фармат, але зыходзілі з гістарычных адметнасьцяў нашага краю.

Бадай, ці не адзін з самых цікавых аб’ектаў на тэрыторыі нашай краіны — «Горад Сонца», унікальны ўрбаністычны ансамбль камуністычнай эпохі ў Менску.

Некалькі гадоў таму альманах «pARTisan» прэзэнтаваў маштабны праект «Горад Сонца-2», праграму па рэбрэндынгу Менску ў новы турыстычны цэнтар Эўропы[1]. Сёньня «Горад Сонца», які ўжо даўно мусіў займець статус музэю — архітэктурнага запаведніку пад адкрытым небам — фэномэн не «камуністычны», а, хутчэй, «капіталістычны», пэрспэктыўны бізнэс-праект, які пры ўмелай «раскрутцы» займее ўсе шанцы зрабіцца знакамітым у Эўропе турыстычным брэндам. На жаль, апошнім часам адбываецца адваротнае: мы губляем гэты аб’ект, праз хаатычную забудову цэнтру гораду зьнішчаецца цэльнасьць ансамблю.

Аднак, нягледзячы на наступ некантраляванага хаосу, «Горад Сонца» пакуль яшчэ застаецца найбольш патэнцыйна цікавым музэйным аб’ектам, надзейным і непаўторным капіталам гораду. Праект «Горад Сонца-2» — гэта мільёны й мільёны турыстаў у пэрспэктыве ды, адпаведна, абароты ў мільярды даляраў. І дзеля гэтага ня трэба будаваць гіганцкіх заводаў, а толькі зрабіць дзьве падставовыя рэчы. Па-першае — захаваць гэты горад, ня даць яго зьнішчыць. Па-другое — разьвіць адпаведную інфраструктуру музэяў. Менавіта музэяў, бо гатэляў (дзякуй хакею!) ды рэстарацый ужо набудавалі, а музэяў, якія зацікавяць туріста, практычна няма. Пасьля трох-чатырох гадзінаў шпацыру па горадзе ў госьця сталіцы непазьбежна паўстане пытаньне: «Ок! А што далей?» Далей, вядома, абед. А затым, на жаль, «valise, gare, France».

Турыстычны брэнд «Горад Сонца» патрабуе — у добрым сэнсе гэтага слова — музэйнага «дыснэйлэнду». Але не чарговага, падобнага да тых, што ўжо існуюць у Эўропе, а свайго, аўтэнтычнага, унікальнага «дыснэйлэнду». Гораду неабходныя новыя музэі ды частковае перафарматаваньне дзейсных. Паспрабуем уяўна перафарматаваць музэйную мапу Менску пад турыстычны брэнд «Горад Сонца». Напэўна, трэба пачаць з галоўнага музэю краіны.

[1] «pARTisan» № 9’2009.

# МУЗЭЙ ЯК РЭПРЭЗЭНТАЦЫЯ ЎЛАДЫ

Большасьць сучасных беларускіх музэяў нам засталася ў спадчыну ад савецкай улады. Тыя ж нешматлікія новыя інстытуцыі, якія паўсталі ў часы незалежнасьці, хутчэй, зьяўляліся працягам усё таго ж савецкага дыскурсу. Калі адкінуць ідэалягічныя (камуністычныя, марксысцкія) складнікі, то сутнасьць савецкай сыстэмы музэяў можна зьвесьці да каляніяльнай мадэлі. Некалькі дужых Імпэрскіх музэяў (Эрмітаж, Дзяржаўная Трацьцякоўская галерэя, Дзяржаўны гістарычны музэй у Маскве), якія ў сваю чаргу перайшлі ў спадчыну СССР ад Расейскай імпэрыі, вялікая колькасьць іх нашмат менш цікавых клонаў у кожным вялікім горадзе Савецкага Саюзу, сетка этнаграфічных (краязнаўчых), зноў жа па функцыі — каляніяльных, бо іх мэта — дасьледаваць захопленыя Імпэрыяй этнасы й культуры, а таксама шэраг тэматычных музэяў, якія з прычыны іх малой сацыяльнай вагі пакінем па-за разглядам. Асобнай групай у сыстэме стаялі чыста ідэалягічныя музэі (да прыкладу, Музэй Рэвалюцыі ў Маскве), якія былі перафарматаваныя ці зьніклі са зьменай ідэалёгіі, і так званыя музэі «дэпрэсіўнай памяці», экспазыцыі якіх завязаны на падзеях Другой сусьветнай вайны.

Вялікі Імпэрскі Музэй — галоўны рэпрэзэнтант уяўленьня пра музэй у масавай сьвядомасьці ня толькі постсавецкіх краін, але і ўсяго так званага Старога Сьвету. Спытаўшы выпадковага мінака пра ўзорны музэй, вы, хутчэй за ўсё, пачуеце: Люўр, Прада, Эрмітаж, Брытанскі Музэй. Гэтыя найбольш знаныя ў сьвеце калекцыі ствараліся ў мэтраполіях вялікіх імпэрыяў і па сутнасьці ўяўлялі кунсткамэры, у якія зьвозіліся нарабаваныя каштоўныя артэфакты з шматлікіх калёніяў. Імпэрскія музэі ня толькі рэпрэзэнтавалі моц і веліч мэтраполіі, але й былі адным зь неабходных яе атрыбутаў, матэрыяльным доказам тэрытарыяльных экспансій. Час Імпэрыяў сыйшоў. Грамадзтвы перафарматаваліся. Аднак імпэрскія музэі засталіся нерэфармаваным рэліктам з тых часоў, саміператварыліся ў адзін вялізарны артэфакт каляніяльнага мінулага народаў.

Пытаньне перафарматаваньня Імпэрскіх музэяў, якое немагчымае без рэстытуцыі, вяртаньня нарабаванага спадкаемцам былых каляніяльных народаў, зь вядомых прычынаў сёньня не стаіць на актуальным парадку дня — ды наўрад ці калі-небудзь паўстане. Заходнія грамадзтвы перафарматаваліся, але, мабыць, не настолькі, каб добраахвотна вярнуць былым уладальнікам гэткія скарбы. Хутчэй, гэта галаўны боль саміх былых калёніяў, аднак боль бяз шанцаў на вырашэньне нават у далёкай пэрспэктыве. Але тут для нас важны не маральны аспэкт існаваньня вялікіх імпэрскіх музэяў, а той факт, што сёньня ў заходніх грамадзтвах складнік інтэлектуальнага пошуку перамясьціўся да музэйных інстытуцыяў іншага тыпу. А старыя імпэрскія монстры якраз і зрабіліся тым «музэйным дысчэйлэндам» для мільёнаў турыстаў. Перафарматаваньне музэйнай прасторы Эўропы адбылося ня праз рэфармаваньне гэтых інстытуцыяў, а праз выхад у авангард працэсу новых музэяў. Дэмакратычныя сыстэмы ўлады рэпрэзэнтуюць сябе музэямі іншага кшталту.

Аднак ці ёсьць шанец на падобныя зьмены ў Беларусі?

# МУЗЭЙ ЯК РЭПРЭЗЭНТАЦЫЯ ЎЛАДЫ — 2

Што сёньня ўяўляе сабою нерэфармаваная мапа музэяў Беларусі? Яна цалкам дублюе ўсё тую ж каляніяльную схему. Вялікі, але правінцыйны клон Імпэрскага музэю з мноствам разнавэктарных (ажно 17!) калекцыяў, дзе ролю антычнасьці выконвае кітайскае мастацтва XIX стагодзьдзя (Нацыянальны мастацкі музэй). Краязнаўча-этнаграфічны (Нацыянальны гістарычны) музэй, які мусіць прэзэнтаваць норавы й побыт тутэйшых абарыгенаў, але нават з гэтай задачай ня надта дае рады. Побач з асноўнай экспазыцыяй, раздробленай па паверхах, разьмесьціліся нейкія невялічкія музэйчыкі на любы густ, ад «зялёных кракадзільчыкаў» да «шакалядных мішак». Яшчэ мы маем вялікі, адкрыты ў новым будынку музэй «дэпрэсіўнай памяці» (Дзяржаўны музэй Вялікай Айчыннай вайны), некалькі дробных ды мноства таямнічых ведамасных музэяў, схаваных недзе на гарадзкой пэрыфэрыі. Бадай, самы таямнічы зь іх — Музэй старажытнабеларускай культуры пры Акадэміі навук Беларусі, з фантастычнай, па аповедах нешматлікіх сьведкаў, калекцыяй беларускага мастацтва, пабачыць якую просты чалавек ня мае шанцаў.

Калі галоўны музэй краіны ёсьць рэпрэзэнтантам улады, то якую ўладу сёньня рэпрэзэнтуе Нацыянальны мастацкі музэй зь яго эклектычнай экспазыцыяй, што складаецца зь дзіўнага міксу сармацкага партрэту, парцалянавых статуэтак, твораў сацыялістычнага рэалізму, аўтарскіх варыянтаў пэйзажаў Шышкіна ды эскізаў да карцін перасоўнікаў? Гаворачы пра ўладу, размова ідзе не пра яе пэрсаніфікацыю, а пра анталягічную сутнасьць, то бок паняцьце ўлады як сувэрэна ў незалежнай краіне.

Кожная ўлада патрабуе легітымізацыі. Прамузэй і ўзьнік не як калекцыя прыгожых пянкнотаў, а менавіта як адзін са сродкаў легітымізацыі ўлады, збор матэрыяльных доказаў правоў сувэрэна на пэўную тэрыторыю. Кожны барон імкнуўся мець гэты прамузэй у выглядзе фамільных рэліквій, галерэі партрэтаў продкаў ды іншых «сьвятых мошчаў». Найлепшай легітымізацыяй для манарха была легітымізацыя ад Бога. Але, нават валодаючы «боскім патэнтам», ён мусіў мець матэрыяльны доказ свайго радаводу калі не ад старажытных рымлянаў, то хаця б ад вікінгаў.

Сёньня сувэрэнам у большасьці краінаў сьвету (прынамсі так дэкляруецца) зьяўляецца народ. Галоўны дзяржаўны музэй і надалей ёсьць неабходным атрыбутам сувэрэна незалежнае краіны, адным з матэрыяльных доказаў яго легітымнасьці. Ён не павінен быць вялікім і выпадковым зборам каштоўнага антыкварыяту. Музэй — гэта тэкст, у дадзеным выпадку тэкст сакральны, матэрыялізацыя калектыўнай памяці й пасланьне да нашчадкаў. Сутнасьць гэтага пасланьня ня ў тым, што ў нас таксама ёсьць Шышкін. Задача яго — засьведчыць легітымнасьць сувэрэна (народу), давесьці яго правы на пэўныя тэрыторыі, праз гістарычныя артэфакты матэрыялізаваць ягоны радавод нават не да сёмага, а нашмат больш даўняга калена. Бяз гэтага матэрыяльнага доказу легітымнасьці сувэрэна, то бок народа, заўсёды будзе заставацца пад пытаньнем. Тым больш для нашага ўсходняга суседа, для якога беларусы і ўкраінцы — па-ранейшаму неданарод, а іх тэрыторыі — па-ранейшаму ягоныя калёніі.

Адсюль вынікае канцэпцыя так неабходнага перафарматаваньня галоўнага музэю краіны. Тым больш, што першая спроба яе прэзэнтацыі ўжо адбылася ў самім жа музэі ў 2014 годзе праектам «Дзесяць стагодзьдзяў беларускага мастацтва». Неабходна вынесьці «за дужкі» ўсё, што ня мае дачыненьня да галоўнага тэксту. Дастаць з запасьнікаў і прэзэнтаваць тое, што працуе на сакралізацыю й легітымізацыю сувэрэна, стварыць яснае, чытэльнае пасланьне. Праз творы мастацтва правесьці шлях ад вікінгаў, крывічоў і яцьвягаў да раньняга сярэднявечча, праз ВКЛ — да Рэчы Паспалітай, праз XIX стагодзьдзе — да Хаіма Суціна й Марка Шагала. Пакінуць у асноўным тэксьце толькі сапраўды вартае з савецкага часу, з таго ж, што ў яго не патрапляе, стварыць асобныя экспазыцыі (да прыкладу, галерэю замежнага мастацтва). Калі ў гэтым вялікім «пазьле» сёньня й бракуе асобных элемэнтаў, дык прыкласьці намаганьні, каб іх здабыць. Зразумела, аўтэнтыкі Суціна ці Шагала каштуюць нямала. Аднак гэта вялікія грошы для прыватнай асобы, але не для дзяржавы.

З таго, што патрапляе «за дужкі» галоўнага тэксту, ёсьць вялікая калекцыя твораў мастацтва, вартая таго, каб стварыць зь яе асобны музэй, магчыма, і ў межах Нацыянальнага, каб пазьбегнуць спрэчак пры падзеле маёмасьці. Гаворка пра савецкую спадчыну. Сёньня яна ніяк не рэпрэзэнтуе ўладу (сувэрэна краіны), а калі й зьяўляецца матэрыяльным субстратам калектыўнай памяці, дык толькі для пакаленьня, якое сыходзіць. Тым ня менш гэтыя творы маюць безумоўную вартасьць, нават ня столькі для нас, але для гледача з замежжа. У Беларусі, на жаль, лічаныя творы Шагала, але мы маем сапраўды ўнікальныя зборы савецкага мастацтва, цікавасьць да якога ў сьвеце нязьменна расьце. Бязглузда было б не скарыстацца гэтай спадчынай і не зрабіць зь яе асобную вялікую экспазыцыю, стварыць новы музэй — Сацыялістычнага рэалізму.

Гэты музэй ня меў бы прэтэнзіяў на сакральную памяць, але стаўся б часткаю вялікага бізнэс-праекту, адным з найважнейшых элемэнтаў турыстычна-музэйнага дысчэйлэнду. Гэта якраз тое новае месца, якога так не хапае «Гораду Сонца». Аднак, каб турыстычны брэнд «Горад Сонца» быў эфэктыўным, каб чалавек захацеў застацца тут не на дзень, а на болей, горад патрабуе ня двух, а некалькіх унікальных музэяў. Паспрабуем зрабіць шпацыр па першай топ-пяцёрцы ўяўнага музэйнага «дысчэйлэнду» ў Менску.

# МАРШРУТ 1 (Топавая пяцёрка-1 музэяў турыстычнага Менску)

- © **Нацыянальны мастацкі музэй** у зьмененым выглядзе. Экспазыцыя — тысячагадовая гісторыя беларускага мастацтва ад паганскіх часоў да нашых дзён. Функцыя — рэпрэзэнтацыя сувэрэна краіны, матэрыялізацыя калектыўнай памяці народу. Такая экспазыцыя мела б важнасьць перш за ўсё для самой Беларусі, але й была б цікавай для замежнага гледача як прэзэнтацыя аўтэнтычнага беларускага мастацтва. Вынас «за дужкі» большасьці твораў савецкай клясікі ды «яек Фабэржэ» зрабіў бы чытэльнай галоўную канцэпцыю. Для гасьцей беларускай сталіцы нашмат больш цікавымі былі б яйкі Цэсьлера («Праект стагодзьдзя» Уладзімера Цэсьлера й Сяргея Войчанкі). А ўзмоцненая арыгіналамі Шагала экспазыцыя музэю была б вырачаная на посьпех.
- © **Музэй сацыялістычнага рэалізму й сац-арту.** Экспазыцыя са збораў Нацыянальнага мастацкага музэю, Мэмарыяльнага музэю-майстэрні З. Азгура, Мастацкай галерэі М. Савіцкага, дапоўненая творамі зь іншых прыватных і дзяржаўных збораў (не абавязкова толькі беларускіх), манумэнтальнай скульптурай, архітэктурнымі праектамі, плякатамі й фотатворамі савецкай эпохі. Функцыя — бізнэс-праект, музэйны дысчэйлэнд, разьлічаны найперш на замежнага гледача. Важна было б папоўніць зборы творамі сусьветна вядомых небеларускіх савецкіх клясыкаў (А. Дайнекі, Б. Ёгансана, Д. Налбандзяна ды інш.). Фінальную частку экспазыцыі (для кантрапункту) мусіла б утвараць калекцыя твораў сац-арту 1980–90-х (Комар і Меламід, І. Кабакоў, Д. Прыгаў, А. Касалапаў ды інш.). Гэтаксама, апроч пастаяннай экспазыцыі, важную ролю адыгрывалі б выставачныя залі музэю з праграмай вялікіх рэтраспэктыўных выстаў клясыкаў як сацрэалізму, гэтак і сац-арту.
- © **Музэй Утопіі, ці Музэй Камунізму.** Інтэрактыўная экспазыцыя, якая распавядала б пра 500-гадовую эвалюцыю камуністычнай ідэі — ад часоў яе зьяўленьня ў Эўропе (Т. Кампанэла, Т. Мор) да нашых дзён. Унікальнасьць праекту яшчэ і ў тым, што на сёньня ён ня мае аналягаў у сьвеце. Калекцыя патрабавала б пошуку й набыцьця ўнікальных дакумэнтаў і артэфактаў у Эўропе. Асобны разьдзел быў бы прысьвечаны спробе рэалізацыі камуністычнага праекту ў Савецкім Саюзе. Важная частка яго — ГУЛАГ і рэпрэсіі ў БССР. Гэтак жа ў склад музэю мог бы ўвайсьці Дом першага зьезду РСДРП. Музэй Утопіі (Камунізму) стаўся б абсалютна наватарскай установай ня толькі ў Беларусі, але і ў Эўропе. Ён нёс бы некалькі функцый: месца калектыўнай памяці (рэпрэсіі, ГУЛАГ) для беларусаў, бізнэс-праект, музэйны дысчэйлэнд (ілюстраваная, інтэрактыўная энцыклапэдыя разьвіцьця камуністычнай ідэі) для замежнага гледача й вялікая дыскусійная пляцоўка вакол сацыяльных тэорый. Дзеля гэтага музэй, апроч пастаяннай экспазыцыі, мусіў бы мець адмысловы арт-цэнтар «Утопія» з выставачнымі залямі для прэзэнтацыі разнастайных сацыяльных практык у сучасным эўрапейскім мастацтве.
- © **Музэй беларускага габрэйства.** Абсалютна новая інстытуцыя, але вельмі важная з пункту гледжаньня аднаўленьня калектыўнай памяці пра істотную ролю габрэйства ў гісторыі Беларусі, гэтаксама як пра ролю нашага краю ў лёсе эўрапейскага габрэйства. Цікавым рашэньнем для лякалізацыі музэю было б аднаўленьне аднаго з гістарычных кварталаў гораду разам з былой сынагогай. Апроч мэмарыяльных функцыяў, такі музэй стаўся б важным месцам прыцягненьня замежных турыстаў.
- © **Музэй сучаснага мастацтва** у аднаўленым выглядзе. На сёньняшні дзень Музэй сучаснага мастацтва ўяўляе сабой выставачныя залі для часовых экспазыцый. Аднак ён мусіць займець і прастору для сталай прэзэнтацыі ўласнай калекцыі. Сёньня калекцыя музэю знаходзіцца толькі на стадыі фармаваньня. Каб будучыя зборы адпавядалі крытэрам паняцьця «сучасны», важна зрабіць іх не чарговай рэляцыяй Саюзу мастакоў «за справаздачны пэрыяд», а прэзэнтаваць менавіта найноўшае беларускае мастацтва другой паловы XX стагодзьдзя, пачынаючы ад нонканфармізму 60–70-х і беларускага авангарду 80-х (Авангард-2), праз канцэптуальнае мастацтва, аб'ект, інсталяцыю, відэаарт 90-х, да найноўшых праектаў пачатку XXI стагодзьдзя. Важна на новых плошчах музэю распачаць практыку паказу вялікіх выстаў сусьветна вядомых сучасных артыстаў. Гэта прыцягвала б наведнікаў ня толькі зь Беларусі, але і з замежжа. Сёньня фэстывальны турызм — новы пэрспэктыўны кірунак у Эўропе.

# МАРШРУТ 2 (Топавая пяцёрка-2 музэяў турыстычнага Менску)

Да першых пяці добра б пасавала наступная пяцёрка музэяў, большасьць якіх ужо існуе, але таксама патрабавала б пэўных зьменаў пад фармат турыстычнага Менску.

- © **Музэй Гораду.** Калі цэнтральным элементам турыстычнага «дысчэйлэнду» стане архітэктура заявнік «Горад Сонца» ці ўласна сам горад, то важна было б мець экспазыцыю, якая б тлумачыла, на чым палягае яго ўнікальнасьць. Цалкам лягічна месцам для такой экспазыцыі зрабіць Музэй гораду. Апроч функцыі прэзэнтацыі гісторыі Менску, а таксама разнастайных тэорый ідэальнага гораду, варта было б на базе Музэю ўтварыць дыскусійную пляцоўку па практыках сучаснага ўрбанізму.

© **Музэй Другой сусьветнай вайны.** Па функцыі так званыя музэі «дэпрэсіўнай памяці» (Музэй вайны, Музэй Галакосту) мусяць акрэсьліваць у калектыўнай памяці табуяваныя зоны, ставіць пэўныя дыдактычныя маркеры. Па сутнасьці задача іх экспазыцый — распавядаць пра катастрафічныя наступствы парушэньня азначаных межаў. Аднак у наш час табуяваныя зоны ўсё больш робяцца часткай масавай культуры, а музэі «дэпрэсіўнай памяці» бяруць на сябе неўласьцівую ім ролю ў забаўляльнай індустрыі. Што праўда, у кожнага народу свае гістарычныя траўмы. Галакост ніколі ня стане часткай музэйнага «дыснэйлэнду» для габрэяў. Гэтак жа, як тэма Другой сусьветнай вайны, ды ўвогуле вайны, заўсёды будзе зонай «дэпрэсіўнай памяці» ў калектыўнай сьвядомасьці беларусаў. Але гэтая тэма можа стаць важнай часткай музэйнага дыснэйлэнду для замежных турыстаў. Як бы мы ні ставіліся да інсталяцыі «Лінія Сталіна», але трэба прызнаць: сёньня яна карыстаецца нязьменнай папулярнасьцю менавіта ў гасьцей нашай краіны.

Музэй Другой сусьветнай вайны гэтаксама мае добрыя шанцы стаць адным з важных цэнтраў турыстычнай інфраструктуры. Аднак ён мусіў бы зрабіць крок у бок большай інтэрактыўнасьці, улучнасьці гледача ў кантэкст экспазыцыі. Добры ўзор такога інтэрактыўнага музэю — Музэй Варшаўскага паўстаньня ў Польшчы. Глядач там ня проста пасіўны назіральнік экспазыцыйнай прасторы. Прастора інтэрактыўнага музэю правакуе яго, ён сам робіцца часткай яе, нібыта ўдзельнік кампутарнай гульні. Можна спрачацца пра маральны аспэкт «дыснэйлэндызацыі» тэмы вайны, аднак, калі казаць пра ўлучэньне гледача ў працэс суперажываньня яе, перавага інтэрактыўнага музэю тут падаецца бясспрэчнай.

© **Гістарычны музэй.** Па функцыі Гістарычны мае на мэце тое ж, што й Нацыянальны музэй. Ён мусіць легітымізаваць сувэрэна краіны, але не артэфактамі мастацтва, а праз дакумэнтальны расповед. Гэты не мастацкі, а дакумэнтальны тэкст, адрасаваны, хутчэй, унутранаму, чым замежнаму спажыўцу. Аднак у яго межах можа зьявіцца асобны вялікі разьдзел, а лепей музэй (натуральна, ня ў залі «музэю елачных цацак», а ў новым будынку), які мае шанцы стаць важным пунктам у турыстычнай інфраструктуры Менску. Гаворка пра экспазыцыю, прысьвечаную тэме Першай сусьветнай вайны. Як вядома, лінія ўсходняга фронту праходзіла менавіта па тэрыторыі Беларусі. Першая сусьветная вайна мела для беларусаў ня менш катастрафічныя наступствы, чым Другая сусьветная. Таму гэтая тэма вартая асобнай разгорнутай экспазыцыі. Да таго ж яна ідэальна патрапляе і ў эўрапейскі кантэкст, то бок ёсьць ня толькі ўнутрыбеларускай тэмай, але была б, безумоўна, цікавай і для гледача з Эўропы. Пры стварэньні экспазыцыі, прысьвечанай Першай сусьветнай вайне, варта было б гэтаксама пайсьці па шляху інсталяцыі інтэрактыўнага музэю, з улучэньнем старых кінахронік, пошуку ці рэканструкцыі ваеннай тэхнікі (авіяцыя, першыя танкі), зброі тых часоў, фотадакумэнтаў, васковых фігур імпэратараў і вядомых асобаў.

© **Музэй Хаіма Суціна.** Найбольш складаная зь фінансавага пункту гледжаньня экспазыцыя, бо патрабуе набыцьця арыгіналаў прац мастака. Аднак Хаім Суцін — найбольш вядомы ў сьвеце мастак пасьля Марка Шагала — выхадзец зь Беларусі. Інвэстыцыі ў калекцыю твораў Суціна, апроч маральнага аспэкту — вяртаньня твораў мастака на радзіму, — напэўна ў пэрспэктыве акупіліся б праз прыбыткі ад павелічэньня турыстычнай прыцягальнасьці Беларусі.

© **Музэй драўлянага дойлідзтва ў Строчыцах.** Ужо зараз гэта адзін з самых цікавых менскіх музэяў. У пэрспэктыве хацелася б бачыць пашырэньне ягонай экспазыцыі. Магчыма, праз рэканструкцыю ўзору традыцыйнага беларускага мястэчка з драўлянымі касьцёлам, царквой і сынагогай, а таксама старадаўняй шляхецкай сядзібай. Ужо сёньня экспазыцыя ў Строчыцах карыстаецца вялікай папулярнасьцю ў кінэматаграфістаў. Разьвіцьцё экспазыцыі, апроч большай турыстычнай зацікаўленасьці да музэю, дадало б магчымасьцяў мець неблагі прыбытак ад супрацы ў кіно.

Экспазыцыя ў Строчыцах мае шанец стаць месцам, якое наўпрост, без двукосься, можна будзе назваць беларускім дыснэйлэндам. Дзеля гэтага архітэктурную экспазыцыю трэба дапоўніць рэканструкцыяй абрадаў, народных сьвятаў, майстэрнямі традыцыйных рамёстваў, якія разам з забаўляльным сэрвісам (корчмы, стайні, гуляньні) сталіся б сур'ёзным цэнтрам прыцягненьня ня толькі турыстаў, але і беларусаў.

## МУЗЭЙНЫ ПАДАТАК ЦІ ТРАСТАВЫ ФОНД?

Першае балючае пытаньне, якое паўстане пры рэалізацыі праграмы (добра, што яно хаця б не патрабуе вялікіх фінансавых выдаткаў), — пераразьмеркаваньне калекцыяў. Наўрад ці ёсьць сэнс мець два падобныя музэі ці распыляць нешматлікія артэфакты пэўнай эпохі па мностве дробных калекцый. Відавочна, старажытнабеларускае мастацтва мусіць быць сканцэнтравана ў Нацыянальным. Гэтак жа як лепшыя творы савецкай эпохі — у Музэі сацыялістычнага рэалізму. Малаверагодна, што музэі падзеляцца сваімі калекцыямі добраахвотна. Але магчыма, калі на гэта будзе палітычная воля дзяржавы.

Другое пытаньне: папаўненьне вышэйзгаданых калекцый, гэтак жа як і ўтрыманьне музэяў, патрабуе немалых сродкаў. Відавочна, што ў фармаце вялікага турыстычнага бізнэс-праекту частку гэтых грошай інстытуцыі могуць зарабіць самі. Але мала які музэй у сьвеце можа выйсьці на поўную самаакупляльнасьць. Аднак у разьвіцьці музэйнай інфраструктуры зацікаўлены горад, і перш за ўсё — тыя бізнэс-структуры, якія наўпрост атрымоўваюць прыбытак ад турыстычных патокаў. Мільён турыстаў, якія на некалькі дзён застануцца ў Менску — гэта каля паўмільярда даляраў прамых інвэстыцый у эканоміку гораду. Аднак турыстычны брэнд «Горад Сонца» мае патэнцыял большы, чым мільён турыстаў у год. Гаворка ідзе пра практычна яшчэ не адкрытую (наўрад ці можна сур'ёзна ўспрымаць тую колькасьць турыстаў, што сёньня прыяжджаюць у горад), але вялікую галіну ў эканоміцы з абаротамі ў мільярды даляраў. Але гэтая галіна не запрацуе напоўніцу без стварэньня адпаведнай інфраструктуры музэяў.

Дзе ўзяць грошы на яе ўтварэньне? Наўрад ці дзяржаўны бюджэт можа дазволіць сабе такія выдаткі. Самым лягічным выйсьцем было б заснаваньне адмысловага пазабюджэтнага фонду, які зьбіраў бы ахвяраваньні ад зацікаўленых бізнэс-структураў. Кожны з названых музэяў меў бы магчымасьць на конкурснай аснове зьвяртацца ў яго па грант на пашырэньне калекцый ці фінансаваньне пэўных праграмаў. Аднак ад разьвіцьця турызму выйграюць ня толькі гатэлі, агенцыі, сэрвісы, рэстарацыі, клюбы. Калі грошы застаюцца ў дзяржаве, у выніку іх далейшага пераразьмеркаваньня ў плюсе застаецца кожны. То, можа, прасьцей увесьці ў Менску мясцовы музэйны падатак? Невялікі адсотак ад прыбыткаў кожнага прадпрыемства ў двухмільённым мэгаполісе — і набыцьцё арыгіналаў Суціна ці Шагала робіцца абсалютна рэальным. Ня ведаю, ці існуе дзе-небудзь у сьвеце музэйны падатак. А калі нават і не, дык чаму б нам ня стаць першымі?



# WALKING AROUND AN IMAGINARY MUSEUM-DISNEYLAND
## A utopian project of Minsk museums' reformatting

Artur Klinaŭ

Is there in today's Minsk a museum that can compete in the uniqueness of its exposition with the collections of world famous museums? We hardly need to expect a positive answer. Among the European countries Belarus has suffered most in wars and plunder, thus we drastically lack not only the works of art created by world famous artists, but mere antiques. So, is the appearance of unique competitive collections possible in Belarus? It actually is, but not through an attempt to create another Louvre. No matter how much money and efforts we invest, it will not be the Louvre or the Hermitage, but at best a bad provincial copy of a large imperial museum. Another way is in looking for unique museum collections, which would have a universal format, but at the same time would be rooted in historical features of the country.

***A Sun City of Dream*, a unique urban ensemble of the communist epoch** in Minsk[1], can be named as one of the most interesting objects in this country, which a long time ago must have been given the status of a museum — an architectural reserve under the open sky. This phenomenon is not «communist», but rather «capitalist», a promising business-project, which has all the chances to become a famous tourist brand in Europe on condition of the correct «promotion». Unfortunately, in recent years the opposite thing has been happening: we are losing this object because of the chaotic downtown development, the integrity of the ensemble is getting destroyed. However, despite the rise of the uncontrolled chaos, *A Sun City of Dream* still remains the most potentially interesting museum-like object, a reliable and unique city's capital. And to be such we do not have to build giant plants, but only to do two basic things: to save the city and to create a museum-*disneyland* on its territory. However, not another one, similar to those already existing in Europe, but the authentic, unique *Disneyland*. The city needs new museums and partial reformatting of those that already exist.

Let us mentally reformat Minsk museum map to make it match the tourist brand of *A Sun City of Dream*, and we probably should start with the main country's museum.

### Museum as a representation of power

We have inherited most contemporary Belarusian museums from the Soviet regime. Those few new institutions that arose during the time of independence rather became the continuation of the same Soviet discourse. If we put aside the ideological (communist, Marxist) components, the essence of the Soviet system of museums can be reduced to the colonial model. Among them there are several strong imperial museums (the Hermitage, the State Tretyakov Gallery, the State Historical Museum in Moscow), which in their turn were inherited by the USSR from the Russian Empire. A large number of their much less interesting clones in every big city of the Soviet Union, a network of ethnographic (local history) museums which again bear the colonial function, as their goal was to explore ethnic groups and cultures captured by the Empire, as well as a number of thematic museums that can be left out of question, because of their low social weight. In this system purely ideological museums (for example, Museum of the Revolution in Moscow) can be seen as a separate group, they were reformatted or disappeared with the change of ideology, and so-called museums of *depressive memory*, the expositions of which are linked to the Second World War events.

The Big Imperial Museum is the main embodiment of the idea about a museum in the mass consciousness of not only post-Soviet countries but also of the whole so-called «old world». Asking a random passerby in Minsk about an exemplary museum, you are likely to hear about the Louvre, the Prado, the Hermitage, the British Museum. These most famous collections in the world were created in the metropolis of great empires and were essentially formed as a cabinet of curiosities, which stored valuable artifacts looted in numerous colonies. Imperial museums did not only represent the power and majesty of the metropolis, but also were one of their essential attributes, a tangible evidence of territorial expansion. But the time of empires has passed. Societies have been reformatted.

However, the imperial museums remain an obsolete relic of those times, having turned themselves into one huge artifact of the colonial peoples' past.

The question of imperial museums reformatting, which is not possible without restitution, with returning of the looted to the descendents of the formerly colonial peoples, for obvious reasons is not on the agenda and will hardly ever arise. Western societies have been reformatted, but apparently not enough to voluntarily return the treasures to their former owners. Rather, it is a headache of the former colonies themselves, however it is the problem without any chances of being solved even in the long run. But not the moral aspect of the existence of big imperial museums is important for us here, but the fact that today in Western societies the component of intellectual search has shifted towards museum institutions of another type. And there were those old imperial monsters to become the museum-*disneyland* for millions of tourists. Reformatting of the museum space of Europe happened not through the reform of these institutions and moving towards the forefront of the process of new museums. Democratic systems of power represent themselves as the museums of another kind.

However, is there any chance of such changes in Belarus?

### Museum as a representation of power — 2

How does the unreformed map of the Belarusian museums look today? It fully duplicates the same colonial scheme. **A big, but provincial clone of the Imperial museum** with many multivector (as many as 17!) collections, where the role of the antiquity is performed by the Chinese art of the 19th century (the National Art Museum). The museum of local history and ethnography (the National History Museum), which is supposed to give an idea about the customs and the way of life of the local

[1] Some year ago «pARTisan» presented an idea by Artur Klinau about recontruction of historical Minsk centre called A Sun City of Dream-2. See pARTisan #9'2009.

фармаваньні Музэю павінен быць: казаць і паказваць праўду і толькі праўду, нічога, акрамя праўды. Але гэта не азначае, што варта казаць усю праўду... Мы знаходзімся ў сытуацыі, калі маўчаць злачынна (...) але ўзровень праўды патрабуе шырокага абмеркаваньня і дбайнай праверкі. Варта зьмяншаць (...) разрыў паміж афіцыйнай гісторыяй вайны і ўспрыманьнем яе народам»[21]. Дадзеная рэпліка цікавая ня толькі спалучэньнем патрабаваньня ўзнавіць «пазытывісцкую» гісторыю вайны з патрабаваньнем цэнзуры дзеля «грамадзкай выгоды» (устаноўкі з савецкай эпохі), але і фіксацыяй праблемы, якая відавочная — інстытуцыяналізаваная ў савецкую эпоху й «эпоху Лукашэнкі» вэрсія культурнай памяці пра Другую сусьветную вайну дае збоі пры сутыкненьні зь іншымі вэрсіямі памяці пра вайну, прадстаўленымі ў тым ліку ў публічнай прасторы.

У 2013 годзе апублікавалі «Навуковую канцэпцыю экспазыцый Беларускага дзяржаўнага музэю гісторыі Вялікай Айчыннай вайны». У ёй няма спасылак на гістарыяграфію Другой сусьветнай вайны, але ёсьць апісаньне «мэтаў і задач» экспазыцыі. Гэтыя мэты і задачы, вядома, належаць не да «навуковага» дыскурсу, а **да дыскурсу «ідэалёгіі беларускай дзяржаўнасьці»**[22]: экспазыцыя павінна «падкрэсьліць, што сучасная беларуская дзяржаўнасьць грунтуецца на ідэйна-палітычным і сацыяльна-маральным падмурку Вялікай Перамогі, а беларускі шлях грамадзкага разьвіцьця прадугледжвае дзяржаўнае й індывідуальнае разуменьне гістарычнага сэнсу Перамогі ды ўключэньне яго ў духоўна-маральную скарбніцу беларускага народа», таксама яна павінна «паказаць асабістую ролю кіраўніка дзяржавы ва ўвекавечаньні памяці герояў ВАВ, адлюстраваньні тэмы ВАВ у літаратуры і мастацтве, разьвіцьці ў грамадзкай сьвядомасьці і палітыцы беларускай дзяржавы». Сярод гэтых задач меркаваўся і прамы кантроль над гістарычным веданьнем: «праўдзіва адлюстраваць падзеі грозных ваенных гадоў, даказаць, што фальсыфікатарам гісторыі ня ўдасца прынізіць значэньне Перамогі Савецкага Саюзу й рэабілітаваць ваенных злачынцаў»[23].

У канцэпцыі экспазыцыі мы можам знайсьці цікавую фармулёўку найважнейшай задачы, якая стаіць перад яе стваральнікамі: «выклікаць у наведнікаў эмацыйны ўздым, адчуваньне незвычайнага відовішча падчас знаходжаньня ў прасторы экспазыцыі»[24]. Гэтая неабходнасьць «эмацыйнасьці» прадыктаваная жаданьнем ня толькі ажывіць экспазыцыю, але й актуалізаваць пачуцьцё перажываньня гісторыі ў тых наведнікаў музэю, хто праз дату свайго нараджэньня ніколі ня быў сьведкам падзеяў вайны і, магчыма, нават ужо ня мае зносінаў зь яе непасрэднымі сьведкамі ва ўласных сем'ях.

«Ахоўная» пазыцыя ў дачыненьні да гісторыі вайны дапаўняецца і антызаходняй рыторыкай, апісанай у праграмным інтэрвію дырэктара музэю Станіслава Азаронка, апублікаваным у 2010 годзе ў галоўным ідэалягічным часопісе «Беларуская думка» (былы «Камуніст Беларусі»). На пытаньне: «Вы шмат супрацоўнічаеце з заходнімі музэямі. Як на Захадзе прадстаўлена тэма вайны на савецка-германскім фронце, тэма нацысцкіх злачынстваў у Беларусі?» — дырэктар музэю адказаў: «На Захадзе практычна нічога ня ведаюць пра партызанскі рух у Беларусі, пра ягоную маштабнасьць, унутраны зьмест. Чаму? Ды таму, што гэтаму супрацьстаіць уся ідэалягічная інфармацыйная машына Захаду. Спачатку развалілі Варшаўскую дамову, сусьветную сыстэму сацыялізму, потым — Савецкі Саюз. Зьнішчылі Югаславію, партызаны якой самі вызвалілі сваю краіну ад фашызму. Пасьлядоўна руйнуюцца ўсе цэнтры супраціву заходняй гегемоніі. Гэта робіць, у тым ліку, і з дапамогай гістарычных фальсыфікацый. Ставіцца мэта вытруціць з народу адчуваньне сябе пераможцам, пазбавіць людзей стрыжня — патрыятызму»[25]. Таксама, па словах дырэктара, Нямеччына, напрыклад, ухіляецца ад арганізацыі сумеснай зь беларускім бокам выставы, прысьвечанай остарбайтэрам, бо «напэўна, яны ня хочуць пускаць нас з нашай праўдай»[26]. Парадокс сытуацыі (тыповы для Беларусі) палягае ў тым, што антызаходняя рыторыка дырэктара музэю спалучаецца з устаноўкамі на рэфэрэнтнасьць досьведу мэмарыялізацыі вайны ў заходніх музэях, пра што таксама гаворыцца ў інтэрвію, калі гэты досьвед усё ж часткова выкарыстоўваецца і немагчыма сыйсьці ад яго наяўнасьці.

Акрамя таго, у інтэрвію дырэктара музэю агучваецца цэнтральная ўстаноўка для беларускага грамадзтва і наведнікаў новага музэю — «калі мы прымаем духоўную эстафэту ад вэтэранаў, мы становімся спадкаемцамі пераможцаў. Варта толькі разарваць гэты ланцужок паміж пакаленьнямі, асабліва цяпер, калі сыходзяць з жыцьця апошнія ўдзельнікі вайны, і можа здарыцца непапраўнае. Ня будзе народа-пераможцы — будзе пераможаны народ»[27]. Гэты дэмагагічны непакой з нагоды страты адчуваньня таго, што «мы — пераможцы», адсылае нас зноў ня столькі да гісторыі самой вайны, колькі ў цэлым да праблемы гістарычнай суб'ектнасьці беларусаў, гісторыя якіх у XX стагодзьдзі была часткай гісторыі СССР.

І пасьля распаду СССР паўстала сытуацыя, у якой гэтую гістарычную суб'ектнасьць трэба было нанава перавызначаць, у тым ліку тлумачыць гістарычныя праблемы, зьвязаныя і з Другой сусьветнай вайной.

Сама структура экспазыцыі новага музэю апісаная ў невялікім даведніку 2014 года (выдадзеным на расейскай мове). Музэй у ім прадстаўлены як «цэнтар духоўнага ачышчэньня нацыі, інстытут патрыятычнага і грамадзянскага выхаваньня». Першая заля — «Сьвет і вайна», у якой прадстаўлена Беларусь «да» вайны па кантрасьце з тым, што было «пасьля»: «І ў "пасьля" зьнікла тое, што было "да": спакойнае мернае жыцьцё зь ягонымі лясамі і палямі, засеянымі зернем, жураўлямі, якія ляцяць у сінім небе, і вёскамі, і агародамі, людзьмі, якія радуюцца і ўсьміхаюцца». Акрамя таго, у апісаньні залі гаворыцца пра тое, што «нашая краіна, знаходзячыся ў цэнтры Эўропы, на працягу ўсёй сваёй гісторыі зазнавала нашэсьці ўзброеных ворагаў, як з Захаду, так і з Усходу».



У другой залі паказаны «Сьвет напярэдадні і ў першыя гады Другой сусьветнай вайны», у трэцяй — «Дарога вайны» — прадстаўлены «ўзоры ўзбраеньня і тэхнікі, разьмешчаныя (...) сюжэтна-кампазыцыйным спосабам, дэманструючы, як на працягу Вялікай Айчыннай вайны Чырвоная Армія, атрымліваючы ад савецкай прамысловасьці ўсё больш дасканалую зброю, нарошчвала матэрыяльна-тэхнічную перавагу над агрэсіўным блёкам і завяршыла перамогай самую кровапралітную вайну XX стагодзьдзя», у чацьвертай залі паказаны «Пачатак Вялікай Айчыннай вайны. Абарончыя баі ў Беларусі летам 1941 году. Смаленская бітва. Бітва пад Масквой 1941–42 гг.». У пятай — «Карэнны пералом у ходзе вайны. Савецкі тыл», у шостай — «Нацысцкі акупацыйны рэжым на тэрыторыі Беларусі. 1941–1944 гг.» і прадстаўлена невялікая група матэрыялаў, прысьвечаная Галакосту. У сёмай залі — «Партызанскі рух і антыфашысцкая падпольная барацьба ў Беларусі. Удзел савецкіх партызан у эўрапейскім руху Супраціўленьня 1941–1945 гг.», у восьмай — «Вызваленьне Беларусі. Вызваленьне Эўропы, разгром фашысцкай Германіі, яе саюзьнікаў і мілітарысцкай Японіі», у дзявятай залі — «Беларусь пасьля вызваленьня 1944–1950 гг. Памяць пра вайну».

Увагу многіх прыцягнула дзясятая заля «Нашчадкі Вялікай Перамогі», паколькі ў ёй, акрамя ўсяго іншага, знаходзяцца партрэты Аляксандра Лукашэнкі й прадстаўнікоў сілавых ведамстваў: «Экспазыцыя залі складаецца зь дзьвюх арганічна зьвязаных адна з адной частак. Нашчадкі Вялікай Перамогі аб'ядноўваюць людзей, якія з гонарам выканалі свой воінскі і службовы абавязак, удзельнічаючы ў шматлікіх узброеных канфліктах пасьляваеннага пэрыяду, і сёньня працягваюць абараняць мірнае неба над галавой, межы нашай Радзімы і стваральную працу нашых грамадзян. У аснове структуры экспазыцыі ляжыць тэматыка-храналягічны прынцып: 1950–1989-я гады — лякальныя канфлікты і войны, з 1990 па цяперашні час — «сучасныя слаўныя структуры на абароне краіны», а «асаблівае месца займаюць вітрыны, прысьвечаныя неаб'яўленай вайне ў Аўганістане». Апошняя — заля Перамогі, створаная пад велізарным шкляным купалам, над якім разьвіваецца савецкі сьцяг: «У гэтай залі злучаныя Памяць і Слава пра подзьвіг народу ў гады Вялікай Айчыннай вайны. На мармуровых плітах высечаныя імёны больш за дзьвюх тысяч байцоў і камандзіраў Узброеных сілаў і іншых воінскіх фармаваньняў, падпольшчыкаў і партызан — Герояў Савецкага Саюза»[28]. У гэтай залі праходзяць урачыстыя мерапрыемствы.

Калі параўноўваць структуру экспазыцыі новага музэю з тым, што мы маглі бачыць у старым музэі непасрэдна перад ягоным закрыцьцём, можна заўважыць **пэўныя дыскурсіўныя зрушэньні, зьвязаныя з інтэрпрэтацыяй памяці пра вайну**: гісторыя вайны прадстаўлена ў больш шырокім кантэксьце эўрапейскай гісторыі, шэраг тэмаў асьвятляецца больш падрабязна, у тым ліку і тэма Галакосту, зьменшылася колькасьць ідэалягічных штампаў і гэтак далей. **Але разам з тым мы бачым і іншае**: адсутнасьць крытычнага падыходу да даваеннага пэрыяду жыцьця ў БССР, якаснай рэпрэзэнтацыі падзеяў 1939 году ў Заходняй Беларусі, спэцыфічныя падыходы да экспанаваньня праблемы калябарацыі, адмова ад акцэнту на асабістых гісторыях (хоць і ёсьць элемэнты гісторыі штодзённасьці той эпохі), неахайнасьць экспанаваньня і апісаньня падзеяў, зьвязаных з Галакостам, і іншае. Акрамя таго, інтэрактыўныя кампазыцыі і інсталяцыі, а таксама ўзоры ўзбраеньня, якія павінны стымуляваць цікавасьць наведнікаў, часта ніяк не кантэкстуалізаваныя і ператвараюцца ў самадастатковыя «атракцыёны», але не ў музэйныя аб'екты, якія сумяшчаюць розныя функцыі, у тым ліку і функцыю распаўсюджваньня гістарычных ведаў[29].

Як успрынялі новы музэй наведнікі? Адкрыцьцё музэю ўвайшло ў топ-10 падзеяў у 2014 годзе ў Беларусі па вэрсіі Яндэкса. Наведнікі актыўна робяць selfie на фоне ваеннай тэхнікі і іншых экспанатаў. На жаль, рэпрэзэнтатыўная выбарка меркаваньняў немагчымая, але пошук па блогах і сацыяльных сетках выводзіць на водгукі, у якіх апісваецца зручнасьць фатаграфаваньня з розных ракурсаў, моцнае эмацыйнае ўражаньне ад экспазыцыі, зьдзіўленьне з нагоды таго, што ня ўсе экспанаты старога музэю прадстаўлены[30]. Роскід меркаваньняў досыць вялікі, але заўважна, што новы музэй ператвараецца ў тыповы аб'ект «спажываньня гісторыі» (тэрмін Джэрома дэ Гру), такі ж, як і адкрытая ў 2005 годзе «Лінія Сталіна», якая стала, нягледзячы на ўсе нэгатыўныя гістарычныя канатацыі, адным з самых папулярных турыстычных аб'ектаў у Беларусі.

## ЗАМЕСТ ВЫНІКАЎ

Другая сусьветная вайна стала адной з вызначальных падзеяў для гісторыі беларускага грамадзтва. Памяць пра яе пасьля 1945 году неаднаразова цэнзуравалася і рэвізавалася, і гэта адбывалася ня толькі ў СССР, але й было фэномэнам пасьляваеннай гісторыі Эўропы[31]. Шэраг сацыяльных групаў унутры СССР быў пазбаўлены магчымасьці распавесьці пра свой досьвед вайны, які не адпавядаў канонам афіцыйнай культурнай памяці.

У постсавецкай Беларусі мы сутыкаемся з сытуацыяй досыць павольнай трансфармацыі савецкіх узораў памяці пра Другую сусьветную вайну (што мы бачым на прыкладзе новага музэю), але прычына гэтай павольнай трансфармацыі заключаецца ня толькі ў савецкай ідэалягічнай спадчыне. Яе ўплыў заканчваецца, але на зьмену ёй прыходзяць новыя спосабы канструяваньня гістарычнай сьвядомасьці беларускага грамадзтва, у тым ліку пад уплывам ідэалягічных установак беларускай улады. Іх рэалізацыя (мяркуючы па рэакцыі на зьяўленьне новага музэю ў Менску) пакуль што дастаткова пасьпяховая, паколькі гэтая «новая» ідэалёгія зьвяртаецца да масавых пачуцьцяў і жаданьня «быць у гісторыі», праблематычных на фоне сучасных трансфармацый і крызысаў.

Яшчэ адзін рэсурс прыняцьця афіцыйнай вэрсіі памяці пра вайну ў Беларусі — зварот да выкарыстаньня «эмацыйнасьці», да «афэктыўнага мэнэджмэнту» гісторыі, пры якім фактычна адбываецца адмова ад рэфлексіўнасьці з нагоды гісторыі, і замест яе прапануюцца такія «рытуалы» альбо «мнэманічныя аб'екты», што спрыяюць масаваму яднаньню, але гэтая «салідарнасьць, якая ўзьнікае ў працэсе прагматычнага выкарыстаньня сымбалічных формаў мінулага, ня мае пад сабой ні агульнасьці досьведу, ні агульных ведаў гісторыі»[32].

І, парадаксальным чынам, стварэньне новага музэю Вялікай Айчыннай вайны, закліканае зьнішчыць нарастальнае пачуцьцё адчужэньня ад гісторыі і аднавіць эмацыйную сувязь зь мінулым, працуе, хутчэй, як новая форма адчужэньня ад гісторыі, пры якой яна выносіцца за дужкі грамадзкай увагі.

З гэтай сытуацыі ёсьць выйсьце, якое палягае ў пераасэнсаваньні стратэгій адносінаў да гісторыі й стварэньні новай культуры памяці ў Беларусі. У межах гэтай працы неабходна ня толькі пераасэнсаваць савецкі міт пра вайну, але й канцэптуальна зьмяніць уяўленьне пра тое, што такое вайна (выйсьці за рамкі звыклых разваг пра «Гітлера і Сталіна», пра «савецкае» і «нацыянальнае»), і прыкласьці намаганьні для таго, каб формула «мы — пераможцы» не была пераўтвораная ў форму дамінаваньня калектыўнай суб'ектнасьці над усімі іншымі формамі індывідуальнасьці, у тым ліку і пры аналізе гістарычнага мінулага. Гаворка ідзе не пра адмаўленьне «Перамогі», а пра прызнаньне розных формаў суб'ектнасьці, якія мелі месца ў пэрыяд Другой сусьветнай вайны, і новае абгрунтаваньне яе вынікаў у працэсе грамадзкага дыялёгу. Гэты дыялёг ня можа спыніцца, і яго пляцоўкай цалкам мог бы стаць музэй, які не баіцца меркаваньняў сваіх наведнікаў.

[21] Мартынов И. Напишем историю Великой Отечественной войны вместе // Планета-семья. 2012. № 6. С. 15.

[22] Проект «идеологии белорусской государственности» стал реализовываться в 2003 году, см. типичное пособие, изданное для системы высшего образования Беларуси по этому предмету: http://www.grsmu.by/files/university/cafedry/gymanitarnuh-nayk/files/uch_mat/osnovy_knjazev.pdf.

[23] Азаронок С. И., Космач Г. А. Научная концепция экспозиций Белорусского государственного музея истории Великой Отечественной войны // Гісторыя і грамадазнаўства. 2013. № 3. С. 12.

[24] Тамсама. С. 12.

[25] На пороге Храма Победы (интервью с директором Белорусского государственного музея истории Великой Отечественной войны С. Азаронком) // Беларуская думка. 2010. № 1. С. 57–58.

[26] Тамсама. С. 58.

[27] Тамсама. С. 58.

[28] Апісаньні ўзятыя з даведніка: Белорусский музей истории Великой Отечественной войны. Минск. 2014.

[29] Критический взгляд на новый музей Великой Отечественной войны в Минске (http://n-europe.eu/article/2014/08/25/kriticheskii_vzglyad_na_novyi_muzei_velikoi_otechestvennoi_voiny_v_minske).

[30] Адзін з прыкладаў апісаньня наведваньня музэя, сацсеткі (http://stogova.livejournal.com/584810.html).

[31] Гл.: Джадта Т. Прошлое-чужая страна: миф и память в послевоенной Европе. Часть первая (http://gefter.ru/archive/8882). Часть вторая (http://gefter.ru/archive/9013).

[32] Ушакин С. Вспоминая на публике: об аффективном менеджменте истории (http://gefter.ru/archive/13513).

# «LET THE HEROIC DEEDS OF THE NATION LIVE FOR CENTURIES»:

# A NEW MUSEUM OF THE GREAT PATRIOTIC WAR AS A FORM OF ALIENATION FROM HISTORY

*Alaksiej Bratačkin (Alexey Bratochkin)*

On Independence Day July 3, 2014 a new Museum of the Great Patriotic War was opened in Minsk. The ceremony was attended by Belarus President Alexander Lukashenka and Russian President Vladimir Putin, which emphasized not only cultural but also political significance of the event. History of the Second World War still plays an important role in the discourse of political elites of the two countries as well as in the collective historical memory of the Belarusian and Russian society.

After Alexander Lukashenka came to power in 1994, no symbolic breach of the relationships with the Soviet past happened, while references to it had long been part of the political rhetoric. However, with time it has become evident that «re-Sovietisation» of Belarus has its limits, and changes in Belarus are taking place in parallel with the retention of «old» (Soviet) symbols whose meaning is gradually being redefined. One of such examples is a change in the discourse of memory of the Great Patriotic War and its public forms of representation.

Social and political transformations in Belarus with their temporal and semantic gaps clashed with another process, namely, the extinction of communicative «live» memory of the Second World War, instead of which other ways to «remind» the society about its history have appeared. **One of the typical features of the recent time period is the activation of the rhetoric of concern about the history which is often voiced in the discourse of memory of the Second World war both by the representatives of the regime and single individuals.** The rhetoric elements such as *«We can't afford to take away our main achievement — the Great Victory!»*, «We firmly declare the unwillingness to revise the results of World War II», *«Today we have to do everything possible to stop the revision of history»*, are not only part of the political speeches, but are also frameworks for public speculations in social networks.

There comes a question where such an obsession with this rhetoric comes from if to distance from the immediate history of the World War II. It could be assumed that what is meant here is a fundamental public concern about the alienation of history after the collapse of the Soviet Union, which is one of the first manifestations of injury caused by parting with communism. The USSR, its social and political structures, its place in the outside world was perceived by the Soviet society as a result of the action of the «laws of history», according to which once the October revolution happened. After the collapse of the USSR in post-Soviet societies, including Belarus, these ideas were replaced by *a sense of alienation from history.* They are now trying to overcome it by various means...

For Belarus one of the ways how to overcome the sense of alienation from history has among others become the construction of the memory of the Second World War, thus emphasizing by any means the role of Belarus and Belarusians in those events, as well the role in the liberation of Europe.

Those who do it interline themselves in history («world history», «European history»), from which they seem to have been «excluded» in the course of political and other transformations of the second half of the 1980s and early 1990s. Acquisition of the sense of inclusion into history is important because modernity with its problems constantly questions both the place of Belarus in the world and «historical» reason for existence of the whole society and its citizens.

## THE HISTORY OF THE «OLD» MUSEUM AND TRANSFORMATION OF ITS EXHIBITION (1942-2014)

Historization the Second World War and the history of the museum began in fact in September 1942 after the exhibition with a symbolic name *«Belarus lives, Belarus struggles, Belarus has been and will be Soviet»* was organized in Moscow on the initiative of the BSSR Communist Party. The collected materials were immediately «interwoven» in the ideological discourse of the Stalinist era. The exhibition was moved to Minsk and became the foundation of the later created Belarusian State Museum of the Great Patriotic War.

On October 22, 1944 the museum was opened in Minsk: *«a portrait of Stalin framed by the Belarusian ornament hanging above the balcony»*. After November 7, 1944 the first exhibition was opened. Museum exhibition was supposed to represent the leading role of the Communist Party in organizing the resistance movement during the Second World War and *«national character»* of the resistance in the occupied territory of Belarus. Soviet army was declared to be the «Army of mass heroism», and this statement remained unchanged until the collapse of the USSR. Changes only took place in the 1990s with the beginning of institutionalization of the independence of Belarus. **However, these political changes didn't result in a complete revision of ideas about the Second World War and Belarus' participation in it** (as compared, for example, with interpretation of war history in the Baltic countries). Only a certain special «nationalization» of war memory occurred with focus rather on the Belarusians than the Soviet people as war participants. In addition, certain topics, which had not been discussed before, became a subject of study.

In 2009 Iryna Varankova, a manager of the museum, published a report in which she spoke about the problems of the museum related to the external context and internal difficulties. One of the problems is the impossibility to use former party ideas about the history of the war and the lack of *«fundamental research on the history of Belarus during the Second World War»* in the modern Belarusian historiography. The events of the Great Patriotic War (exactly this ideologem is most commonly used in Belarus today) became a foundation of the model of collective identity which the political regime of Lukashenka was trying to create after 1994.

The Second World War was exploited by the policy of memory during the rule of Alexander Lukashenka, which to some extent corresponded to the beliefs of the Belarusian society about their own history even if they had been formed under the influence of the Soviet policy of memory. It was President of the country who in 2008 initiated the creation of the new museum of the Great Patriotic War: Lukashenka justified its creation by the fact that *«there are now attempts to take away our victory»*. This expression can be often heard from the president at meetings devoted to the memorial dates of World War II.

## CREATION OF THE NEW MUSEUM AND PROBLEMS OF ITS EXHIBITION

The question of museum creation was not discussed in public, just like the content of its exhibition. «The scientific concept of the exhibition of the Belarusian State Museum of the Great Patriotic War» was published in 2013. It contains no references to the historiography of the Second World War, but has a description of «goals and objectives» of the exhibition. These goals and objectives surely do not refer to «the scientific discourse», **but refer to the «discourse of ideology of Belarusian statehood»** instead: the exhibition must *«emphasize the fact that the modern Belarusian statehood is based on ideological and political, social and moral foundation of the Great Victory»*. The goals also involved direct control of historical knowledge: *«to truthfully reflect the events of the terrible war years, to prove that the falsifiers of history will not be able to downplay the significance of the Victory of the Soviet Union and to rehabilitate war criminals»*.

The «guarding» stance to the history of the war is complemented by anti-Western rhetoric described in an interview with the director of the museum Stanislav Azaronak published in 2010 in the main ideological magazine «Belaruskaya Dumka» (the former magazine «The Communist of Belarus»). According to the Director (now ex), *«the West knows almost nothing about partisan movement in Belarus... Why? It's because the whole ideological information machine of the West opposes to it... West consistently destroys all the centres of resistance to Western hegemony. This is done, in particular, with the help of historical falsification. They aim to erase a feeling of a winner from people, to deprive them of their core principle — patriotism»*. Though, this anti-Western rhetoric is combined with the need to also use Western experience in the memorialization of war.

The interview with the director of the museum projects the main belief, that is, *«when we take spiritual relay from veterans we become heirs to the winners. Should this link between the generations break down, especially now, when the last participants of the war pass away, it may become irreparable. If there is no winning nation, there will be defeated nation»*. Such a demagogical concern about the loss of feeling of «being a winning nation» refers us not just to the history of the war as it is, but rather **to the problem of historical subjectivity of the Belarusians**, which after the collapse of the USSR had to be redefined, explaining at the same time the historical problems related to the Second World War. New guidebook of 2014 features the museum as a *«centre for the nation's spiritual circumcision, an institute for patriotic and civil education»*.

If to compare the structure of the museum's exhibition to the one which could have been seen in the old museum before it was closed down, one can note a series of discursive shifts concerning the interpretation of the memory of war: the history of war is represented in a wider context of European history. A number of topics, including the Holocaust, are covered in more detail; there are fewer ideological clichés, and etc. But at the same time we could see lack of critical approach to the pre-war period of life in the Belarusian Soviet Republic, absence of a quality representation of events of 1939 in the Western Belarus, specific approaches to the coverage of the issue of collaboration, rejection to focus on personal stories (although they contain elements of the history of everyday life of that era), inaccuracy in description of events related to the Holocaust, and so on. In addition, interactive compositions and installations as well as models of weapons aimed at provoking the interest of visitors, are often not contextualized and become self-sufficient «attractions» instead of the museum objects that combine different functions, including the function of dissemination of historical knowledge.

The tenth hall «Heirs of the Great Victory» catches special attention of many because it exhibits among other things, the portraits of Alexander Lukashenka and representatives of law enforcement agencies who *«today continue to protect peaceful sky above, the borders of our country and the creative work of our citizens»*. And *«special place is occupied by the showcases devoted to an undeclared war in Afghanistan»*.

What do the viewers think about the museum? The visitors are actively taking *selfie* sagainst the background of the military equipment and other exhibits. Unfortunately, it is not possible to make a representative sample of opinions, but the search results in blogs and social networks link us to the reviews that describe the convenience of taking pictures from different angles, a strong emotional impact of exhibition and a surprise about the fact that not all of the old museum exhibits are displayed. It can be noticed that the new museum is turning into a typical object of «consumption of war», as was the case with the opened in 2005 Stalin's Line which, despite all negative historical connotations, has become one of the most popular tourist destinations in Belarus.

## INSTEAD OF THE CONCLUSION

The Second World War became one of the defining events in the history of the Belarusian society. Since 1945 the memory of this event has repeatedly been censored and revised. This was happening not only in the USSR, but was also a phenomenon of the post-war history of Europe. A number of social groups within the Soviet Union were deprived of the chance to talk about their experiences of war that didn't correspond to the official canon of cultural memory. Post-Soviet Belarus has faced a rather slow transformation of the Soviet images of the Second World War memory (as we can see from the example of the new museum). The reason for such a slow transformation is not only Soviet ideological heritage. The policy of memory carried out by the authority of Alexander Lukashenka is yet quite successful, since it appeals to mass feelings and desires to enter «into the history», which is problematic in the situation of current transformations and crises.

Another means how to accept the official memory of the war in Belarus is to appeal to the «emotionality», «the affective mismanagement» of history when one rejects to reflect on history and is offered a «ritual» or «mnemonic objects» instead. Although they contribute to the unity of the mass audience, the «solidarity that arises in the process of pragmatic use of symbolic forms of the past has neither a common experience nor common knowledge of history».

**It's a paradox**, but the creation of the new Museum of the Great Patriotic War, aimed at destroying the growing sense of alienation between history and the restoration of an emotional connection with the past, **functions rather as a new form of alienation from history**, in which it is taken out of the public consciousness.

*Translated from Russian partly.*



**Руслан Вашкевіч.** Ня гледзячы ні на што. 2013. Палатно, алей. 200 x 300

**Ruslan Vaškievič (Ruslan Vashkevich).** Not looking at anything. 2013. Canvas, oil. 200 x 300

МЕРКАВАНЬНЕ

# СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ:

## МЫ НЕЗВАРОТНА СТРАЧВАЕМ МАГЧЫМАСЬЦІ

Пра тое, што Другая сусьветная вайна для беларусаў пачалася ў верасьні 1939 году, што адбываліся супольныя нацысцка-бальшавіцкія вайсковыя парады, што тысячы беларусаў ваявалі ў польскай уніформе на два франты, што сотні зь іх палеглі ў Катыні, а іншыя вызвалялі сьвет у войску Андэрса і ў Арміі Краёвай, што быў ня толькі фашыстоўскі, але й партызанскі тэрор супраць мірнага насельніцтва, — цяпер ведаюць у нас адзінкі.

У Беларусі склалася сытуацыя, дзе, з аднаго боку, ёсьць дзіўнаватае выкарыстаньне гістарычнае памяці, калі важная не яна сама, памяць, а яе вэрсія, адаптаваная пад сёньняшнія патрэбы. А з другога — існуе практыка празьмернага мэркантылізму, на падставе чаго можна зьнішчыць любы помнік архітэктуры, музэй ці парк, калі нехта дасьць грошы, ужо сёньня.

Будынак зруйнаванага музэю і **быў такім помнікам архітэктуры ў Дзяржаўным сьпісе гісторыка-культурных каштоўнасьцяў** са студзеня 2001 года, пад шыфрам 1а1Е400632. Ён быў пабудаваны ў 1966 годзе, паводле праекту слынных архітэктараў, удзельнікаў тае вайны — Георгія Бэнэдыктава і Георгія Заборскага. На той час — першы ў сьвеце адмысловы музэй Другой сусьветнай вайны і найбуйнейшае ў СССР сховішча ваенных экспанатаў і артэфактаў. Гэта ўжо быў пэўны брэнд Менску — адзін з найвялікшых музэяў вайны ў сьвеце!

Кошт матэрыялаў, укладзеных у будаўніцтва, быў неверагодна вялікім. Нічога блізкага па якасьці матэрыялаў сёньня ўзьведзена ўжо ня будзе. Музэй заняў важнае месца ў горадабудаўнічым ансамблі цэнтра сталіцы. Абапал яго ўтварылася найкаштоўнейшая, як для цэнтру горада, зялёная зона... Архітэктурнае аблічча таго старога будынку крытыкавалася адпачатку, бо ня ўсё архітэктарам тады далі ўвасобіць. У беларускай і ў маскоўскай крытыцы яго вельмі жорстка ганьбілі. Каб адрозьніць гэты будынак ад заводзкага цэху, нахлабучылі зьверху лёзунг *«Подвигу народа жить в веках!»*. Відавочна, пабудова патрабавала апэратыўнага ўмяшаньня архітэктараў і дызайнэраў з мэтаю дацягнуць ягоны ляпідарны выгляд да харызматычнага вобразу Палацу прафсаюзаў, але шануючы памяць яго першых стваральнікаў і наведнікаў. Аднак у старога будынка была духоўная каштоўнасьць. Экскурсіі там вадзілі сапраўдныя вэтэраны вайны, партызаны, ахвяры канцлягераў і вязьні гета. Гэтае месца было намоленае. Там жыла рэальная памяць пра рэальных герояў і ахвяраў. І гэта рабіла магутнае ўражаньне на наведнікаў. За паўстагодзьдзя існаваньня музэю будынак набрыняў гістарычнай, мэмарыяльнай каштоўнасьцю. Менавіта ў гэты будынак прыходзілі і савецкія вэтэраны, і дэлегацыі зь Нямеччыны ды Аўстрыі.

Адна памылка пацягнула за сабою наступную. Новы музэй усадзілі ў старым парку, што быў адкрыты акурат у першы ж дзень вайны ў 1941 годзе. Адпаведна, тым дрэвам было больш як 70 гадоў і яны памяталі ўсё... Парк быў сам па сабе ўнікальным помнікам, дзе можна распавядаць вусьцішную гісторыю, як моладзь прыйшла на адкрыцьцё і была накрытая бамбёжкаю. Другая памылка — гэтае месца далёка ад цэнтру. Пешкі госьць сталіцы, турыст туды ня пойдзе.

Вынас з цэнтру, на падставе крайняга мэркантылізму, знакавых культурных аб'ектаў — адна з самых вялікіх праблемаў Менску.

Музэй разьмясьцілі на праспэкце Пераможцаў адмыслова, на маршруце да Палацу Незалежнасьці й рэзыдэнцыі ў Драздах. Калі ўжо на тое пайшло, рэальны манумэнт памяці варта будаваць у саміх Драздах. Бо там быў адзін з самых страшных канцлягераў, там кожная сотка зямлі палітая крывёю савецкіх ваеннапалонных, а таксама тысяч габрэяў з многіх куткоў сьвету... Яшчэ адна вялікая памылка — згуба пляцоўкі на месцы старога музэя вайны. Бо яна павінна была выконваць дзьве самыя важныя ролі — служыць грамадзтву й быць агульнадаступнаю ды зьберагаць памяць пра паўсотгадовую традыцыю месца. У гэтым сэнсе любы праект ягонай рэканструкцыі пад грамадзкія й культурныя патрэбы — пад Нацыянальную галерэю, Музэй прыроды, шматфункцыянальны выставачны цэнтар — быў бы дарэчны, каб захаваўся маштаб будынка, зацішная непраезная зона вакол яго, старыя прысады й зялёны двор, каб быў забясьпечаны вольны доступ на дах, адкуль колісь раскрывалася самая лепшая панарама Менску.

Але ў выніку дзеяньняў уладаў **мы незваротна страчваем гэтыя магчымасьці**. Тое месца больш ня будзе мець колішняга грамадзкага, культурнага, экалягічнага значэньня. І віду з даху шкада невераемна...



**Яўген Шадко.** Аб'ект. Праект «Becoming an artist». 2013
**Jauhien Šadko.** Object. Becoming an artist project. 2013



# SIARHIEJ CHAREŬSKI:

## CULTURE AND ART HISTORIAN, ABOUT NEW NATION MUSEUM OF GREAT PATRIOTIC WAR IN MINSK

Nowadays only few people know that for the Belarusians the World War II started in September 1939, that there were joint Nazi-Bolshevik military parades, that thousands of Belarusians fought wearing Polish uniform on two fronts, that hundreds of them perished in Katyn and others liberated the world in the Anders' Army and in the Polish Home Army, that the terror against the civilians was struck not only by fascists but also by partisans themselves.

In Belarus at the moment there is a situation characterized by a peculiar use of historic memory, when not the memory itself but its version adapted to the current needs is important.

On the other hand, we observe excessive commercialism in practice, which is widely used as an excuse for the destruction of any architectural monument, museum or park if anyone invests any money into this already today. Since January 2001 the building of the demolished museum had been such an architectural monument in the State List of Historical and Cultural Heritage under the code 1a1E400632. It was erected in 1966, according to the project of Georgiy Benediktov and Georgiy Zaborski — famous architects and war participants. At that time **it was the world's first special museum of the World War II and the Soviet Union's largest repository of military exhibits and artifacts**. Moreover, this was a particular brand of Minsk — one of the largest war museums in the world! The cost of construction materials was incredibly high. Today nothing close to the quality of the materials used then is likely to be built. The building took an important place in the capital's urban ensembles. On either side of it a green zone was formed being most valuable for the city center...

The architectural exterior of that old building faced immediate criticism, as soon as it was built, because the architects had not been allowed to put all their ideas into life. It was severely criticized by the Belarusian and Moscow critics. To distinguish the building from the factory, it was crowned by the slogan «The people's feat will live forever». Obviously, the building required a timely intervention of the architects and designers in order to make its lapidary look *match* the charismatic image of the Palace of Trade Unions, at the same time not losing the respect to those who were its first creators and visitors. However, **the old building had a spiritual value**. The excursions were held by real veterans, former concentration camps victims and ghetto prisoners. It got the atmosphere of a charismatic icon. A real memory of real heroes and victims was living there. And it produced a powerful impression on the visitors. For half a century of the museum's existence the building obtained historical and commemorative value. Both Soviet veterans and delegations from Germany and Austria attended the building.

**One mistake caused another** — the new museum was squeezed into the old park, which opened just in the first day of the war in 1941. And, accordingly, those trees were more than 70 years old and they did remember everything... That park was a unique monument itself, where one can tell terrible stories of how young people gathered to inaugurate the park and were caught in the bombing. The second mistake was linked to a big distance between this place and the center. A guest who has arrived to visit the city, a tourist will not reach it on foot. Relocating the iconic cultural sites away from the city center, guided by the extreme mercantilism, is one of the biggest problems in Minsk. The museum was purposefully located on Winners Avenue, on the route to the Palace of Independence and to the residence in Drazdy. If it comes to that, a real monument to the memory must be built in Drazdy itself. Because it was in that area where one of the worst concentration camps, where each acre of land was covered by the blood of Soviet prisoners of war, as well as of thousands of Jews from many parts of the world was situated.

**The loss of the site of the old War Museum** is an another big mistake. After all, it had to perform two very important roles — being available the public, to serve its needs and to commemorate a 100-years' tradition of the place. In this sense, any project of its reconstruction which would meet social and cultural needs (transformation into the National Gallery, the Museum of Nature, a multifunctional exhibition center) would be appropriate to preserve the scale of the building, a secluded surrounding area with no carriageway, old alleys and a green courtyard to ensure a free access to the roof, which once used to reveal the best view of Minsk.

But, as a result of the authorities' actions we are irrevocably losing these opportunities. **This place will no longer have the old social, cultural and environmental values**. And I feel terribly sorry for the loss of the view from the rooftop.



**Яўген Шадко. Акалічнасьць.** Праект «Структурызацыя». 2013
**Jauhien Šadko (Jauhien Shadko).** Circumstance. Structuring project. 2013

**Яўген Шадко.** Face off

**Jauhien Šadko (Jauhien Shadko).** Face off

# Трасьцянец: у чарзе па памяць

*Вольга Бубіч*

У 11 кілямэтрах ад Менску па Магілёўскай шашы знаходзіцца гіганцкі трасьцянецкі сьметнік. Прамзона, ачышчальныя збудаваньні, сьмецьцевая яма... І дагэтуль няшмат беларусаў ведае, што пад кучамі адкідаў знаходзяцца парэшткі больш за дзьвесьце тысячаў закатаваных людзей, зьнішчаных нацыстамі ў лягеры сьмерці Трасьцянец падчас Другой сусьветнай вайны.

Канцэнтрацыйны лягер Трасьцянец у гады вайны аб'ядноўваў некалькі месцаў масавага зьнішчэньня людзей: урочышча **Благоўшчына** — месца масавых расстрэлаў; лягер — побач зь вёскай **Малы Трасьцянец**; урочышчы **Шашкоўка** — месца масавага спаленьня людзей. Агульная плошча — каля 205 гектараў[1]. Зь вясны 1942 году лягер пачаў прымаць партыі зьняволеных: палонных чырвонаармейцаў, партызанаў, падпольшчыкаў, габрэйскіх жыхароў. Сюды ж прывозілі для зьнішчэньня эшалёны зь мірнымі грамадзянамі Аўстрыі, Польшчы, Чэхаславаччыны, Францыі й Нямеччыны. Дзейнічаў лягер да канца чэрвеня 1944 году.

Больш за паўстагодзьдзя лёс гэтых людзей заставаўся нязручнай тэмай для размоваў, але цалкам зручнай — для маўчаньня ўладаў. І шматкроп'е ў гісторыі чацьвертага па велічыні лягеру сьмерці ў Эўропе, які стаяў у адным шэрагу з такімі крывавымі канцэнтрацыйнымі лягерамі, як Асьвенцім, Майданэк і Трэблінка, абумоўлена ня толькі складанасьцямі вызначэньня дакладных лічбаў загінулых. Афіцыйна на сёньняшні дзень гэта 206,5 тысячаў чалавек. Аднак у 1995 годзе Ала Ванькевіч, вучоная сакратарка Беларускага дзяржаўнага музэю гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, намесьніца старшыні гісторыка-мэмарыяльнага фонду «Трасьцянец», апублікавала іншыя лічбы — 546 тысячаў чалавек. У сваёй заяве яна кіравалася дакумэнтамі Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі й Менскай абласной камісіі садзейнічаньня працы ЧГК ад 14 ліпеня — 13 жніўня 1944 году, дзе засьведчана: «Камісія, улічваючы паказаньні сьведак, колькасьць і памеры магілаў, колькасьць трупаў і аб'ём попелу й костак у магілах, лічыць, што, паводле самых мінімальных падлікаў, у раёне лягеру Трасьцянец фашысцкімі людаедамі зьнішчана 546 тыс. чалавек, зь іх у 34 магілах пахаваныя парэшткі (попел і косткі) 476 тыс. чалавек, у печы спалена 68 чалавек, і ў адрынах і на бярвёнах спалена 2 тыс. чалавек»[2].

Аднак, на думку беларускіх гісторыкаў[3], у Трасьцянцы каралі сьмерцю ня толькі нацысты. На пачатку вайны, у ноч з 24 на 25 чэрвеня 1941 году, у гэтым раёне савецкія ўлады расстрэльвалі зьняволеных менскіх турмаў. Адна калёна вязьняў была расстраляная на 11-м кілямэтры Магілёўскай шашы, а другую, у тым ліку вязьняў Каўнаскай турмы, расстралялі праз два дні, ужо пад Чэрвенем. Менавіта жаданьнем савецкіх уладаў схаваць гэты факт вядомы беларускі гісторык, дасьледчык сталінскіх рэпрэсіяў **Ігар Кузьняцоў** тлумачыць зьяўленьне на месцы лягеру Трасьцянец буйнамаштабнага сьметніку. «*А вы не задумваліся, чаму на самым сьвятым для беларусаў памятным месцы літаральна пасьля вайны зрабілі сьметнік? У 1950 годзе прымаецца пастанова Саўміну СССР аб увекавечаньні памяці лягеру Трасьцянец, у 1955-м — другая пастанова аб мэмарыялізацыі, а ў 1956-м на гэтай тэрыторыі раптам ствараецца гарадзкі сьметнік. І «пасадзілі» яго роўненька па контуры (!) межаў расстрэльнай зоны НКУС. Ня проста ў лесе, а выразна па межах перадваенных расстрэлаў. Гэта была самая сакрэтная расстрэльная апэрацыя на тэрыторыі Беларусі. І трэба было яе надзейна падстрахаваць, таму пасьля пастановаў аб мэмарыяле сьпешна накрылі гэтае месца сьметнікам. Раскапаць яго ўжо немагчыма*»[4], — камэнтуе Ігар Кузьняцоў.

...Забыцьцё. На месцы агульнай магілы бязьвінна загінулых замест музэю памяці — горы сьмецьця, пустаты, шалупіньня павярхоўнасьці нашых будняў, існаваньня без каранёў, без адказаў на самыя галоўныя, пазачасавая пытаньні чалавека, у якога ўсё менш падставаў быць напісаным зь вялікай літары... Крыху ўбаку ад месца бесчалавечных забойстваў помнік усё ж ёсьць. Гэта маленькі каменьчык савецкіх часоў з надпісам: «150 000». Менавіта такая лічба фігуравала тады для азначэньня колькасьці ахвяраў Трасьцянецкага лягеру — з мэтаю зьменшыць маштаб трагедыі. Ёсьць яшчэ некалькі «сьціплых» знакаў: на ўскрайку лесу Шашкоўка, на месцы расстрэлу й спаленьня ў печах 50 тысячаў чалавек (помнік пастаўлены ў 1966 годзе), у Малым Трасьцянцы (1965) і на алеі побач з Партызанскім праспэктам і вёскай Вялікі Трасьцянец (1963). Але, зразумела, гэтага недастаткова. Маштабная трагедыя зьнішчэньня чалавечай годнасьці яшчэ ня сталася тым, чым паводле лёгікі маралі й маральнасьці павінна была стаць, — пазачасавым урокам, адказам на любую спробу заяваў пра перавагу аднаго народу над іншым, гучным папярэджаньнем спыніцца, пакуль ня стала занадта позна.

Важнасьць мэмарыялізацыі памяці заўсёды разумеў беларускі архітэктар **Леанід Левін**, чалавек, які зрабіў рэалізацыю гэтай мэты сэнсам сваёй творчасьці. Пасьля сыходу Леаніда Левіна з жыцьця ў 2014 годзе нам засталіся спраектаваныя ім комплексы «Хатынь» (1969), «Яма» (на тэрыторыі Менскага гета, 2000-я), «Чырвоны Бераг» (у памяць дзяцей, якія загінулі ў Вялікай Айчыннай вайне і ў выніку Чарнобыльскай катастрофы, — на месцы дзіцячага канцлягеру, г. п. Чырвоны Бераг Жлобінскага раёну, 2006), мэмарыяльныя комплексы вязьням гета ў Слуцку й загінулым габрэям г. п. Гарадзея, «Шунёўка» (мэмарыяльны комплекс «Праклён фашызму») і шмат іншых. Апошнім, нясконченым, праектам архітэктара сталася «Благоўшчына» — тое самае, усімі забытае, месца, якое знаходзіцца ў 3,5 км ад Малога Трасьцянца, дзе пахаваныя сотні тысячаў людзей.

Дачка архітэктара, **Галіна Левіна**, сёньня ўзначальвае творчую майстэрню бацькі й разам з групай скульптараў і мастакоў робіць усё магчымае, каб мэмарыял быў узьведзены. Асаблівасьцю актуальнай сытуацыі па Трасьцянцы зьяўляецца той факт, што афіцыйныя дзяржаўныя конкурсы былі праведзеныя выключна на будаўніцтва так званай «уваходнай групы» помніку, то бок толькі месца, куды нацысты прывозілі палонных. Але ідэя Леаніда Левіна палягала якраз у тым, каб пабудаваць цэлы комплекс, які ахопліваў бы тэрыторыю, большую за 100 гектараў, і ўлучаў

[1] Hoffmann J. «Action 1005» — Covering the Tracks of Mass Crimes in Maly Trostenets by German Perpetrators // The Trostenets extermination site within European commemoration. Materials from the Minsk international conference 21th — 24th March 2013. S. 20 (http://www.ibb-d.de/fileadmin/user_upload/pdf-2013-trostenez/trostenets_english.pdf).

[2] «Тростенец» — четвертый по величине лагерь смерти в Европе. БЕЛТА (http://www.belta.by/ru/articles/dossier/Trostenets--chetvertyj-po-velichine-lager-smerti-v-Evrope_i_872.html).

бы ўсе чатыры часткі: пункт прыёму вязьняў; дарогу, уздоўж якой іх вялі ў лягер; тэрыторыі, дзе знаходзіліся аб'екты інфраструктуры лягеру; а таксама само месца забойстваў — калектыўную магілу ва ўрочышчы Благоўшчына.

Праект майстэрні Леаніда Левіна быў упершыню прадстаўлены грамадзкасьці ў сакавіку 2013 году ў Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёганэса Раў (ММАЦ) падчас Міжнароднай канфэрэнцыі «Лягер сьмерці Трасьцянец у эўрапейскай памяці», дзе аўтар агучыў і пафілязофску абгрунтаваў сымбалізм мастацкіх элемэнтаў свайго твору. Гэтая канфэрэнцыя была праведзеная па ініцыятыве эўрапейскага боку, а партнэрамі мерапрыемства выступілі Дортмундзкі міжнародны адукацыйны цэнтар і грамадкае аб'яднаньне «Заўсёды памятаем Трасьцянец» (Вена, Аўстрыя). Беларускі бок прадстаўляла «Гістарычная майстэрня ў Менску», якая з 2002 году займаецца разьвіцьцём і рэалізацыяй праграмаў гістарычнай адукацыі, а таксама падтрымкай новых тэндэнцыяў у дасьледаваньні ваеннай гісторыі й акупацыі Беларусі ў беларускай і нямецкай гістарыяграфіі.

Паводле ідэі Леаніда Левіна, архітэктурным вырашэньнем першай пляцоўкі мэмарыялу павінен стаць памятны комплекс у выглядзе пакінутых валізак, які падкрэсьлівае той факт, што эшалёны зь людзьмі прыбывалі з розных краінаў у Трасьцянец з багажом, — ахвяры меркавалі, што іх запрасілі асвойваць новыя ўсходнеэўрапейскія тэрыторыі. Валізкі выступаюць сымбалем забранага дому, таго, што заставалася ад саміх людзей пасьля таго, як яны пераступалі парог лягеру. За пляцоўкай плянуецца алея з чырвонай дарогай, якая б вяла наведвальнікаў комплексу скрозь шэраг чыгуначных вагонаў з выгравіраванымі імёнамі ахвяраў лягеру сьмерці ўсярэдзіне. У канцы алеі — вялікая пляцоўка са скульптурамі перакуленых аб'ектаў — дрэваў і хатаў. Такім чынам, паводле задумы Левіна, паказваецца парадокс вайны. Якое дрэва можа расьці каранямі ўверх? Як можна жыць у перакуленай хаце? Тое немагчыма гэтаксама, як і чалавечая лёгіка адмаўляецца ўспрыняць мажлівасьць існаваньня канцлягераў і ўвогуле ідэю перавагі адных народаў над іншымі, якая давала б ім права зьнішчаць людзей. Напрыканцы алея прыводзіць наведвальнікаў да прорвы — пустой круглай пляцоўкі чорнага колеру.

Галіна Левіна, камэнтуючы ідэю бацькі, падкрэсьлівае неабходнасьць пераасэнсаваць традыцыйны «кропкавы» падыход, характэрны для савецкай сыстэмы мэмарыялізацыі месцаў памяці. Імкненьне да ўзьвядзеньня мэмарыяльнага комплексу з мэтаю ўвекавечыць менавіта прастору характэрнае для ўжо рэалізаваных праектаў Леаніда Левіна. Комплекс «Хатынь» — напэўна, самы вядомы прыклад. У такога кшталту комплексах акцэнт робіцца на доўгачасовым знаходжаньні наведвальніка ў асаблівым для гісторыі месцы, на зьдзяйсьненьні там пэўных дзеяньняў (рытуалаў), якія даюць магчымасьць адчуць, прасякнуцца атмасфэрай гэтага месца, задумацца пра сымбалічны сэнс разьмешчаных там мастацкіх аб'ектаў. Гаворка ідзе не пра сухую фармальную падачу фактаЛёгіі, а пра стварэньне пэўнай эмацыйнай прасторы для новых пакаленьняў. *«Бо падобнага кшталту мэмарыяльныя комплексы*, — упэўнены адзін са скульптараў творчай групы Леаніда Левіна **Аляксандар Шапо**, — *ствараюцца не для цяперашняга пакаленьня, а для тых, хто прыйдзе пасьля нас»*.

*«Трасьцянец — гэта ня толькі адзін участак, гэта некалькі тэрыторыяў з пэўнымі функцыямі, — кажа Галіна Левіна. — Месца, куды прывозілі людзей, дзе іх сартавалі, адбіралі рэчы, дарога, па якой іх вялі ў лягер, і само месца пакараньня й пахаваньняў, — і ўсе яны павінны абавязкова прысутнічаць у мэмарыяле. Гэта быў сцэнар зьнішчэньня, які павінен быць рэканструяваны для наведвальнікаў. Кропкавага элемэнту тут проста ня можа быць, таму што на гэтай вельмі вялікай тэрыторыі кожны квадратны мэтар мае сваё гістарычнае й чалавечае значэньне. Бо памяць — гэта не высакаякаснае брукаваньне дарожкі, гэта нешта іншае…»*

Акрамя прэзэнтацыі ў Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры, праект майстэрні Левіна быў паказаны й у розных гарадах Нямеччыны, якія творчая майстэрня наведала, каб сустрэцца са сваякамі дэпартаваных адтуль і зьнішчаных у Трасьцянцы габрэяў. Паводле дадзеных, апублікаваных у беларускай прэсе, бюджэты гэтых гарадоў вылучылі на праект комплексу больш за 500 тысячаў эўра[5]. У 2013 годзе праект мэмарыялізацыі «Благоўшчына» быў ухвалены радаю Камітэту архітэктуры й горадабудаўніцтва, але ягоны кошт ацэнены ў 9–10 мільёнаў эўра (!)[6]. Таму рэалізацыя праекту падзеленая на дзьве часткі. Над узьвядзеньнем манумэнту ў Трасьцянцы («уваходная група») ужо вядуцца працы, комплексы «Шашкоўка», дзе былі крэматоры, і «Благоўшчына» адкладзены на няпэўны час.

*«На жаль, так складаецца нейкая лёгіка нашага жыцьця, што праект не вылучаюць у першую чаргу*, — камэнтуе Галіна Левіна. — *Перадусім пад праектаваньне трапляе непасрэдна тэрыторыя, дзе знаходзіўся сам лягер. Благоўшчына — месца масавых пахаваньняў — апынулася ў нейкай "чарзе". На наш погляд, і я асабіста глыбока ў гэтым перакананая, у захаваньні памяці ня можа быць чэргаў. Мы й так 70 гадоў стаім у "чарзе". Зразумела, што пытаньне фінансаваньня важнае, але пытаньне памяці, на мой погляд, не павінна залежаць ад грошай»*.

У конкурсе на «ўваходную групу» перамог аўтарскі праект скульптара Канстанціна Касьцючэнкі «Брама памяці», прадстаўлены інстытутам «Мінскпраект». Дзесяціметровая скульптура будзе паказаная ў траўні 2015 году ў межах урачыстых мерапрыемстваў на месцы, дзе 8 чэрвеня 2014 году прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь заклаў памятную капсулу.

Які далейшы лёс маштабнага й глыбока асэнсаванага праекту майстэрні Левіна, што ўжо атрымаў міжнароднае прызнаньне экспэртаў? Сама Галіна выказвае надзею на тое, што, пераадолеўшы ўсе бюракратычныя перашкоды, ён «у вызначаным парадку» пройдзе экспэртызу й пачне рэалізоўвацца ў 2016 годзе. *«Так склалася сытуацыя… Але другая чарга ў нас усё ж ёсьць… Выходзіць, што мы зноў стаім у чарзе. Як калісьці яны, вязьні лягеру, стаялі ў чарзе… па сьмерць. Толькі нашая чарга зараз — за памяцьцю. А мы сёньня павінны памятаць усіх»*.

Падчас цырымоніі закладкі капсулы, акрамя прадстаўнікоў беларускай дэлегацыі, прысутнічала больш за сотню замежных гасьцей з Аўстрыі, Нямеччыны, Ізраілю, Польшчы, Чэхіі, ЗША й іншых краінаў — усе яны хацелі выканаць свой абавязак памяці. Пасьля афіцыйнай цырымоніі замежныя сваякі тых, хто загінуў тут 70 гадоў таму, адправіліся ў Благоўшчыну, месца безназоўнай магілы сваіх продкаў, каб ускласьці кветкі й ушанаваць памяць бязьвінных ахвяраў. Скульптар Аляксандар Шапо, які прысутнічаў на цырымоніі, прыгадвае цяжкую напружаную атмасфэру, якою ў той дзень быў прасякнуты лес. Унукі расстраляных, закатаваных альбо спаленых жыўцом вязьняў прывезлі з сабой сьпісы з імёнамі продкаў. Пад пранізьлівую мэлёдыю скрыпкі лямінаваныя паперы жоўтага колеру разам з кветкамі былі прывязаныя да ствалоў дрэваў…

Зноў паўстае пытаньне, чаму беларусы так абыякава ставяцца ня толькі да сваёй агульнай гісторыі, але й да асабістай. Чаму ахвяры зь беларускага боку й да гэтай пары збольшага застаюцца ананімнымі, схаванымі пад абстрактнымі лічбамі з мноствам нулёў?

Чаму праект мэмарыялу так і не атрымаў паўнавартаснага грамадзкага абмеркаваньня, а ўсе пытаньні вырашаліся за зачыненымі дзьвярмі? Складаецца ўражаньне, што рэалізацыя праекту — не маральны абавязак жыхароў гэтага месца, ня іхняе шчырае жаданьне, але чыйсьці прымус, загад «зьверху»? І здаецца, што пра вусьцішныя падзеі тых часоў хвоі гэтага лесу захоўваюць больш успамінаў, чым мясцовыя людзі, якія пагадзіліся са сьметнікам на месцы трагедыі альбо наўмысна замоўчваюць жудасныя лічбы й факты.



**Яўген Шадко.** Сэрыя аўтапартрэтаў. Праект «Becoming an artist». 2013
**Jauhien Šadko (Jauhien Shadko).** Self-portrait series. Becoming an artist project. 2013

[3] Борель Е. Неразгаданные тайны Тростенца // ЕўраБеларусь. 2.02.2015 (http://eurobelarus.info/news/society/2014/04/24/nerazgadannye-tayny-trostentsa.html).

[4] Тамсама.

[5] 150 000 эўра, акрамя таго, 150 000 эўра — ад нямецкага фонду «Biteg», 200 000 — ад нямецкага фонду па доглядзе за вайсковымі пахаваньнямі, і яшчэ 10 000 — ад гамбурскага фонду «Zeit». Гл.: Стоимость строительства мемориала в Тростенце составит около 10 млн евро // TUT.BY. 28.03.2014 (http://news.tut.by/society/392837.html).

[6] Паводле меркаваньня асобных гісторыкаў і экспэртаў, гэтая лічба завышаная. Праект магчыма зьдзейсьніць нашмат меншымі сродкамі. Гл.: Борель Е. Неразгаданные тайны Тростенца // ЕўраБеларусь. 2.02.2015 (http://eurobelarus.info/news/society/2014/04/24/nerazgadannye-tayny-trostentsa.html).



**Яўген Шадко.** Сэрыя аўтапартрэтаў. Праект «Becoming an artist». 2013

**Jauhien Šadko (Jauhien Shadko).** Self-portrait series. Becoming an artist project. 2013

# TRASCIANIEC: QUEUEING FOR MEMORY

11 kilometers from Minsk if you drive along Mahiloŭ highway you will find a huge Trascianiec (Trostenets) dump. Industrial zone, treatment plants, a garbage pit... Still only few Belarusians know that under those piles of waste there are the remains of more than two hundred thousand people tortured and murdered by the Nazis in the death camp «Trascianiec» in the times of the Second World War.

«Trascianiec» concentration camp during the Second World War included several places of mass destruction: the tract of **Błahaŭščyna** — a place of mass executions; the camp near the village of **Maly Trascianiec**; the tract of **Šaškoŭka** — a place of mass burning of people. The total area was about 205 hectares[1]. Since the spring of 1942, the camp started to receive prisoners: the Red Army militaries, guerrillas, underground fighters, Jewish residents. Civilians from Austria, Poland, Czechoslovakia, France and Germany were also brought there for destruction transported by trains. The camp had been functioning until the end of June 1944.

For more than half a century, the fate of the people murdered there remains in the official circles an uncomfortable topic for conversation, but somehow quite comfortable — for keeping silent. And the open end in the story of the fourth-largest extermination camp in Europe, which stands in the same line with such cruel concentration camps as «Auschwitz», «Majdanek» and «Treblinka», is caused not only by the difficulty of discovering the exact numbers of the victims. Officially, the today's figure is 206 500. However, in 1995 Alla Vańkievič, academic secretary of the Belarusian State Museum of the Great Patriotic War, Deputy Chairman of the historical and memorial fund «Trascianiec», published different figures — 546 000 people. Her statement was based on the documents of the Extraordinary State Commission for Investigation of Nazi Crime and the Minsk Regional Commission for the Facilitation of the Work with the ESC from 14 July to 13 August 1944, where it was said: *«Taking into account the witnesses' testimony, the number and size of the graves, the number of corpses, the amount of ash and bones found in the graves in the area of «Trascianiec» concentration camp, the Commission asserts that minimum estimated figures of the victims of the Nazi cannibals are as follows: 546 000 people. In 34 graves the remains (ash and bones) of 476 000 people were buried, 68 were burned in furnaces and 2 000 — in barns»*[2] .

However, the Belarusian historians[3] assume that in «Trascianiec» not only the Nazis were executing people. At the beginning of the war, in the night of June, 24 1941 in that area the Soviets shot Minsk prisoners. One column of prisoners were shot on the 11th kilometre of Mahiloŭ highway, and the other one, including Kaunas prisoners, was executed two days later, already near Červen town. It is the intention of the Soviet authorities to conceal this fact which, according to the opinion of the famous Belarusian researcher of Stalinist repressions **Ihar Kuzniacoŭ** (Igor Kuznetsov), explains the appearance of the large-scale dump at the same place where «Trascianiec» extermination camp used to be located. *«Haven't you wondered why in the most holy memorable place for the Belarusians just after the war the dump suddenly appeared? In 1950 the resolution of the USSR Council of Ministers to perpetuate the memory of «Trascianiec» extermination camp was adopted, in 1955 - the second resolution on memorialization, and in 1956 in exactly the same spot the city dump was suddenly created. And its contour (!) coincided exactly with the borders of the NKVD prewar shooting zone. Not just in the woods, but following a clear boundary of the prewar shootings. It was the most secret firing operation on the territory of Belarus. And it was necessary to insure its safety, so after the decisions on the memorial construction, it was hastily covered by the dump. To get deeper into the ground is no longer possible»*, — **Ihar Kuzniacoŭ** comments[4].

...Oblivion. At the site of the common burial of the innocent victims instead of a museum of memory there are mountains of waste. Mountains of the emptiness, the husk of superficiality of our everyday life, of our rootless existence, of the absence of answers to the most important, timeless questions posed by man who has less and less reasons to write his name with a capital letter... A little bit farther from the place of the inhuman murders there actually is a monument. It is a small stone dating back into the Soviet past with the figure of 150. 000 victims written on it. It is this number which was then used to indicate the number of «Trascianiec» concentration camp victims in order to belittle the scale of the tragedy. There are some more «modest» signs of the tragedy nearby: in the Šaškoŭka woods, at the place of the execution and burning of 50 000 people (the monument was erected in 1966), in Maly Trascianiec (1965), in the alley next to the Partyzanski Avenue and the village of Vialiki Trascianiec (1963). But of course it is not enough. The enormous tragedy of the human dignity destruction so far has not become something that, according to the logic of any morale and morality, it was supposed to – a lesson to be learnt, a response to any attempt of claims about the superiority of one nation over another, a loud warning to stop until it is too late.

The Belarusian architect **Leanid Levin** had always realized the importance of the memory memorialization and became a person who made reaching this goal the essence of his own creative life. Before he passed away in 2014 he had left us numerous projected and implemented memorials, among which there is «Khatyn» (1969), «The Pit» (at the Minsk ghetto territory, the 2000s), «Čyrvony bierah» (a memorial dedicated to the children who perished in the Great Patriotic War and the Chernobyl disaster, at the site of the children's concentration camp, in the town of Čyrvony bierah, Zhlobin district, 2006), memorial complexes to ghetto prisoners in Slutsk and to murdered Jews in the town of Gorodeya, «Shunjouka» (the memorial complex «The Curse of Fascism») and many others. The architect's last, unfinished project was «Błahaŭščyna» — that very place forgotten by everyone, 3.5 km from Maly Trascianiec, that had buried hundreds of thousands of people.

**Halina Levina**, the architect's daughter, now heads the creative studio of her father and, together with a group of sculptors and artists, does her best to have the memorial erected. The peculiarity of the current situation on Trascianiec is the fact that the official state contests were held only for the construction of the so-called «entrance group» of the memorial that is only to memorialize the spot where the Nazis used to bring the captives. While Leanid Levin's idea was to erect the whole memorial complex that would cover the territory of more than 100 acres and include all four parts: the place where the captives were brought, the road along which they were moved, the territory of the camp's infrastructure and the very place of execution — the common burial in Błahaŭščyna.

**Leanid Levin**'s studio's project was first presented to the public in March 2013 in Johannes Rau International Centre for Education and Exchange in Minsk (ICEE) during the international conference «The Trascianiec Extermination Site within European Commemoration», where he articulated and philosophically grounded the symbolism of the artistic elements present in it. The conference was held

[1] Jens Hoffmann. «Action 1005» — Covering the Tracks of Mass Crimes in Maly Trascianiec by German Perpetrators. // The Trascianiec extermination site within European commemoration.Materials from the Minsk international conference 21th-24th March 2013. P. 20. // http://www.ibb-d.de/fileadmin/user_upload/pdf-2013-trostenez/Trascianiec_english.pdf

[2] «Тростенец» — четвертый по величине лагерь смерти в Европе. БЕЛТА // http://www.belta.by/ru/articles/dossier/Trascianiec---chetvertyj-po-velichine-lager-smerti-v-Evrope_i_872.html

[3] Елена Борель. Неразгаданные тайны Тростенца // ЕўраБеларусь: //eurobelarus.info/news/society/2014/04/24/nerazgadannye-tayny-trostentsa.html

[4] Елена Борель. Неразгаданные тайны Тростенца // ЕўраБеларусь. 2.02.2015 // http://eurobelarus.info/news/society/2014/04/24/nerazgadannye-tayny-trostentsa.html

following the initiative of the European side supported by the Dortmund International Educational Centre and Austrian civil initiative «IM-MER». The Belarusian party was presented by «Laboratory of History» in Minsk, which since 2002 has been actively developing and implementing historical education programs, as well as supporting new tendencies in researching war history and occupation of Belarus in Belarusian and German historiography.

According to **Leanid Levin**, the architectural design of the first site of the complex should have the form of abandoned suitcases, which would emphasize the fact that trains brought people to Trascianiec from different countries carrying luggage and holding a belief that they had been invited to develop new Eastern European territory. Suitcases are the symbol of the captured home, of what remained of the people themselves after they crossed the camp's threshold. Farther there would be an alley with a red road that would lead the memorial visitors through a set of railway wagons with the names of the death camps victims engraved. At the end of the alley there would be a large site with the sculptures of inverted objects erected on it: trees and houses. This is how, according to Levin, the paradox of war can be shown. What tree can grow with its roots up? How can you live in the house which stands upside down? It is not possible in the same way as human logic refuses to perceive a possibility of concentration camps existence, and in general - the idea of superiority of one people over another that would grant them the right to destroy. At the end of the walkway there would be an empty round black site that would symbolize the abyss.

**Halina Levina**, when commenting her father's concept, focuses on the necessity to reconsider the traditional «spot-centered» approach that used to be characteristic of the Soviet system of memorialization of places of remembrance. Whereas the approach aimed at erecting a memorial complex that would immortalize the area is evident in the projects already implemented by Leanid Levin. The complex «Khatyn» is probably the most prominent example. In such memorials the emphasis is put on the long-term staying of the visitor at the place which holds a special meaning for the history, as well as on the performance of particular actions (rituals), which would provide him/her with a possibility of experiencing, immersing into this site's atmosphere, reflecting on the essence of the objects of art symbolically placed there. The point is not in presenting a list of formal facts, but in creating a special emotional environment for future generations. *«Since this kind of memorial complexes,* — one of the Levin's creative group sculptors, **Alaksandar Šapo** (Alexandr Shappo), asserts — *are erected not for the present generation, but for those who are still to come».*

*«Trascianiec» is not just one spot, it is a group of adjoining areas which had their own functions each.* — **Halina Levina** says. — *One area was a place where people were brought, another one was where people were put into groups and where their possessions were taken, then there was a road along which people were led into the concentration camp and then – a place for execution and burial. All these places must be a part of the memorial. It was a destruction scenario, which must be reconstructed for the visitors to witness it. «Spot-centred» approach absolutely is out of place here, because on this territory every square meter has its own historical and moral meaning. Since memory is not about a perfectly cobbled walkway, it is about something different...»*

Apart from the presentation at International Centre for Education and Exchange in Minsk, the project of the Levin's studio was also shown in various cities around Germany which the delegation visited to meet the relatives of the Jews taken away from there and later destroyed at «Trascianiec». Quoting the figures were made public in the Belarusian media, the budgets of these cities raised more than 500 000 Euro to support the erection of the memorial complex[5]. In 2013 the project of «Błahaŭščyna» memorialization was approved by the Republican Council of Architecture and Town Planning but its cost was estimated as 9-10 000 000 Euro (!)[6] . Therefore, the memorial's construction was divided into two parts. At the moment the works are being done to erect the monument in Trascianiec (so-called «entrance group»), while the construction of the complexes «Šaškoŭka» where the crematories used to be located and «Błahaŭščyna» has been put off for indefinite period.

*«Unfortunately, some "life logics" prevents the project from getting the first turn in construction,* — **Halina Levina** comments. — *It was announced that firstly the area where the concentration camp used to be located would be memorialized, while the territory of Błahaŭščyna, a place of the common burial, was put into some sort of a "queue". To our mind, and according to my own firm belief, in particular, there may not be any queues in preserving memory. We have already been "queueing" for 70 years. I clearly understand the importance of the financial issue, but the question of memory, in my opinion, must not depend on money».*

In the official contest for the best project of «entrance group» the work of the sculptor **Kanstancin Kasciučenka** «The Gates of Memory», presented by the institute «Minsk projekt» became the winner. The 10-meters' sculpture is to be shown publicly in May 2015, as a part of the ceremony held on the spot where on June, 8 2014 the President of the Republic of Belarus laid a commemorative capsule.

What is a future destiny of the large-scale and deeply meaningful project of the Levin's team, which has already received the experts' international recognition? Halina herself expresses hopes that, having overcome all the bureaucratic terms, «in the prescribed manner», it will undergo expertise and be launched in 2016. *«This is the situation that we have at the moment... But still we are given the second position in the waiting list... As if we are again standing in a queue. Just like they, the concentration camp prisoners, used to queue... for death. Only our queue now is a queue for memory. And in our memory today we have to recall everyone».*

In the course of the ceremony of commemorative capsule laying, apart from the Belarusian delegation representatives, there were more than 100 foreign guests present. They came from Austria, Germany, Israel, Poland, the Czech Republic, the USA and other countries in order to perform the duty of their memory. After the official ceremony, the foreign relatives of those who had died there 70 years before, moved to Błahaŭščyna, a place of their ancestors anonymous grave, to lay flowers and pay homage to the innocent victims. The sculptor **Alaksandar Šapo**, who also attended the ceremony, remembers the heavy tense atmosphere, which on that day was felt in the forest. The grandchildren of the murdered, tortured or burned alive prisoners brought with them the lists with the names of their ancestors: accompanied by a shrill tune of the violin the laminated yellow papers and flowers were tied to trees.

Thus, the question arises again about the reasons of this indifference of the Belarusians not only towards their history in general, but also to their personal one. Why do the victims from the Belarusian side still remain largely anonymous, hidden under the abstract figures of several zeros? **Why did not the memorial project receive any open large-scale discussion and the decisions were taken behind closed doors?** It seems that the implementation of the project is not a moral duty of the residents of this place, based on their sincere desire, but someone's order received «from above»? And the tragic events of those times appear to be recalled more by the pine trees in the forest than by the local people, who agreed to have a dump on the crime scene and purposefully keep silence about the terrible facts and figures.

[5] 150 000 Euro, apart from that 150 000 Euro were granted by the German Fund «Biteg», 200 000 Euro — by the German Fund that deals with the preservation of war memorials and 10 000 Euro more — by the Hamburg Fund «Zeit». Стоимость строительства мемориала в Тростенце составит около 10 млн евро.TUT.BY. 28.03.2014 // http://news.tut.by/society/392837.html

[6] As some historians and experts assume, this figure is exaggerated. The memorial might be built at lower costs. Елена Борель. Неразгаданные тайны Тростенца // ЕўраБеларусь. 2.02.2015 // http://eurobelarus.info/news/society/2014/04/24/nerazgadannye-tayny-trostentsa.html







**Яўген Шадко.** Сэрыя аўтапартрэтаў. Праект «Becoming an artist». 2013
**Jauhien Šadko (Jauhien Shadko).** Self-portrait series. Becoming an artist project. 2013








# Сяргей Харэўскі:
## ідэйнасьць, аўтэнтычнасьць і даступнасьць

Чаго мы чакаем ад музэяў, і што такое наогул музэй? Навукоўцы вядуць актыўныя пошукі дэфініцыі для гэтага панятку, што мусіць адпавядаць сучасным навуковым падыходам і рэаліям практычнага жыцьця. Сёньня сьвет, поўны пярэчаньняў паміж інфармацыйным багацьцем і дэфіцытам ведаў, уяўляе сабой інфармацыйна-псыхалягічную пагрозу для назапашваньня асабовых кампэтэнцыяў. Музэй, прытым, быў і застаецца ўнікальным вынікам узаемадзеяньня культуры й розуму чалавека. Згадваю свой леташні музэйны год і дзячу лёсу за тое, што я здолеў гэтулькі пабачыць, узбагаціць свой досьвед.

Сярод найгалоўнейшых маіх высноваў з гэтага досьведу — тое, што музэй ня мусіць быць ідэйна нэўтральным, як энцыкляпэдыя. Сучасны музэй — ня толькі большае ці меншае сховішча артэфактаў, як антыкварная крама. Музэй павінен узрушваць і змушаць да мысьленьня, як гэта, напрыклад зроблена ў **Музэі сучаснага мастацтва ў Стакгольме**. Там наведнік ня проста знаёміцца з імёнамі й творчасьцю найбольш значных мастакоў найноўшага часу, ад Пікаса й Маціса да Мандрыяна й Дзюшана, але — з тымі, хто мысьліў катэгорыямі будучыні, сацыяльнага прагрэсу й гуманізму. Таму ў стакгольмскім Музэі сучаснага мастацтва няма твораў фашыстаў, сталіністаў, расістаў. Там няма афіцыёзнага акадэмізму ці камэрцыйнае салённасьці.

**Экспазыцыя ўкладзеная так, што ты міжволі кожны крок робіш толькі наперад, усьведамляючы, якія выклікі сьвету непакоілі, трывожылі ці абуралі мастакоў.**

Той музэй быў людны сярод працоўнага дня, бо ягонае наведаньне — важная частка выхаваньня і асьветы ўсяго грамадзтва, ад дзяцей да імігрантаў. Сюды прыяжджаюць цэлымі сем’ямі. Менавіта каб спасьцігнуць дух гуманізму, якім прасякнуты ўвесь гэты музэйны асяродак на востраве Шэпсхольмэн, у цэнтры Стакгольму.

**Руслан Вашкевіч.** Ня гледзячы ні на што. 2013. Палатно, алей. 200 x 300
**Ruslan Vaškievič (Ruslan Vashkevich).** Not looking at anything. 2013. Canvas, oil. 200 x 300

Гэткае ж сэнсоўнае ўзрушэньне я перажыў у **Музэі гісторыі польскіх габрэяў у Варшаве** — сапраўдным шэдэўры архітэктуры пасярод непрыкметнага кварталу Муранава. Унікальны будынак у выглядзе вялізарнага ліхтара, што асьвятляе цэлы квартал, спраектаваў фінскі архітэктар Райнэр Махламякі. А ўсярэдзіне мы нібы трапляем у цясьніны палестынскіх гораў, якія то сьціскаюцца, то расступаюцца перад намі, бы марское дно, ведаючы, што ў залі распавядаюць пра тысячагодзьдзе супольнай гісторыі славянаў і габрэяў на нашых землях, гісторыі, якая была трагічна абарваная... Але Музэй гісторыі польскіх габрэяў — гэта не музэй Галакосту. Я назіраў за плыняю наведнікаў розных моваў і расаў, што, заходзячы, як зачараваныя, азіраліся па баках, разглядаючы незвычайную архітэктуру, а тыя, хто выходзіў, былі ў здуменьні. Сучасны музэй мусіць быць носьбітам значных ідэяў, увасобленых у адмысловай архітэктуры. У гэтым сэнсе мне цяжка штосьці прывесьці ў прыклад зь беларускіх музэяў, дзе нават зялёная хатка I зьезду РСДРП не тлумачыць, чым жа былі яны, сабраныя на зьезд, такія харошыя, і чым завяршыліся іхныя біяграфіі.

**Нібы выдраны кавалак кнігі — ні канца, ні пачатку... Лішне казаць: у тым музэі ўсё — несапраўднае, пачынаючы ад падмуркаў!**

Сучаснага наведніка музэю можна назваць «новым культурным спажыўцом», арыентаваным ня толькі на атрыманьне канстатавальнай дыдактычнай інфармацыі асьветнага кшталту, але і на атрыманьне задавальненьня. Музэй трансфармуецца, пераўтвараецца ў інстытут унутрыкультурнае рэфлексіі, пашыраючы жыцьцёвыя гарызонты наведніка. У гэтым сэнсе для мяне надзвычай важным быў досьвед Тунісу. У адрозьненьне ад многіх музэяў нашае часткі сьвету, там экспануецца толькі (!) аўтэнтыка. **На Віле Сэбасьціяна ў Хамамэце**, пабудаванай паводле праекту славутага амэрыканскага архітэктара Ф. Л. Райта, дзе гасьцявала француская, румынская й брытанская багема, можна ўбачыць сапраўдныя асабістыя рэчы «ліса пустэльні» — нямецкага генэрала Ромэля, Уінстана Чэрчыля, які пачаў тут пісаць свае мэмуары, брытанскага караля Георга IV. Цяпер тут мастацкая галерэя, але засталіся паўсядзённыя пабытовыя рэчы колішніх гасьцей, якія можна проста памацаць. У тамтэйшых «мэдынах» — сярэднявечных цэнтрах гарадоў за цытадэльнымі мурамі — ёсьць свае музэі пры старажытных мячэтах. Але перадусім у Тунісе ёсьць **Нацыянальны музэй Бардо**, дзе сабраная калекцыя рымскіх і бізантыйскіх мазаікаў, антычных, маўрытанскіх і асманскіх твораў мастацтва. Тут можна знайсьці й падрабязна вывучыць гісторыю Тунісу й старажытнага магутнага Картагену, паглядзець экспанаты Пунічнае эпохі, старажытнага Рыму й старажытнае Грэцыі, мноства прадметаў мусульманскай і хрысьціянскай культураў. Усё, што было калі-кольвек знойдзена пад зямлёй, пад вадой і на зямлі, клясыфікавана, апісана ды падрабязна вывучана й годна выстаўлена для зручнага агляду. Можна пабачыць самую вялікую ў сьвеце ацалелую арыгінальную мазаіку, што займае плошчу 56 квадратных мэтраў і вялізарную залю. Некаторыя мазаікі нельга здымаць з фотаўспышкамі, а іншыя можна мацаць рукамі й па некаторых — нават хадзіць! Гэта **стварае ўнікальную атмасфэру спрычыненасьці**, нечуванае для нас, беларусаў, даступнасьці **да аўтэнтыкі**.

Канцэпцыя музэю Бардо распрацаваная з улікам ня толькі акадэмічных і археалягічных дасьледаваньняў, але й актыўнага выкарыстаньня музэйнае экспазыцыі, прадстаўленай праз храналягічныя й тэматычныя экскурсійныя праграмы, адаптаваныя да густаў шырокае публікі. Публіка тут насамрэч вельмі розная, разнамоўная й рознаўзроставая. Гэта вымагае ад супрацоўнікаў немалых ведаў і прафэсійных практыкаў. Музэйныя работнікі што ў Швэцыі, што ў Польшчы, што ў Тунісе — абсалютна непадобныя да нашых сонных пэнсіянэрак, рассаджаных па кутах заляў... Як і ў Стакгольме і ў Варшаве, туніскі музэй Бардо — унікальны арыгінальны будынак, узьведзены паводле праекту туніскага архітэктара Аміра Нуіра пры дапамозе францускіх інжынэраў і дызайнэраў. Дызайн там заслугоўвае асобнае гаворкі, бо экспанаваць часам вельмі вялікія рэчы, што былі калісь часткаю зусім іншых архітэктурных збудаваньняў, розных маштабаў, — насамрэч складана. Там трэба забясьпечыць вэнтыляцыю і кандыцыянаваньне, абарону ад сонечных промняў. Паўсюль у тым музэі, як, дарэчы, і ў гарадзкіх прасторах Тунісу, прадугледжаны непарыўны безбар’ерны асяродак для людзей з абмежаванымі магчымасьцямі або зь дзецьмі.

Наогул у бальшыні сучасных музэяў менавіта **дзеці — самы шанаваны кантынгент наведнікаў**, для якіх створаны ўсе магчымасьці, каб у самастойнай тактыльнай ці ролевай гульнёвай формах яны вучыліся самаму важнаму ў музэйнай справе — піетэту да арыгіналаў. Бо які б ні быў музэй, адсутнасьць аўтэнтыкі робіць ягонае існаваньне бессэнсоўным. І менавіта гэтыя дзеці, што ўсьведамляюць розьніцу паміж амаль сакральным, сапраўдным і даступным — у выглядзе муляжоў, макетаў, экранаў, з чым можна гуляцца, адвольна ўкладаючы ў тое ўласны сэнс, — наведнікі музэяў, «спажыўцы культуры» ў будучым. Калі ж у іх няма прышчэпленага з маленства разуменьня адрозьненьняў паміж арыгіналам і кантрафактам, то ўсе намаганьні ў іншых сфэрах культуры будуць марнымі.

Рацыянальны складнік сучаснае музэйнае інфармацыі ў вялікай ступені ўключаецца ў інфармацыйныя цэнтры, кіёскі, парталы і г. д., вызваляючы прастору для існаваньня культурна-сымбалічных сэнсаў гісторыка-культурнай спадчыны, што адпавядае сучаснай мадэлі музэйнае камунікацыі, якая прадугледжвае множнасьць спосабаў засваеньня рэальнасьці, уключаючы нерацыянальныя — інтуіцыю, уяўленьне, эмпатыю. Але яны ня мусяць замяняць аўтэнтычныя артэфакты, дэзарыентаваць наведніка, скажаючы сэнсы. Дарэчы, у Нацыянальным музэі Бардо няма ані кавярняў, ані сувэнірнага гандлю, за выключэньнем навуковай прадукцыі самога музэю — манаграфіі, улёткі-артыкулы, паштоўкі з выявамі музэйных скарбаў. Даход складаецца зь несупыннае плыні экскурсіяў, забясьпечаных тысячамі розных турфірмаў і гатэляў. Рэклямную прадукцыю на тэмы гэтага музэю можна сустрэць у Тунісе паўсюдна! Ад аэрапортаў да таксі. У выніку каапэрацыі ў нацыянальным маштабе нараджаецца ўнікальны фэномэн.

Гуманітарныя веды, нараджаючы вобраз, мэтафару, сымбаль, робяць магчымым вычуць сэнсы, схаваныя часам ад рацыянальнага ўсьведамленьня. Вынікам становіцца якасная зьмена асобы — **самаідэнтыфікацыя, здабыцьцё новага досьведу, зразуменьне гісторыка-культурнай спадчыны як часткі свайго духоўнага жыцьця**. Але толькі пры ўмове несупыннага паўтору гэтага наратыву, беспасрэднага нашага ўдзелу ў музэйных практыках. У гэтым сэнсе музэі нагадваюць храмы — калі ты туды ня ходзіш рэгулярна, то тваё пачуцьцё буцьвее і гасьне, жаданьне вычуваць сэнсы слабее, а ўласна вычуваньне сэнсаў глухне. Музэі й галерэі мусяць быць непарыўна прывязаныя да цэнтраў грамадзкага жыцьця. Яны павінны быць у крокавай даступнасьці ў самых цэнтрах гарадоў. Ад Скандынавіі да Магрыбу гэта ўсьведамляецца як належнае, як тое, што не патрабуе доказу. А цяпер паспрабуйце паставіць сябе на месца госьця Менску, які спрабуе знайсьці шыкоўны Музэй старажытнабеларускае культуры, Менскую гарадзкую галерэю Леаніда Шчамялёва ці, даруйце, Дзяржаўны музэй вайсковай гісторыі або Заалягічны музэй? Досьвед будзе несуцяшальны. Гэтаксама ж бессэнсоўна шукаць музэйных ці галерэйных флаераў і буклетаў у беларускіх гатэлях.

**Галерэі ды музэі сыйшлі з цэнтру сталіцы, страчваючы повязь з рэальнасьцю і сваімі гледачамі. І колішняе пачуцьцё безумоўнага піетэту да арыгіналу мастацкага твора ці гістарычнага артэфакта гасьне на вачах у цэлага пакаленьня.**

А разам з гэтым гасьне і ўсьведамленьне таго, чаго мы чакалі ад музэяў і што такое музэй наогул.




**Руслан Вашкевіч.** Ня гледзячы ні на што. 2013. Палатно, алей. 200 x 300

**Ruslan Vaškievič (Ruslan Vashkevich).** Not looking at anything. 2013. Canvas, oil. 200 x 300

# Інтэрвэнцыя ў музэй



## Працягваючы пэрформанс, альбо на што не глядзіць Руслан Вашкевіч

Вольга Бубіч

У рамане **«Што я любіў»**, прысьвечаным інтэрпрэтацыі творчасьці сучаснага мастака, амэрыканская пісьменьніца **Сіры Хуствэт** прыходзіць да высновы, што кожная карціна пачынае існаваць толькі ў той момант, калі на яе пазірае глядач. «Штораз, уключаючы ў кампазыцыю цень гледача, мастак акцэнтуе прастору паміж гледачом і карцінай, таму што менавіта там і адбываецца сапраўднае дзеяньне, — піша Сіры. — ...Але прастора, якую ў гэты момант ён займае, належыць яшчэ й мастаку».

Развагі амэрыканскай навэлісткі практычным чынам знаходзяць адлюстраваньне ў незвычайным для Беларусі праекце — карціне **Руслана Вашкевіча**, ахрышчанай у мясцовых СМІ «вандроўнай». Праца, чыя назва «**Ня гледзячы ні на што**», фэнамэналягічна рэзануе, сапраўды, паводле прызнаньня ейнага аўтара, убачыла значна больш, чым некаторыя людзі за ўсё жыцьцё. А канцэпцыя, закладзеная аўтарам у выяву з адлюстраванымі чатырма фігурамі, падаецца, даволі далёка выходзіць за межы традыцыйнага разуменьня твору мастацтва.

Маршрут падарожжаў карціны Руслана Вашкевіча праходзіць па розных лякацыях, якія маюць значэньне для апісаньня жыцьця чалавека. Аўтар камэнтуе ў сваіх інтэрвію: *«Сутнасьць… у тым, што адсутнічае аб’ект увагі герояў карціны. Самае галоўнае я схаваў. [...] Любы прадмет, трапляючы ў поле зроку намаляваных пэрсанажаў, назапашвае іхную энэргію, становіцца часткай карціны. [...] Калі я зразумеў, што атрымалася, то пачаў прыдумляць, як дзейнічаць далей. Карціна ўжо сама пачала падказваць, а часам і дыктаваць. Я адчуў сапраўдны кураж. Зразумеў, што гэтая карціна не для музэю, не дзеля сьцяны ў спальні багатага калекцыянэра. Здагадаўся, што сьвет для яе — і яе трэба выпраўляць у падарожжа. Паказваць не яе, а ёй сьвет. Паглядзець на тое, што адбываецца, вачыма намаляваных герояў, паспрабаваць сумленна ўбачыць тое, што ёсьць насамрэч, а ня тое, што распавядаюць…*

*Я задаў сабе пытаньне: што ж ім паказаць? Якія гэта могуць быць месцы? Мне падалося важным апісаць чалавечы жыцьцёвы цыкль у горадзе — ад нараджэньня да сьмерці, ад царквы да турмы, ад гіпэрмаркету як увасабленьня ідэі пераможнага спажываньня да сьмецьцевай звалкі, дзе гэтая ідэя прыходзіць да апакаліптычнага стану. Я пачаў прывозіць карціну ў розныя месцы».*

Аднак сакрэт і моц праекту палягалі зусім не ў фіксацыі лякацыяў, у якіх мастаку — дзе боем, дзе ўгаворамі — удалося сфатаграфаваць карціну, а ў тым, якім чынам ейны **старанна прадуманы зьмест працуе з пастаянна зьменным кантэкстам, вызначаючы глядацкае бачаньне й спараджаючы дзіўныя адкрыцьці-сэнсы.**

> Бо менавіта гэтая прастора, зазор паміж карцінай і гледачом, аказваецца галоўнай дзейнай асобай, якая запаўняе наўмысны сэнсавы прабел, што вар’юецца ад здымку да здымку.

Кажучы пра сучаснае выяўленчае мастацтва, расейскі філёзаф і культуроляг **Алена Пятроўская** вылучае сярод ягоных характарыстыкаў перавынаходзтва выразных сродкаў. Сьледам за **Разаліндай Краўс** яна прытрымліваецца думкі, што актуальны мастак вымушаны сёньня вынаходзіць іх зноўку, у падпарадкаваньні ўласнай задумцы зьмешваючы й запазычваючы свае інструмэнты са сфэраў, якія могуць быць нават гранічна далёкімі ад мастацтва. Аналізуючы ў такім сьвятле праект Руслана Вашкевіча, мы прыходзім да высновы, што «Ня гледзячы ні на што» з прычыны значнасьці дынамікі перамяшчэньняў карціны й ролі ўзаемадзеяньня ейнай прасторы й гледача можна — зь вялікай доляй упэўненасьці — назваць **пэрформансам.**

Самая простая дэфініцыя пэрформансу як формы сучаснага мастацтва мае на ўвазе зьдзяйсьненьне мастаком пэўнага дзеяньня ў пэўным месцы й у пэўны час. Пэрформансам можна назваць любую сытуацыю, якая ўлучае чатыры базавыя элемэнты: час, месца, цела мастака й узаемадачыненьні мастака й гледача. У праекце Руслана Вашкевіча прысутнічаюць усе пералічаныя вышэй кампанэнты. На кожным са здымкаў, якія фіксуюць перамяшчэньні карціны, выразна счытваюцца складнікі часу й месца, у той час як своеасаблівым *«целам мастака»* выступае само палатно. Відавочна, што найбольшую сэнсавую нагрузку ў дадзеным акце пэрформансу нясе менавіта **ўзаемадзеяньне мастака й гледача**. Разглядаючы кожны канкрэтны здымак, мы, іншыя назіральнікі, счытваем часам значна адрозную рэакцыю жывапісных фігураў на карціне, разьмешчанай у каардынатах адмыслова падабраных аўтарам дэкарацыяў: сьметніку, начнога клюбу, царквы, моргу й інш. Рэакцыі намаляваных на палатне пэрсанажаў становяцца трансьлятарам самага шырокага спэктру інтэрпрэтаваных намі эмоцыяў. Мы бачым на іх тварах ганьбаваньне або гнеўны дакор, жаль ці непрыхаванае спачуваньне, зьдзіўленьне ці пагарду.

Як піша беларускі філёзаф і культуроляг **Альміра Ўсманава**, аналізуючы працу Руслана Вашкевіча, *«зьмяняючы ракурсы, кадруючы бачны сьвет інакш, прапаноўваючы нечаканы “пункт гледжаньня”, канструюючы ўяўны сьвет за рамкай карціны, мастак нагадвае нам пра тое, што жывапіс — гэта заўсёды мастацтва бачаньня».* Аднак варта мець на ўвазе, што гэтае самае актываванае праектам бачаньне абумоўленае перш за ўсё **фігурай самога гледача, гэта значыць нас саміх, а дакладней, тымі штампамі, стэрэатыпнымі сацыяльна й культурна зададзенымі ўяўленьнямі, якія выклікаюць у нас здымкі прапанаваных мастаком месцаў**.

> Карціна тут — усяго толькі трыгер, які запускае ў нас мэханізм эмацыйнага бачаньня прапанаванага кантэксту.

Іншаю характэрнай асаблівасьцю сучаснага мастацтва, якую можна прасачыць у працы «Ня гледзячы ні на што», ёсьць ейны **інтэрвэнцыйны патэнцыял**. Выносячы палатно за сьцены майстэрні, мастак быццам бы выпрабоўвае на трываласьць, зандуе ступень гатоўнасьці розных сацыяльных ячэек ператварыцца, хай на некалькі хвілінаў фактычнай здымкі аб’екту, у выстаўную пляцоўку. Пад сумнеў ставіцца непахіснасьць аўтарытэту музэю як адзінага месца кантакту з мастацтвам. Адначасова са зьменай вонкавых дэкарацыяў адбываецца й падмена кірунку погляду: цяпер сама карціна, нароўні з гледачамі, перамяшчаецца па выдуманых залях музэю велічынёй у сьвет.

Трэба адзначыць, што тэма праблематызацыі межаў музэю далёка ня новая ў творчасьці Руслана Вашкевіча. У 2011 годзе полем для творчага экспэрымэнту, праверкі на трываласьць стаўся Нацыянальны мастацкі музэй, дзе экспанаваліся больш за 20 работ аўтара, аб’яднаныя іранічным назовам **«Музэй».** Ужо тады, тры гады таму, ключавое слова «інтэрвэнцыя» прагучала з вуснаў самога мастака, які адзначыў, што праект зусім не прыраўноўваецца да музэю ў яго традыцыйным разуменьні.

*«Гэта рэпэтыцыя музэю, — камэнтаваў Руслан Вашкевіч, — гэта макет мастацкай інтэрвэнцыі, замаскаваны ў залатыя рамкі “закону” ў маштабе 1:1».* Але, у адрозьненьне ад «перагортышу», задуманага ў праекце «Ня гледзячы ні на што», своеасаблівы падрыў тут адбываўся нібыта зьсярэдзіны: пагадзіўшыся на зададзены аўтарытарны і патасны кантэкст самай прэстыжнай у краіне пляцоўкі, мастак прымушае яго гуляць па сваіх правілах, запаўняючы залі дасьціпнымі інтэрпрэтацыямі добра знаёмых усім прызнаных шэдэўраў клясычнага мастацтва.

Куратар выставы «Музэй» Альміра Ўсманава тлумачыць, што сваёй экспазыцыяй мастак прапануе паразважаць пра музэй зусім іншага кшталту, пра месца, далёкае ад успрыманьня яго ў тэрмінах *«бастыёну “культурнай рэспэктабэльнасьці”, сакральнай прасторы, у якой захоўваюцца шэдэўры й дзе нячутна перамаўляюцца паміж сабой эпохі».* «Музэй» Руслана Вашкевіча ня толькі раскрывае аўтарскае гульлівае бачаньне дыялёгу, інтэракцыі эпохаў, імёнаў і вобразаў, але й стварае адкрытую правакацыю ў дачыненьні да Стаўпоў, Канонаў і Музэяў.

Такім чынам, праект «Ня гледзячы ні на што» аказваецца прыемным для беларускага арт-асяродку адкрыцьцём яшчэ адной грані таленту неверагодна актыўнага й нязьменна іранічнага мастака Руслана Вашкевіча. Вандроўная карціна, якая задае свой тон гульні, ставіць перад гледачамі пытаньні, што выходзяць далёка за межы звыклага сузіраньня твораў у сьценах музэяў і галерэй. Узаемадзеяньне карціны й разнастайных гарадзкіх прастораў, ініцыяванае экспэрымэнтальным фарматам праекту, прымушае задумацца пра ролю актуальнага ў сёньняшнім асяродзьдзі **кантэксту, які аказваецца здольным настолькі магутна ўзьдзейнічаць на *мадальнасьць нашага бачаньня***. І гаворка тут ідзе ня толькі пра пляцоўкі экспанаваньня твораў мастацтва, хоць, безумоўна, у межах спэцыфічнай сытуацыі канатацыяў дзяржаўных і прыватных музэяў і галерэй у Беларусі гэтая тэма таксама вельмі вострая. У цэнтры развагаў мастака — праблема аб’ектыўнасьці, незакаламучанасьці любога погляду, накіраванага ў сьвет, пытаньне магчымасьці быць сёньня вольным ад клішэ й стэрэатыпаў.

Невыпадковым тут здаецца вяртаньне вандроўнай карціны ў сьцены музэю, дзе прастора паміж ёю й гледачом застаецца вакантнаю, нібы прапаноўваючы кожнаму з наведнікаў удзельнічаць у пэрформансе, які працягваецца. А што калі пад пільнымі позіркамі «Ня гледзячы ні на што» апынесься ты сама?









**Руслан Вашкевіч.** Ня гледзячы ні на што. 2013. Палатно, алей. 200 x 300
**Ruslan Vaškievič (Ruslan Vashkevich).** Not looking at anything. 2013. Canvas, oil. 200 x 300

Другая дзея

## МЭДЫЯ

**Акампаніямэнт**: клявішы: рытмічна-паўтаральны музычны патэрн (гук: «электраарган»); голасам: імітацыя партыі барабанаў

**Дакладнік** (rapping, скачучы, размахваючы рукамі, прысядаючы, робячы рытуальныя абыходы вакол падстаўкі з кампутарам):

*З разьвіцьцём электронных тэхналёгій, зьяўленьнем пэрсанальных кампутараў і стварэньнем інтэрнэту новае чатырохмернае візуальнае мастацтва атрымала віртуальна неабмежаваны лік інструмэнтаў.*

*Новыя Мэдыя прыйшлі на зьмену відэаарту, а разам зь імі і магутная інстытуцыянальная падтрымка. Мэдыямастацтва займела сваю вельмі разгалінаваную сетку навучальных установаў, дасьледчых і акадэмічных праграм, фондаў, рэзыдэнцый, фэстываляў і выставачных пляцовак. Але, нягледзячы на тое, што мастацкі асяродак безумоўна прызнаў ды ўключыў у сваю практыку і дыскурс новыя мэдыя, мэйнстрым-рынак сучаснага мастацтва не занадта захоплена ўспрыняў гэтую кардынальную трансфармацыю, якая адбылася зь візуальным мастацтвам. Замест таго, каб адаптавацца да новых умоваў, contemporary арт-рынак амаль цалкам ігнаруе і абыходзіць бокам цяжкасьці, зьвязаныя з мэдыямастацтвам, часта проста імітуючы сваё дачыненьне да працэсу.*

*Так, нават у самай заняпалай галерэі рэдкая выстава абыходзіцца без пэрформансу на адкрыцьці альбо відэаманітора ў экспазыцыі. Але прычына, па якой яны там знаходзяцца, – гэта вельмі часта толькі жаданьне пазначыць «актуальнасьць» таго, што адбываецца, а заадно пацешыць публіку.*

бум-чш, бум-бум-чш

*Тыя ж галерэі і дылеры, якія сапраўды спрабуюць працаваць з мэдыятворамі, як правіла, выкарыстоўваюць абсалютна тыя ж старыя тактыкі, што і пры продажы, напрыклад, традыцыйных графічных прынтаў альбо фатаграфіі. Яны эксплёатуюць вельмі спрэчнае ў дачыненьні, асабліва да электронных мэдыя, паняцьце сапраўднасьці твора, штучна абмяжоўваюць наклад, нумаруюць копіі і разьдзьмухваюць цану, імітуючы «ўнікальнасьць» прадаванага асобніка. Па сутнасьці – проста спрабуюць штучна надаць бясплотнаму 4-мернаму твору хоць якое падабенства аб'екту.*

*Але гэта атрымліваецца, вядома, далёка ня з кожным мэдыя-творам. І таму такая схема вымушае мастакоў падладжвацца, сьціскацца і выраблядь што-небудзь зваротна сумяшчальнае. Самым папулярным цяпер стала, напрыклад, ператвараць усё ў дакумэнтацыю, фатаграфію ці, у крайнім выпадку, у аднаканальных відэафільм, лёгка сумяшчальны з наяўнай бытавой відэатэхнікай і блізкі да знаёмага фармату традыцыйнага кіно. Так пад брэндам Новых Мэдыя часта прадаецца проста традыцыйны фільм. Але, ня маючы ўласнай структуры камунікацыі з кінагледачом, арт-рынак утылізуе чужую, добра разьвітую і прасунутую, але не прыстасаваную для продажу мастацтва інфраструктуру рынку кіно.*

*Зразумела, што калі замест статычнага аб'екта даводзіцца мець справу з «падзеяй», а замест «артэфакта» трэба прасоўваць «досьвед», то трывалыя і адладжаныя схемы, па якіх да гэтага часу пасьляхова функцыянавала арт-індустрыя, перастаюць працаваць альбо становяцца неэфэктыўнымі.*

Чарльз Томсан (Charles Thomson), «Сэр Нікалас Сэрота прымае рашэньне аб набыцьці», алей і акрыл на палатне, 101,6 см x 76,2 см, 2000

*Адзін вядомы арт-дылер сказаў, што калекцыянэр пачынае нэрвавацца, калі гаворка заходзіць пра мастацтва, якое трэба ўключаць у разэтку. І, за рэдкім выключэньнем, гэта рэальнае становішча рэчаў. А галоўнае, што справа не ў калекцыянэрах, не ў іх слабых нэрвах ці надзвычайнай нелюбові да новых мэдыя, а справа ў тым, што, калі падыходзіць да новага мастацтва са старымі меркамі, відавочна, узьнікаюць праблемы, і галоўная зь іх – гэта тое, што variable мэдыя з пункту гледжаньня традыцыйнага архіватара / захавальніка / зьбіральніка аказваюцца занадта далікатнымі, уразьлівымі і недаўгавечнымі. Ясна, што такое нестабільнае мастацтва могуць сабе дазволіць набываць толькі вялікія музэі ці рэдкія калекцыянэры, героі-энтузіясты мэдыямастацтва ў надзеі, што ім удасца захаваць свой набытак тым ці іншым спосабам.*

*Каб вырашыць праблему захоўваньня мэдыямастацтва, музэі, фонды, прыватныя ініцыятывы адкрываюць дасьледчыя праграмы, нэтворкі па захаваньні электроннай культурнай спадчыны, праводзяць сымпозіюмы, выпрацоўваюць мэтады і стратэгіі захоўваньня і рэстаўрацыі, але праблема ў цэлым застаецца да гэтага часу нявырашанай.*

*Ёсьць некалькі вядомых стандартных мэтадаў захоўваньня мэдыятвораў. Гэта: 1. Складаваньне. Захоўваньне арыгінальнага фармату твора. 2. Міграцыя. Абнаўленьне, пераход ад старых фармату і абсталяваньня да новых. Напрыклад, перазапіс VHS-касэты, якая выйшла з ужытку, на больш новы (хоць ужо таксама састарэлы) DVD-дыск. 3. Эмуляцыя. Стварэньне на новым апараце ўмоваў, якія імітуюць працу арыгінальнага абсталяваньня, каб можна было выкарыстоўваць першапачатковы фармат запісу або праграмнае забесьпячэньне, неабходнае для працы мэдыятвору.*





*Але ніводны з гэтых мэтадаў не прапануе ніякага рашэньня для захаваньня «жывых» элемэнтаў твора ці пэрфарматыўных практык. Акрамя таго, усе гэтыя мэтады вельмі працаёмкія і патрабуюць сталага догляду і ўвагі кваліфікаваных спэцыялістаў. Так, напрыклад, пры захоўваньні дадзеных, каб пазьбегнуць іх страты праз дэфэкт носьбіта, патрабуецца рэгулярны перазапіс з аднаго дыска на іншы, неабходна пастаянна выробляць рэзэрвовыя копіі ці выкарыстоўваць «хмарнае» захоўваньне на спэцыяльных сэрвэрах у сетцы. (Гэта да тэмы аб «унікальнасьці» і «арыгінальнасьці» лічбавых мэдыя. Толькі каб яго паспрабаваць захаваць, спатрэбіцца зрабіць не адзін дзясятак, а то і сотні рэзэрвовых копій.) А што ўжо казаць пра такі складаны мэтад, як эмуляцыя, якая патрабуе сур'ёзнай працы вялікай колькасьці высакакляснах праграмістаў і інжынэраў.*



*Складанасьць, дарагоўля і неабходнасьць пастаяннага ўдзелу спэцыялістаў робяць гэтыя мэтады як мінімум малаэфэктыўнымі, і насамрэч амаль не рэалізуюцца ў выпадку, калі гаворка ідзе пра невялікую прыватную калекцыю ці проста мастака, які хоча захаваць сваю працу. Атрымліваецца, калі праца пры сваім жыцьці не патрапіла ў калекцыю музэю або вялікага арт-інстытуту, яна асуджаная на зьнікненьне?..*

*Аднак і ў мэгаінстытуцыях мэдыяпраца ня можа адчуваць сваю поўную бясьпеку, таму што гэтыя мэтады яшчэ і не даюць ніякай гарантыі захаванасьці. Мэдыятвор, запісаны на відэакасэце, кампутарным цьвёрдым дыску альбо CD, немагчыма закансэрваваць, зьмясьціць пад шкляны каўпак, схаваць у цёмным пакоі. Таму*

(1) Параўнаньне фарматаў дыскавых лічбавых назапашвальнікаў
(2) IBM 250 MB Жорсткі дыск, 1979



Нам Джун Пайк (Nam June Paik), «Магнітны TV», 1965



*што ў наступны раз, калі вы яго дастанеце, існуе верагоднасьць таго, што вы яго ня знойдзеце, на чым яго прайграць. Акрамя таго, носьбіты інфармацыі і прылады для іх счытваньня фізычна ламаюцца, прыходзяць у занапад і становяцца непрыдатнымі, але, што яшчэ горш, – яны састарваюцца маральна. І рана ці позна надыходзіць момант, калі ўжо няма магчымасьці замяніць згарэлую відэакарту або наладзіць выпушчаны ў 1963 годзе заводам, які больш неіснуе катодны тэлевізар, што выйшаў з ладу.*




*І гэта яшчэ ня ўсё.*

*Што ж з самой інфармацыяй? Акрамя таго, што інфармацыя – гэта намагнічаныя часьціцы памерам у 10 нанамэтраў, якія могуць абсыпацца або размагнічвацца, гэта яшчэ й фармат запісу і праграмы для іх дэкадаваньня ды прайграваньня, якія мяняюцца і старэюць зь яшчэ большай хуткасьцю. JPG, TIF, PNG, MP3, MP4, AEP, MOV, PDF, AVI, WAV... Шэраг бясконцы. Каб прачытаць адны фарматы, патрэбныя адны праграмы, для іншых – іншыя, а для некаторых ужо не існуе ні праграм, ні дэкодараў. І тут мы пачынаем разумець стан таго калекцыянэра, які бачачы работы, падключаную да электаразэткі, нэрвова патнее.*

*Відавочна, што гэта тупік. Любыя спробы ўжыць традыцыйныя мэтады і стратэгіі для захоўваньня новага 4-мернага твора асуджаныя на правал. Якім жа чынам мэдыятвор можа выжыць?*

*Першыя радыкальныя ідэі зьявіліся ў канцы 1990-х, калі Джон Іпаліта (Jon Ippolito), публіцыст і куратар Гугенхайм Музэю, пачаў разьвіваць канцэпцыю Variable media, а Рычард Райнхард (Richard Rinehart), дырэктар і куратар Самэк Арт Музэю ва ўнівэрсытэце Букнэла, прадставіў сваю сыстэму фармальнага запісу «партытуры» для мэдыятвораў Media Art Notation System. У аснове абедзьвюх сыстэм ляжыць зусім новая для візуальнага мастацтва ідэя магчымасьці рэінтэрпрэтацыі мастацкага твора. Яна палягае ў тым, каб замест бессэнсоўных спробаў захаваньня артэфакта ў ягоным «арыгінальным» выглядзе сфакусавацца на захаваньні самой сутнасьці твора і прыняцьці правілаў яе інтэрпрэтацыі з улікам пераменлівых зьнешніх умоваў і тэхналягічных зьменаў. То бок ідэя ў тым, што для таго, каб паказаць сёньня інсталяцыю Нам Джун Пайка «TV Garden», якая складаецца з жывых расьлінаў і тэлевізараў, бессэнсоўна*



*спадзявацца ўваскрэсіць тыя самыя пальмы, якія Пайк выкарыстаў пры першым паказе сваёй працы, або ўзнавіць тыя ж самыя лямпавыя тэлевізары. Дастаткова толькі вызначыць ключавыя, найбольш важныя канцэптуальныя, эстэтычныя, функцыянальныя элемэнты, закладзеныя аўтарам, і рэалізаваць іх наяўнымі сёньня сродкамі.*

*Вядома, гэта няпростая задача. Узьнікае безьліч пытаньняў: як вызначыць, што ж насамрэч хацеў сказаць мастак, што было для яго важным? Узьнікае неабходнасьць дакладнай ды яснай камунікацыі паміж мастаком і тым, хто будзе рэінтэрпрэтаваць ягоны твор. Рычард Райнхард прапанаваў пабудаваць такую сыстэму камунікацыі: узяўшы за прыклад для пераймання музычны нотны запіс, правесьці прамую паралель паміж новым мэдыямастацтвам і музыкай (музычным запісам).*

*Сапраўды, нябачная сувязь паміж музыкай і новымі мэдыя была даўно заўважана і нават вызначана такім паняцьцем, як time-based art. Прырода новага візуальнага арту вельмі блізкая да прыроды музыкі. Іх аб'ядноўвае, па-першае, часавы аспэкт, які палягае ў аснове іх фізычнага існаваньня, іх эфэмэрнасьць, пэрфарматыўнасьць, варыятыўнасьць. Гэтая блізкасьць дае нам магчымасьць паглядзець на праблемы, зьвязаныя з новым візуальным мастацтвам, праз прызму музыкі. Мы можам прасачыць стратэгіі выжываньня, выбраныя музыкай, якая з прычыны сваіх уласьціваесьцяў першапачаткова асуджаная на імгненнасьць і эфэмэрнасьць існаваньня. Магчыма, мы зможам скарыстацца гэтымі стратэгіямі і ў барацьбе за выжываньне новага візуальнага мастацтва.*

Нам Джун Пайк (Nam June Paik), «TV сад», відэаінсталяцыя з каляровымі тэлевізарамі і жывымі расьлінамі, памеры вар'іруецца з інсталяцыяй, 1974 (вэрсія 2000 у Музэі Гугенгхайма ў Нью-Ёрку)

(1) Участак жорсткага дыску памерам у 10 нанамэтраў. Выява зроблена магнітна-сілавым мікраскопам
(2) Мікраскапічная выява чыпсэта Yamaha (1985) на гукавой плаце для ПК, Adlib. Зона, дзе запісана табліца сыгналу, які зьмяшчае адну чвэрць сынусоіднай хвалі
(3) Перфакарта з кодамі для набору з 64-х сымбаляў

Трэцяе дзеяньне

## МУЗЫКА

**Акампаніямэнт**: клясычны акампаніямэнт для опэрнага рэчытатыву (гук: «фальшывы» «электраклявэсын»)

**Сьпявачка** (рэчытатыў):

*Музыка – гэта вірус! Галоўная стратэгія дляяевыжываньня–гэтамаксымальнае распаўсюджваньне шляхам захопу ўсё большай колькасьці арганізмаў. Чым больш носьбітаў музычнага твора, тым больш шанцаў у яго на выжываньне. Чым больш слухачоў у твора, якія падхапілі яго, сталі ягонымі носьбітамі, ператварыўшыся ў яго выканаўцаў, тым больш шанцаў у гэтага твора – мэлёдыі, песьні – перажыць не адно пакаленьне сваіх пераносчыкаў, нават ва ўмовах поўнай адсутнасьці якіх-небудзь сродкаў запісу альбо захоўваньня гукавай інфармацыі. Мы добра бачым гэтую ўласьцівасьць музыкі ў яе экстрэмальнай праяве на прыкладзе фальклёру або папсы. Але, незалежна ад жанру, напрамку, элітарнасьці музыкі, гэтая стратэгія зьяўляецца базавай, ёй падпарадкоўваецца ўсе практычныя мэтады выжываньня музычнага твору.*







*Першы мэтад:*

*Незалежнасьць ад мэдыя, гнуткасьць, плястычнасьць і здольнасьць да мутацыі. Любы музычны твор, хоць і можа мець кананічна-традыцыйную прывязку да таго ці іншага інструмэнту або форму выкананьня, аднак пры гэтым выдатна вытрымлівае эксперымэнты з аранжыроўкай. «9-я сымфонія Бэтховэна» застаецца «9-й сымфоніяй Бэтховэна» незалежна ад таго, выкананая яна Каралеўскім Concertgebouw Orchestra ці прамурлыканая вамі ў душы.*

*Другі мэтад лягічна вынікае зь першага: падзел на Аўтара і Выканаўца. Праз тое, што інтэрпрэтацыя зьяўляецца натуральным выразным сродкам для музыкі, інтэрпрэтатар / выканаўца падымаецца да ўзроўню творцы.*



*Для выжываньня музычны твор ня мае патрэбы ў кансэрвацыі і муміфікацыі. Ён нараджаецца нанова з кожным новым выкананьнем. Бясспрэчна, гэта выйгрышная стратэгія, бо дазваляе твору быць адаптаваным і таму адэкватна ўспрынятым у цалкам розных гістарычных і культурных умовах.*



(4) Вірусы: Hendra-вірус, Усходні конскі вірус, вірус Чыкунгунья.
(5) Кадр зь фільма Вудзі Алена «Рымскія прыгоды»

Бах, які перажыў некалькі эпох

*Трэці мэтад:*
*Асаблівая сыстэма запісу, якая забясьпечвае эфэктыўнае функцыянаваньне першых двух мэтадаў – гэта нотны запіс, унівэрсальная сыстэма камунікацыі паміж аўтарам і выканаўцам.*









*Шэраг важных якасьцяў, якія робяць яе эфэктыўным інструмэнтам у барацьбе за выжываньне музычнага твору, гэта: 1. здольнасьць дакладнай фіксацыі аўтарскай задумы як у цэлым, так і ў нюансах; 2. гнуткасьць у забесьпячэньні дастатковай свабоды інтэрпрэтатару для творчай рэалізацыі; 3. устойлівасьць да зьменлівых вонкавых умоваў і незалежнасьць ад носьбітаў і інструмэнтаў.*

## P. S.

**Дакладнік:**

*Такім чынам: мэдыянезалежнасьць, падзел на аўтара і выканаўцу і нотны запіс. Гэтыя мэтады зьяўляюцца натуральнымі і эфэктыўнымі ў сфэры музыкі, але якім чынам яны могуць быць ужытыя ў галіне новага візуальнага мастацтва?*

*Зьменлівая прырода мастацтва дыктуе новыя правілы і спосабы арганізацыі мастацкага працэсу. Мастакі, куратары, калекцыянэры ўжо даўно, хоць пакуль мімаволі, хутчэй інтуітыўна і не занадта артыкулявана, але ўжываюць тыя самыя «музычныя» мэтады пры вырашэньні праблем, зьвязаных з паказам, захоўваньнем і камунікацыяй у сфэры новага візуальнага мастацтва.*

Мэдыянезалежнасьць

*Мастакі, якія займаюцца новымі мэдыя, прывыклі да таго, што іх творы могуць мяняць сваю форму, памеры і нават «тэхніку выкананьня» ў залежнасьці ад умоваў экспанаваньня, наяўнасьці або адсутнасьці таго ці іншага абсталяваньня, ад асьветленасьці і памераў памяшканьня, суседства зь іншымі працамі і г. д.*



*Такая форма мэдыянезалежнасьці часта ўсё яшчэ ўспрымаецца, асабліва самімі мастакамі, як непазьбежнае «зло», зь якім трэба зьмірыцца або спрабаваць змагацца. Але паступова, я думаю, мэдыянезалежнасьць павінна стаць новай лёгкай і натуральным стандартам у візуальным мастацтве, стаць магутным інструмэнтам і новым выразным сродкам у руках мэдыямастакоў, а таксама неад'емным і неабходным элемэнтам у стратэгіі выжываньня новага візуальнага мастацтва.*

«Нотны» запіс

*Праца з новымі мэдыя часьцей за ўсё мае на ўвазе выкарыстаньне ў адным творы мноства кампанэнтаў, розных тэхналёгій і матэрыялаў, што ў сваю чаргу абумоўлівае ўцягваньне як мінімум некалькіх чалавек у вытворчасьць і інсталяваньне працы: аўтара, куратара, фандрайзэраў, праграміста, апэратара, тэхніка. Для посьпеху ў такім прадпрыемстве неабходная наладжаная і ясная сыстэма камунікацыі паміж усімі ўдзельнікамі працэсу. Пры адсутнасьці стандартнага мэтаду для апісаньня мэдыятвору, гэтая праблема, у першую чаргу, кладзецца на плечы самога мастака, які вымушаны прыдумляць спосабы фіксацыі сваіх ідэй, апісаньня сваіх работ і інструкцый па эксплёатацыі. Можна знайсьці вялікую колькасьць розных запісаў, схем, свайго роду «партытур» мэдыятвораў, зробленых самімі мастакамі. Гэтыя індывідуальныя і ўнікальныя запісы самі па сабе*



*могуць мець культурную і гістарычную каштоўнасьць і нават могуць служыць ключом да разуменьня творчага працэсу аўтара. Аднак адсутнасьць адзінай унівэрсальнай сыстэмы запісу ў большасьці выпадкаў хутчэй вядзе да непаразуменьня, няправільнай інтэрпрэтацыі і часта да непажаданых вынікаў, якія могуць быць далёкія ад задумы мастака. А ў выпадку, калі гаворка ідзе пра захаваньне мэдыятвору, сытуацыя можа быць нашмат больш крытычнай. Недакладнае ці незразумелае апісаньне можа, у горшым выпадку, прывесьці нават да поўнай і беззваротнай страты твора.*

*Стварэньне сапраўды ўнівэрсальнай сыстэмы «нотнага» запісу для візуальнага твора, вядома, надзвычай складаная задача, якая ня можа быць вырашана ў адзін дзень. Але для гэтага, на мой погляд, не патрэбныя стагодзьдзі, як у выпадку з эвалюцыяй музычнага нотнага запісу. Напрыклад, для разьвіцьця моваў праграмаваньня ад першых, прымітыўных, якія зьявіліся ў 1950-х гадах, да складаных, структураваных, аб'ектна-арыентаваных моў высокага ўзроўню спатрэбілася ўсяго некалькі дзесяцігодзьдзяў. А сучасныя кампутарныя мовы распрацоўваюцца наогул за пару гадоў. Вышэйзгаданая Media Art Notation System Рычарда Райнхарда выкарыстоўвае ў сваёй аснове пашыраную мову разьметкі XML, якая ўжо зьяўляецца стандартам і выкарыстоўваецца паўсюдна пры распрацоўцы і апісаньні кампутарных праграм. А створаны ініцыятыўнай групай Varible Media спэцыяльны апытальнік Variable Media Questionnaire (http://variablemediaquestionnaire.net/) сыстэматызуе і клясыфікуе інфармацыю, неабходную для паўнавартаснага апісаньня мэдыятвору. Аднак для таго, каб першыя ініцыятывы ў гэтым кірунку ператварыліся ў агульнапрынятыя стандарты, неабходна перадусім разуменьне насьпелай праблемы і неабходнасьці яе рашэньня куратарамі, архіватарамі, калекцыянэрамі, а самае галоўнае – мастакамі.*

1. Бэн Джонстан (Ben Johnston), «Хто стукаецца»
2. Тошы Ітіянагі (Toshi Ichiyanagi), «Музыка для электрычнага мэтранома«, 1960
3. Барабанны патэрн для сынтаісцкага ачышчальнага рытуалу
4. Ганс-Крыстоф Штайнэр (Hans-Christoph Steiner), «Самота», п'еса з дынамічнай і інтэрактыўнай партытурай, 2004
5. Зьбігнеў Рыбчынскі (Zbigniew Rybczynski), схема для здымкаў дзевяціканальнага фільма «Новая кніга», 1975
6. Раскадроўка для фільма «Танга», 1980

Падзел на аўтараў і выканаўцаў

*Гэты мэтад, які зьяўляецца стратэгічна важным і надзвычай неабходным элемэнтам у сыстэме выжываньня музычнага твора, можа здацца на першы погляд самым неадназначным і, магчыма, практычна неўжывальным у сфэры візуальнага мастацтва. Бо, у адрозьненьне ад музыкаў, якія, падзяліўшыся на кампазытараў і выканаўцаў, выдатна ладзяць адзін з адным, для эгацэнтрычных мастакоў-творцаў блюзьнерская сама думка пра ўмяшаньне кагосьці староньняга ў сьвятая сьвятых – у тварэньне майстра. Культ унікальнасьці і непаўторнасьці мастацкага твора, арыгінальнасьці і пазнавальнасьці «рукі майстра» збольшага апраўданы, калі гаворка ідзе пра традыцыйныя арт-практыкі. Але, калі мы маем справу са зьменнымі мэдыя, пэрформансам, шматкампанэнтнымі мультымэдыйнымі інсталяцыямі і лічбавымі тэхналёгіямі, такі падыход становіцца як мінімум контрпрадуктыўным. Для падтрыманьня жыцьцёвага цыклю мэдыятвора, адаптацыі яго да новых экспазыцыйных умоваў у працэсе яго абслугоўваньня і рэстаўрацыі даводзіцца вырашаць ня проста тэхнічныя пытаньні, але прымаць рашэньні, якія могуць прынцыпова зьмяняць першапачатковую задуму аўтара і ўплываць на працу ў цэлым.*

*Вядома, каб пазьбегнуць непажаданых канцэптуальных і эстэтычных скажэньняў, не дапусьціць дэградацыі сэнсаў, закладзеных у твор, было б выдатна, каб такія работы праводзіліся толькі самім аўтарам або пры яго непасрэдным наглядзе. Аднак, на жаль, гэтага не адбываецца. Аўтара немагчыма назаўжды прывязаць да ўсіх ягоных твораў, а значыць, калі аўтар, з той ці іншай прычыны, недаступны, застаецца пакуль толькі давярацца куратару або мастацтвазнаўцу, тэхнічнаму пэрсаналу ці таму, каму давядзецца па волі выпадку займацца такога кшталту рызыкоўным умяшаньнем у аўтарскі твор. Рызыка тут заключаецца ў тым, што недастатковая кваліфікацыя, адсутнасьць спэцыяльнай адукацыі і мастацкага нюху ці неразуменьне аўтарскай задумкі могуць прывесьці да катастрафічных наступстваў, сказіць працу да непазнавальнасьці. Гэтая непрыемная сытуацыя пагаршаецца яшчэ й тым, што аўтар, ня маючы кантролю над працэсам і канчатковым вынікам, усё адно застаецца цалкам адказным за сваю працу перад гледачом, у якім бы выглядзе яна ні была прадстаўленая.*

*Рашэньнем гэтай праблемы магло б стаць зьяўленьне на сьвет новага ўдзельніка мастацкага працэсу – прафэсійнага мастака-інтэрпрэтатара, які стаў бы злучным зьвяном, пасярэднікам паміж аўтарам і гледачом. Арт-індустрыя ўжо даўно мае ў сваім арсэнале цэлую армію патэнцыйных прэтэндэнтаў на гэтую ролю – тое нябачныя мастакі-асыстэнты, якія пакуль яшчэ застаюцца ў цені.*
*Для таго, каб сёньняшніх асыстэнтаў вывесьці зь ценю і ператварыць у мастакоў-інтэрпрэтатараў, неабходна ў корані перагледзець іх ролю і значэньне для ўсяго мастацкага працэсу. Тэндэнцыя на легітымізацыю ролі асыстэнта як аўтаномнага і паўнапраўнага ўдзельніка арт-працэсу, нягледзячы на супраціў традыцыяналістаў ад мастацтва, выяўляецца, хоць і не занадта відавочна, ужо сёньня. Усё часьцей мы сустракаем практыку, калі мастак не вырабляе сваю працу самастойна, а цалкам перакладае гэтую частку працэсу на плечы асыстэнтаў альбо прафэсійных фірмаў. Прычынай можа быць як канцэптуальная пазыцыя мастака, так і складанасьць тэхналягічнага працэсу, неабходнага для вытворчасьці працы. Але ў любым выпадку такая практыка становіцца ўсё больш распаўсюджанай, і ўсё часьцей можна сустрэць нават згадку імёнаў рэальных выканаўцаў ці назвы кампаній-вытворцаў у каталёгах або на подпісах да прац на выставе.*

*Тут можна ўзгадаць Сол Ле Віта, насьценныя малюнкі якога, па задумцы аўтара, цалкам «афіцыйна» выконваліся рознымі групамі малявальнікаў-асыстэнтаў, прычым рабілі яны гэта нават пасьля сьмерці мастака.*
*Альбо возьмем, да прыкладу, Дэміена Хёрста, напэўна, самага яркага змагара за легітымізацыю працы сваіх асыстэнтаў. Распавядаючы пра сэрыю сваіх карцін з каляровымі кружкамі, ён сказаў: «The spots I painted are shite... The best person who ever painted spots for me was Rachel [Howard]. She's brilliant. The best spot painting you can have by me is one painted by Rachel» («Плямы, якія я маляваў, поўнае дзярмо… Найлепшай асобай, якая малявала для мяне плямы, была Рэйчал [Говард]. Яна фантастычная. Найлепшыя мае плямы, якія вы маглі бачыць, былі намаляваныя Рэйчал»).*

Рэйчал Ховард

N-Chloroacetyl-l-phenylalanine (PFS) Crystalline, 1997

*Яшчэ адзін паказальны прыклад гэтай тэндэнцыі – Марына Абрамавіч. Яе пэрформансы, якія, здавалася, немагчыма аддзяліць ад асобы мастачкі, былі выкананыя спэцыяльна падрыхтаванымі акторамі й акторкамі (агулам – 41 чалавек) падчас вялікай рэтраспэктывы Абрамавіч у MoMA. Гэта дазволіла яе пэрформансам ня проста атрымаць другое жыцьцё на працягу шоў, але і адкрыла ім пэрспэктыву выжываньня на многія гады наперад.*

Reperformance of Imponderabelia

*Такім чынам, мы бачым, што асноўныя стратэгіі і мэтады выжываньня і распаўсюджваньня твора, якія выкарыстоўваюцца ў сфэры музыкі, таксама даступныя і для новага візуальнага мастацтва. Тое, што немагчыма было выстаўляць, прадаваць і захоўваць, выкарыстоўваючы традыцыйныя мэтады, можа атрымаць свой шанец на выжываньне.*

*Радыкальныя зьмены, якія адбываюцца зь візуальным мастацтвам, немінуча прымусяць прыстасоўвацца да новых умоваў і правілаў увесь мастацкі асяродак. І рана ці позна, але ўся сыстэма наладзіцца і запрацуе, як гадзіньнік. Тады новыя мэдыя перастануць быць новымі, яны ператворацца ў ходкі тавар, які абываталь сярэдняй рукі будзе з задавальненьнем нядорага купляць сабе ў гасьцёўню або дзіцячы пакой. Тады настане час для наступнага скоку ў новы агрэгатны стан візуальнага рэчыва.*



Сол Ле Віт (Sol LeWitt), «Насьценны Малюнак # 260» ад 1975



Мадэль кварк-глюоннай плазьмы, зь якой, як мяркуюць, складаўся раньні Сусьвет.

*Калі мы казалі пра агрэгатныя станы, гаворка ішла толькі пра тры зь іх. Насамрэч жа існуе яшчэ й чацьверты – загадкавы і містычны стан, калі звар'яцелыя ад высокай энэргіі электроны адрываюцца ад сваіх ядраў і ператвараюць рэчыва ў тое, з чаго складаюцца зоркі – у плязму...*
*Ці тое яшчэ будзе!*

*Максім Тымінько, 2014*

Візуальны матэрыял: гугл, а таксама фатаграфіі Вікторыі Шчарбаковай




**Пасьля двух месяцаў вымушанага перапынку супрацоўніца музэю ставіць на барыкадах шыльдачку з запрашэньнем у музэй.** Кіеў, сакавік 2014. З архіву НММУ

**After two months of enforced break an employee of the museum places on the barricades a sign with an invitation to the museum.** Kiev, March 2014. From NAMU archive

# ЮЛІЯ ВАГАНАВА: МУЗЭЙ ЯК ПРЫКЛАД САМААРГАНІЗАЦЫІ Й ГРАМАДЗЯНСКАЙ ПАЗЫЦЫІ

Нягледзячы на ўжо больш чым векавую гісторыю, **Нацыянальны мастацкі музэй у Кіеве** сёньня — унікальная пляцоўка, якая выразна артыкулюе не толькі сваю мастацкую місію, але й грамадзянскую пазыцыю, што ёсьць велізарнаю рэдкасьцю, асабліва ў постсавецкай прасторы. З аднаго боку, як і кожная іншая інстытуцыя падобнага фармату, музэй працягвае захоўваць і зьбіраць лепшыя ўзоры ўкраінскага мастацтва. Зь іншага боку, усё часьцей ён становіцца плятформай для рэалізацыі інавацыйных праектаў, зьвязаных з сучаснымі арт-практыкамі. Напрыклад, Дзень моды ад сучасных мастачак-актывістак Аляўціны Кахідзэ й Альбіны Ялоза альбо стварэньне Музэю Майдану — такія праекты, хутчэй, уласьцівыя незалежным культурным ініцыятывам ці музэям сучаснага мастацтва, чымсьці нацыянальным інстытуцыям. **Быць актуальнымі, прысутнічаць тут і цяпер, асабліва ў момант значных гістарычных зьменаў у краіне** — менавіта так збоку бачыцца сёньняшняя місія музэю. І гэта натхняльны прыклад таго, як можа разьвівацца й пазыцыянаваць сябе сучасны музэй: станавіцца прасторай салідарнасьці, месцам сустрэчы пакаленьняў, супольнасьцяў, пунктаў гледжаньня.

Пра тое, як на працу музэю паўплывалі палітычныя ўзрушэньні, як удаецца знаходзіць балянс паміж традыцыяй і інавацыяй, пра рэакцыю ўкраінскай публікі на «экспэрымэнты» распавядае намесьніца дырэктаркі па выстаўнай рабоце й міжнароднай дзейнасьці, удзельніца праекту «Машына часу. Музэі ў XXI стагодзьдзі» ЮЛІЯ ВАГАНАВА.

**— Юлія, часьцей за ўсё дзяржаўныя нацыянальныя музэі бачацца як досыць кансэрватыўныя, традыцыйныя інстытуцыі, якія слаба альбо павольна рэагуюць на геапалітычныя зьмены навакол. Многія з тых, хто працуе ў такіх інстытуцыях, настойваюць менавіта на «архіўнай», аўтаномнай ролі музэю, абстрагуюцца ад «тут і цяпер». Ваш музэй здаецца выключэньнем. Ці зьвязана гэта ў прынцыпе з тымі зьменамі, якія адбыліся ва Ўкраіне за апошні год?**

**Юлія Ваганава:** Вядома, тыя зьмены, якія зараз адбываюцца ў музэі, зьвязаныя з працэсамі, якія ідуць ва ўкраінскім грамадзтве. Але было б не зусім дакладна ў выпадку з нашым музэем казаць пра гэтыя перамены як пра раптоўныя падзеі, справакаваныя вонкавым фактарам ці кантэкстам. Тым больш — ведаючы ўнікальную гісторыю музэю. Зьмены тут адбываліся заўсёды, і калі мы глядзім на свае праекты сёньня, разумеем, што ідэя, закладзеная ў гэтую інстытуцыю заснавальнікамі, нейкім містычным чынам увесь час усплывае. Таму кожны раз, калі пасьля нейкіх падзеяў, напрыклад, пасьля здабыцьця Ўкраінай незалежнасьці на пачатку 1990-х, супрацоўнікі музэю падыходзілі да пытаньня пра фармаваньне нейкай новай місіі, аказвалася, што гэтая місія была закладзеная першапачаткова, і яна слушная. Проста трэба яе бачыць, падтрымліваць і разьвіваць.

Адкрыты ў 1899 годзе, **музэй першапачаткова быў заснаваны як публічная інстытуцыя**. Гэта не былі калекцыя імпэратара ці прыватныя зборы, якія хацелі камэрцыялізаваць і потым яны сталіся музэем, гэта таксама не была царкоўная калекцыя. Гэтая інстытуцыя фармавалася месьцічамі: больш за 50% сродкаў на яе стварэньне далі грамадзяне гораду. Так, гэта былі мэцэнаты, але іх было шмат. Яны аб'ядналіся, разумеючы, што падобная адкрытая інстытуцыя патрэбная гэтаму гораду. Гэты момант, на мой погляд, важны для таго, каб разумець сучасную гісторыю музэю.

Далей — вельмі істотнымі, на мой погляд, зьяўляюцца **працэсы, якія пачаліся ўнутры інстытуцыі ў «нулявыя».** Музэй тады прымаў удзел у розных праграмах, у тым ліку ў маштабнай праграме МАТРА, якая, безумоўна, паўплывала на прафэсійны ўзровень людзей, якія тут працавалі. Пачалася хваля новых праектаў, у тым ліку зьвязаных з актуальным мастацтвам, фармавалася новая каманда, у якой цудоўным чынам склаўся балянс паміж спэцыялістамі старой школы з клясычнай мастацтвазнаўчай адукацыяй і маладымі крытыкамі, што працуюць ужо з сучаснымі візуальнымі тэорыямі. І на сёньняшні дзень сярэдні ўзрост супрацоўнікаў музэю — 35 гадоў, што, вядома, паказальна для такой нацыянальнай інстытуцыі.

Так **паступова фармавалася новае разуменьне**, бачаньне музэю, ягонага месца ў грамадзтве, адбываліся спробы знайсьці кропкі перакрыжаваньня розных таварыстваў і супольнасьцяў. Але паваротным пунктам, на мой погляд, сталася гісторыя са зьменай кіраўніцтва ў музэі напрыканцы 2011 году. Тады са сваёй пасады быў зьняты адзін дырэктар, які працаваў тут каля 10 гадоў, і прызначаны іншы — з галерэйнай камэрцыйнай сфэры, безь якога-небудзь досьведу працы ў падобнай інстытуцыі й з мэтамі, якія разыходзіліся з чаканьнямі супрацоўнікаў. Гэта выклікала хвалю пратэсту ўсярэдзіне музэю, і, нягледзячы на тое, што ў тыя часы лёгка маглі звольніць, пачалося супрацьстаяньне, якое доўжылася амаль год. Напрыклад, калегі з аддзелу адукацыі выходзілі на экскурсіі зь белай павязкай на рукаве ці палоскай вакол ілба з надпісам: «Я пратэстую», — і гэтак вялі экскурсіі. Задушыць гэты пратэст не атрымалася.

Прафэсійная супольнасьць тады таксама падтрымала Музэй невялікімі акцыямі, і такім чынам ён абараніў сваю пазыцыю.

Быў прызначаны конкурс на пасаду дырэктара, а гэта быў першы конкурс у гісторыі музэю. І, хоць ён праваліўся, дырэктарам была прызначаная Марыя Задарожная. Яна працавала ў музэі ўжо каля 20 гадоў, выдатна ведала калектыў і калекцыю, і таму, асэнсоўваючы праблемы зьсярэдзіны, шмат увагі пачала надаваць менавіта стварэньню атмасфэры ў калектыве. Для яе важнаю была каманда, у якой кожны мог сябе рэалізоўваць. І вось так мы сустракалі Майдан.

**— Гэта значыць, для музэю падзеі на Майдане ня сталіся канцэптуальным паваротным пунктам? Музэй ужо быў іншы?**

**Ю. В.:** Мне здаецца, так. Яшчэ да Майдану музэй зрабіў некалькі інавацыйных для сябе як для нацыянальнай інстытуцыі й для грамадзтва праектаў, якія сьведчылі пра зьмены. Напрыклад, «Кангрэс малявальшчыкаў», ініцыяваны польскім мастаком Паўлам Альтхамэрам на Бэрлінскай біенале ў 2012 годзе. Сутнасьць праекту палягала ў тым, што ў музэі была вызначаная прастора, на сьценах якой візуальнымі мэтадамі кожны ахвотны мог выказацца. Можна было маляваць, зафарбоўваць тое, што намаляваў іншы, цалкам зафарбоўваць сьцены белым і г. д. Для ўдзелу ў праекце запрашаліся розныя групы, у тым ліку й мастакі, якія былі пастаўленыя ў нязручнае для іх становішча: атрымлівалася, што іхная творчасьць была раўнацэнная творчасьці любога наведніка. Некаторыя нават з гэтай прычыны адмаўляліся браць удзел.

Ці іншы праект — з польскім мастаком Артурам Жміеўскім і Цэнтрам візуальнай культуры ў Кіеве. Нашай задачай тады было паказаць, чым жыве музэй. Мы адкрылі ўсе дакумэнты, пусьцілі хлопцаў у фонд, паказалі бюджэт музэю, тое, як мы выдаткоўваем грошы. Гэта значыць, ужо тады мы шукалі балянс паміж традыцыйнымі праектамі й інавацыйнымі, дыскусійнымі. Нашаю задачай было прыцягненьне розных аўдыторыяў.

**— Калі пачаліся падзеі на Майдане, мы ў Беларусі, чытаючы навіны, былі ўражаныя дзеяньнямі супрацоўнікаў музэю на чале з дырэктаркай. Для нас гэта быў сапраўды прыклад салідарнасьці й магчымасьці дзейнічаць і ўплываць на сытуацыю нават унутры невялікай прафэсійнай супольнасьці.**

**Ю. В.:** Так, калі пачаўся Майдан, дырэктарка музэю адна зь першых зразумела, што, па-першае, ніхто з вайскоўцаў не павінен увайсьці ў музэй, і, па-другое, і гэта зьяўляецца найбольш важным, мы не павінны сядзець у музэі пад замком: трэба выходзіць вонкі й размаўляць з «Бэркутам» і іншымі вайскоўцамі. Музэй апынуўся тады перад барыкадамі, цалкам акружаны атрадамі «Бэркута» й унутраных войскаў, і нашай задачай было паказаць, што гэта будынак не пусты, што мы тут ёсьць. Усё адбывалася інтуітыўна, але мы разумелі, што дыялёг неабходны.

> На мой погляд, уся сытуацыя ва Ўкраіне — гэта вынік дваццацігадовага маўчаньня, адсутнасьць банальнай чалавечай камунікацыі паміж людзьмі.

І я думаю, гэта зносіны з вайскоўцамі — тое, што мы выходзілі да іх, прасілі, каб яны адсунулі бочкі з агнём ад плоту, каб не палілі на фасадзе музэю вогнішчы, каб прыбіралі за сабой, — спрацавала. Таму што, напрыклад, калекцыя Музэю Кіеву (якая захоўвалася ва Ўкраінскім Доме) была часткова разьбітая, калі туды ўвайшоў «Бэркут». Нам удалося абараніць музэй. Толькі аднойчы адзін афіцэр паспрабаваў увайсьці, але нашая дырэктарка сказала, што не, гэтага ня будзе. Ён ёй прыгразіў трыбуналам, яна адказала, што добра, тады мы напішам заяву пра сыход, і яны будуць вырашаць гэтае пытаньне зь іншымі людзьмі. У выніку ніхто ў музэй не ўвайшоў.

Важна таксама адзначыць, што **музэй стаў прыкладам самаарганізацыі,** грамадзянскага пратэсту яшчэ да таго, як пачаўся Майдан. Маю на ўвазе гісторыю са зьменай дырэктараў: тое, як тады згуртавалася прафэсійная супольнасьць, і высьветлілася, што можна абараніць сваю пазыцыю. Такі ж прыклад самаарганізацыі быў і падчас Майдану, калі музэй прымаў усе рашэньні самастойна. Таму што Міністэрства культуры й Адміністрацыя прэзыдэнта, калі пачалі гарэць шыны перад фасадам, ніяк не рэагавалі на нашыя лісты. Практычна мы былі кінутыя, павінны былі самі прыдумляць, што нам рабіць і як паводзіцца ў гэтай сытуацыі. Мы наўпрост зьвярнуліся ў МЧС і дамовіліся, каб яны прызначылі нам пост з двух іхных супрацоўнікаў на выпадак пажару й іншых нестандартных сытуацыяў. Вядома, мы й пратэстоўцаў на Майдане прасілі, каб яны памяталі, калі кідаюць кактэйлі Молатава ў наш бок, што ўсё ж такі тут знаходзіцца лепшая калекцыя ўкраінскага мастацтва. Прасілі, каб яны патушылі шыны, таму што дым трапляў у Музэй і мог асядаць на працах. Менавіта таму мы зьнялі калекцыю зь першага паверху й схавалі яе ў фонды, каб не асядала курыва. Часткова нас пачулі, і праз пару дзён шыны перасталі гарэць.

**— І як музэй працягваў жыць пасьля Майдану?**

**Ю. В.:** Пасьля Майдану музэй апынуўся ў незразумелай сытуацыі. Вядома, усе праекты былі адмененыя. Мы не маглі браць на сябе адказнасьць за міжнародныя праекты, нашыя выставы таксама зрушыліся. Была такая сытуацыя ліхалецьця й завісаньня.

> Тым ня менш гэта дапамагло нам па-іншаму адказваць на тое, што адбываецца: рэагаваць тут і цяпер і рабіць гэта максымальна сумленна, спрабаваць хоць бы інтуітыўна шукаць тэмы, якія будуць адгукацца ў грамадзтве.

І першы праект, які мы зрабілі, гэта быў «Кодэкс Міжгор’я» — выстава прадметаў з рэзыдэнцыі Януковіча, якія выпадкова апынуліся ў нас. Справа ў тым, што, калі пратэстоўцы ўвайшлі ў рэзыдэнцыю, многія разумелі, што можа пачацца марадзёрства. Была створаная музэйная група, у тым ліку з супрацоўнікаў нашага музэю, якія апісвалі гэтыя прадметы. У нас былі вольныя залі першага паверху, таму гэта ўсё зьвезлі да нас. Прэса пачала актыўна пісаць пра гэта, і мы зразумелі, што мы ня можам іх не паказаць. Пытаньне было толькі ў тым — як? Мы запрасілі ў якасьці куратара сучаснага мастака Аляксандра Ройтбурда, двух маладых архітэктараў як экспазыцыянэраў, і яны знайшлі ход. У той момант паралельна адкрываўся праект «Наш шлях да незалежнасьці», гэта былі фатаграфіі барыкадаў у Рызе 1990-х гадоў. І тут жа на першым паверсе — выстава францускага фатографа Эрыка Бувэ: фатаграфіі з Майдану. Такім чынам натуральна ўзьнік пэўны шлях, які глядач павінен быў пераадолець, каб паглядзець выставу скарбаў Януковіча: спачатку й пасьля прайсьці праз фатаграфіі з Майдану.

> Мне запомнілася гісторыя з адным наведнікам, які, сустрэўшы ў калідоры дырэктарку, сказаў ёй: «Я першы раз у вашым музэі. Я прыйшоў паглядзець на мастацтва, атрымаць асалоду й расслабіцца. А вы што робіце? Вы мне мозг датэрмінова спыняеце!» Для мяне гэта важны камэнтар.



Паралельна здарылася яшчэ адна рэч: зьмянілася стаўленьне дзяцей да музэю. У нас ёсьць невялікая дзіцячая зона, якая зьявілася дзякуючы праекту «Альтхамэр», і мы яе пакінулі. Калі раней дзеці малявалі нейкія свае ўражаньні ад убачанага ў музэі, іхныя думкі, настрой, то раптам пачалі зьяўляцца малюнкі-рэфлексіі на тое, што адбываецца за сьценамі музэю — украінская сымболіка, ваенная тэма, абаронцы. Такія тэмы мы ім не прапаноўвалі, яны раптам самі зразумелі, што музэй ёсьць месцам, куды можна прынесьці зьнешнюю рэфлексію альбо абмеркаваць тое, што адбываецца звонку. Для нас гэта таксама важны знак.

То бок гэты год складаны, але ў той жа час шматспадзеўны ў тым пляне, што Міністэрства не «спускае» нам ніякіх праектаў, у прыняцьці рашэньняў мы досыць вольныя. У гэтым ёсьць і небясьпека, таму што, **калі ты вольны, ты мусіш разумець, што ты паказваеш і на што рэфлексуеш, быць больш адказным.** Асабліва прымаючы пад увагу сытуацыю ў грамадзтве й у краіне ў цэлым.

**— Мне б хацелася зьвярнуцца да гісторыі з наведвальнікам, якую вы распавялі, калі ён папракнуў музэй у тым, што выстава «разьдзірае мозг». Гэта якраз зьвяртае нас да аднаго з самых дыскусійных пытаньняў у мастацкай супольнасьці, асабліва калі гаворка ідзе пра нацыянальныя музэі, а менавіта — роля й месца мастацтва, музэю ў сучасным грамадзтве. Ці павінен музэй улучацца ў «тут і цяпер», станавіцца часткай грамадзкай дыскусіі? Альбо ўсё ж ён мусіць заставацца аўтаномным, такою выспай стабільнасьці й бясьпекі? Як вы вызначаеце сваю стратэгію?**

**Ю. В.:** Каб паспрабаваць адказаць, зайду збоку. Пачатак гэтага праекту — маю на ўвазе «Музэй — машына часу» — амаль супаў з пачаткам маёй працы ў Нацыянальным музэі. Да гэтага я 15 гадоў працавала ў Цэнтры сучаснага мастацтва, заснаваным у Кіеве Фондам Сораса ў 1995 годзе. Безумоўна, гэты досьвед працы з сучасным мастацтвам, нашая амаль лябараторная дзейнасьць уплываюць на мяне. Калі я прыйшла ў дзяржаўную інстытуцыю, убачыла, што яна працуе цалкам па-іншаму, тут існуюць свае правілы, многіх рэчаў спачатку я не разумела.

Якраз падчас нашых сэмінараў у межах праекту Інстытуту Гётэ мы пэрыядычна распачыналі дыскусіі з нагоды сучаснага мастацтва ў традыцыйным музэі. Незалежныя куратары й мастакі казалі пра тое, што музэі павінны адкрыць свае дзьверы сучаснаму мастацтву. І я зразумела, што думала сапраўды гэтак жа, пакуль не пачала працаваць у нацыянальным музэі. Так, музэі павінны адкрываць свае дзьверы новым практыкам, таму што ня могуць адгарадзіцца ад таго, што адбываецца. Але тут важна разумець, што гэтыя музэі вельмі доўга былі савецкімі, традыцыйнымі, таму, каб зьмяніць сытуацыю, патрэбны час. Вельмі дакладна сказаў Давід Лордкіпанідзэ: так, можна ажыцьцяўляць зьмены ў інстытуцыі хірургічным шляхам, а можна — тэрапэўтычным.

> Бывае сытуацыя, калі інстытуцыя ў крызысе, і тады, магчыма, дапаможа хірургія. Але спачатку трэба паспрабаваць іншыя мэтады. «Абсяканьне» можа быць занадта балючым і траўматычным.

А вось калі й мастакі, і інстытуцыя разумеюць, што гэта працяглы працэс, яны паступова, крок за крокам, часам праз кампраміс, падыходзяць да зьмены сытуацыі. Вядома, цэнзура не дапушчальная ў мастацтве. Але неабходна шукаць кампрамісы — як паступова зьмяняць інстытуцыю, аўдыторыю, якая прызвычаілася да традыцыйнага, прыгожага мастацтва.

**— І як вы знаходзіце гэты балянс?**

**Ю. В.:** Мы стараемся працаваць у некалькіх напрамках. Па-першае, чаргуем выставы, напрыклад, паказваем досыць традыцыйную экспазыцыю, а сьледам — выставу сучаснага мастацтва. Вось мы зладзілі праект пра Майдан, потым быў праект «Places», гэта ляўрэаты прэміі Малевіча. А затым мы адкрылі выставу ўкраінскага мастака 1960-х Анатоля Сумара. Такім чынам быў дасягнуты фармальны балянс. Але яшчэ раз адзначу, што гэты працэс ідзе ўжо з 2000-х.

Па-другое, што мне здаецца больш цікавым, мы спрабуем працаваць са сваёй калекцыяй: паказваць яе не ў храналягічным разрэзе, а з дапамогай прац адкрываць пэўныя тэмы. Калі раней мы проста казалі пра мастацтва XVIII стагодзьдзя, то зараз спрабуем вылучыць пэўныя яскравыя тэмы ў межах канкрэтнага пэрыяду — украінскае барока або партрэт, напрыклад. Ці, калі мы гаворым пра нейкага мастака, акцэнтуем увагу ў тым ліку на ягонай асобе, паказваем ягоную грамадзянскую, мастацкую пазыцыі. Пакуль мы імкнемся гэта рабіць праз дадатковыя праекты, лекцыі. Так, паўтара года таму ў нас была выстава значнага ўкраінскага мастака пачатку XX стагодзьдзя Васіля Крычаўскага. Нашаю задачай было ня толькі прэзэнтаваць ягоную дзейнасьць, але распавесьці пра яго як унікальную асобу. Ён быў стваральнікам украінскага гербу, рабіў кнігі, быў адным з заснавальнікаў Акадэміі мастацтваў, адным зь першых мастакоў, якія працавалі на кінастудыі Даўжэнкі.

Што да працы з уласнай калекцыяй, у сьнежні мінулага году мы зладзілі праект «Героі. Інвэнтарызацыя», які для нас стаўся ўнікальным досьведам. Такога прэцэдэнту, калі музэй цалкам перабірае сваю калекцыю — ад старажытнага абраза да працаў XX стагодзьдзя — толькі дзеля таго, каб стварыць маштабны праект на канкрэтную тэму, яшчэ не было. Акрамя гэтага праект стаўся плятформай для камунікацыі паміж супрацоўнікамі музэю, аб’яднаў у адну каманду захавальнікаў розных аддзелаў. Яны ня проста працавалі са сваёй калекцыяй, але камэнтавалі выбар іншых захавальнікаў. Дарэчы, пэўны досьвед «падрыхтоўкі» да такога кшталту праекту музэй ужо меў: згадаю, напрыклад, выставы «Міт. Украінскае барока» й «Дынаміка: Віктар Рыжых. Кіеўскі футбол» у 2012 годзе, «Музыка: пабачыць гук» у 2013-м.

**— Ці зьвязаная перадгісторыя праекту з падзеямі на Майдане, які нарадзіў сучасных герояў?**

**Ю. В.:** Ідэя зьявілася раней, дзякуючы якраз праекту «Машына часу — музэй XXI стагодзьдзя». Два гады таму ў Бэрліне мы пазнаёміліся з прафэсарам і куратарам Міхаэлем Фэрам і запрасілі яго ў Кіеў. Спачатку думалі, што ён проста правядзе майстар-клясы, але ў выніку вырашылі зладзіць поўнамаштабны выстаўны праект пра герояў.

Але, зразумела, штуршком для такой тэмы сталася сытуацыя ва Ўкраіне, калі ў нас пачалі зьяўляцца новыя героі. Вы, напэўна, ведаеце гэты лёзунг: «Слава Ўкраіне! Героям слава!» Пасьля Майдану паўстала дыскусія, як і ці трэба рабіць героямі загінулых на Майдане й тых, хто цяпер ваюе на

ўсходзе, ці варта ўзнагароджваць іх званьнем Героя Ўкраіны. Таму што гэтае званьне, як вядома, каранямі сыходзіць у рыторыку Савецкага Саюзу й зьяўляецца палітызаваным. У выніку мы прыйшлі да ідэі ў прынцыпе паспрабаваць раскрыць топас «героя», «подзьвігу» й «гераізму» на тле гісторыі Ўкраіны (да здабыцьця ёю незалежнасьці ў 1991 годзе) з мэтай паказаць, што фігура героя зьвязаная з часавым кантэкстам — сацыяльным, культурным, палітычным.

Дзеля гэтага мы правялі інвэнтарызацыю калекцыі музэю й ідэнтыфікавалі каля 600 карцінаў і скульптур, якія можна неяк зьвязаць з топасамі «герой», «сьвяты» й «пакутнік». У выніку выбралі каля 230 работ, якія й будуць паказаныя на выставе. У працэсе працы нам станавілася відавочна, што ўяўленьне пра героя зь цягам часу зьмяняецца, таму што ў залежнасьці ад кантэксту пад подзьвігамі разумеюцца розныя дзеяньні. Героі заўсёды абвяшчаюцца трэцімі асобамі, то бок героі й подзьвігі канструююцца й рэканструююцца іншымі, і гэтыя канструкцыі падлягаюць палітычным і гістарычным зьменам, а фігуры герояў могуць жыць сваім уласным жыцьцём. Такім чынам, мы хацелі б разам з гледачом паразважаць пра тое, што такое подзьвіг? **За які подзьвіг і хто становіцца героем?** Хто, каго й калі абвяшчае героем? Якія адрозьненьні існуюць паміж героямі й сьвятымі, героямі й пакутнікамі, героямі й праведнікамі, героямі й «зоркамі»? Якія тыповыя элемэнты візуальнай мовы можна вызначыць у выявах герояў у розных эпохі? **Адкуль яны зьяўляюцца й як зьмяняюцца? Ці патрэбны сёньня герой, альбо грамадзтва можа жыць безь яго?**

На базе калекцыі мы таксама вызначылі, што ў нас ёсьць розныя тэмы герояў — нацыянальных, культурных, палітычных, вайсковых. Часам у карцінах героем зьяўляецца сам народ, нацыя. У нейкі момант паўстала пытаньне абразоў: ці павінны мы Хрыста й Маці Боскую ўносіць у гэтае абмеркаваньне гераізму? У выніку адмовіліся, бо зразумелі, што пакуль ня бачым, як можна гэта зрабіць. Але, напрыклад, абразы з Гаўрылам і Міхаілам ёсьць у экспазыцыі, таму што форма клеймаў, якія там намаляваныя, добра паказвае, як канструюецца вобраз: быў пакутнікам, потым становіцца героем. Усяго ў экспазыцыі восем заляў, але апошні мы пакідаем пустым для рэфлексіі, для дэканструкцыі гераізму й абмеркаваньня сучасных герояў.

**— Дзякуй, Юлія. Апошняе маё пытаньне тычыцца музэю савецкага мінулага, ідэя якога ўсё часьцей узьнікае на постсавецкай прасторы. Як вам падаецца, ці патрэбны такі музэй і якім ён можа быць?**

**Ю. В.:** Вядома, патрэбны. Але важна дакладна яго назваць і вызначыць тэму. Калі мы будзем казаць толькі пра савецкае, закрыем сабе шлях да многіх іншых тэмаў і асэнсаваньня гэтага савецкага. Важна ня проста адрэфлексаваць гэтае мінулае, але зразумець, якія агульныя тэмы й канцэпты зьявіліся ў гэтай прасторы. Гэта неабходна дзеля таго, каб зразумець, як гэта здатнае паўплываць і якім чынам можа быць выкарыстана ў будучыні.

Таму такі музэй я бачу ў форме тонкага балянсаваньня, і важна спрабаваць выходзіць за геаграфічныя межы: шукаць паралелі й кропкі перакрыжаваньня ў гісторыях іншых краін, іншых супольнасьцяў. Тады, магчыма, атрымаецца зразумець, як можна працаваць з гэтай траўмай. Напрыклад, у некаторых краінах існуюць Музэі савецкай акупацыі, вядома, яны патрэбныя, але яны гавораць даволі простай мовай. Напэўна, першы этап можа быць і такім: колькі загінула чалавек, хто каго выслаў і за што і г. д. Але, калі глядзець у пэрспэктыву, такі падыход закрывае магчымасьць для далейшага разьвіцьця. Выкрыцьцё — толькі адна частка, важная, але толькі адна.

А час хутка зьмяняецца, і калі мы зараз ня знойдзем форму, як разьвіваць гэтую тэму, яна зноў закапсулюецца, і рана застанецца, а мы ня вырашым гэтую праблему.

Важна разьвесьці гэтую тэму на розныя вэктары, перапрацаваць гэты досьвед, даць яму выйсьце. Як гэта зрабіць, я ня ведаю, але на ўзроўні інтуіцыі бачу гэта так.

*Гутарыла Таня Арцімовіч*



**Супрацоўніцы музэю надзелі маскі на знак нязгоды з законамі 16 студзеня.**
Кіеў, 2014. З архіву НММУ

**Employees of the museum put on masks in disagreement with the laws of January 16.**
Kiev, 2014. From NAMU archive

**За сьпінай заснавальніка музэю Мікалая Быляшыўскага — намёт «Бэркута».**
Кіеў, люты 2014. З архіву НММУ

**Behind the back of the museum's founder Mykola Biliashivskiy is a tent of Berkut.**
Kiev, February 2014. From NAMU archive

